ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

ЛіМ

# ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

22 кастрычніка 1993г №42 (3712) Кошт 10 руб.

## БРАТЫ МАЕ ПРАЦЯГВАЮЦЬ МНЕ РУКІ

***Уладзімір МЕХАЎ: «Не зграшу супраць праўды, сказаўшы, што не ўцёк бы, а калі б і ўцёк, усё роўна не знайшоў бы паратунку ніводзін з асуджаных на смерць у гета, калі б неяк не пададзена была яму рука падтрымкі людзьмі, якія да «кантынгенту» гета адносін не мелі. Зямны паклон тым з іх, хто яшчэ жыве. Не згасае хай добрая памяць пра тых, каго няма».***

**СТАРОНКІ 3, 14—15**

## І ЎЦІСК, І ПРЫМУС...

***Алесь ЧОБАТ пра вайну 1920 года на Беларусі.***

**СТАРОНКІ 5, 12**

## ЯГО ВІДУШЧЫ ЛЁС

***Гутарка Галіны Шаблінскай з паэтам і перакладчыкам Васілём ЖУКОВІЧАМ.***

**СТАРОНКІ 6—7**

## СЛУЖЫМ АЙЧЫНЕ

***Газета Згуртавання беларускіх вайскоўцаў у «ЛіМе».***

**СТАРОНКІ 8—9**

## «І НІЯКІХ НАМ ПАЛАЦАЎ НЕ ТРЭБА...»

***Пятро ВАСІЛЕЎСКІ згадвае пра Уладзіміра УЛАДАМІРСКАГА.***

**СТАРОНКА 10**

## «ЛЮБОЎ, ВЕРА, НАДЗЕЯ»

***Трыпціх беларускай мастачкі з Амерыкі Тамары СТАГАНОВІЧ.***

**СТАРОНКА 16**



Ох, і цяжкая справа — сфатаграфаваць... песню! А песень быў добры тузін: кампазітар Э. Зарыцкі стварыў адмысловы цыкл на вершы Н. Гілевіча і назваў яго «Мара Скарыны» /аранжыроўка І. Паліводы/. Прэзентацыя песеннай нізкі /склалі яе не толькі новыя творы, але і апрабаваныя часам/ адбылася у рэпетыцыйнай зале Дзяржаўнага канцэртнага аркестра Беларусі. Калектыў на чале з мастацкім кіраўніком М. Фінбергам наладзіў сапраўднае свята для сваіх гасцей — паэтаў, музыкаў, журналістаў... На здымках **В. Стралкоўскага** вы пазнаеце і дырыжора М. ФІНБЕРГА, і паэта Н. ГІЛЕВІЧА, і папулярную салістку І. АФАНАСЬЕВУ.





Кола дзён

***Безумоўна, ТЭМАЙ ТЫДНЯ сталі размовы пра грошы, пра грашовыя адносіны паміж Беларуссю і Расіяй, якія то затухалі, то разгараліся з новай сілай у друку ў сувязі з рашэннямі беларускага ўрада, заявамі і інтэрв'ю кіраўнікоў сумежных дзяржаў. ВЫСНОВУ ТЫДНЯ можна зрабіць такую: сітуацыя на Беларусі склалася крытычная, беларускія рублі абясцэньваюцца не па днях, а па гадзінах, адпаведна падае і ўзровень жыцця грамадзян краіны, «рублёвая зона» з абяцаным абменам рублёў 1 да 1, падобна, застаецца ружовай марай урада Кебіча і «забыта» на няпэўны час маскоўскімі палітыкамі, якія ўсур'ёз заняліся падрыхтоўкай да выбараў. Разбурэнне, абвал эканомікі суседняй дзяржавы іх мала хвалюе. Адзінае, на што можа спадзявацца цяпер урад Кебіча, — гэта поўная падпарадкаванне ўласнай грашовай палітыкі — расійскай. Ён здольны пайсці на гэта, падпісаўшы тым самым прыгавор нашай незалежнасці. Але ўсё ж, дазволім сабе зрабіць ПРАГНОЗ ТЫДНЯ: з 1 студзеня 1994 года «рублёвая зона» створана не будзе, бо, па вялікім рахунку, гэта не адпавядае ні інтарэсам Расіі, ні інтарэсам Беларусі. І таму нашаму ўраду нічога не застанецца, як увесці сваю нацыянальную валюту, якая ўжо аддрукавана. Гэта будзе, вядома, запозненым /не на месяц і не на год... / крокам, і беларускі народ з часам, спадзяёмся, дасць праўдзівую ацэнку дзеянням урада Кебіча, які зруйнаваў эканоміку «самай стабільнай і самай перадавой» краіны былога СССР, а потым і СНД.***

## ЗВАРОТ ТЫДНЯ

Беларусь звярнулася да Інтэрпола з просьбай дапамагчы знайсці нацыянальную рэліквію — крыж Еўфрасінні Полацкай. Ён знік без слядоў у 1941 годзе, калі фашысты акупавалі Магілёў. Міністр замежных спраў Беларусі Пётр Краўчанка ў інтэрв'ю газеце «Юропіэн» сказаў: беларускі ўрад лічыць, што крыж вывезены немцамі, потым прададзены ў канцы вайны на аўкцыёне і зараз уваходзіць у калекцыю аднаго з самых багатых людзей свету. Мы спадзяёмся, падкрэсліў П. Краўчанка, што крыж нам будзе вернуты добраахвотна, па-джэнтльменску, бо толькі з вяртаннем яго «шчасце і дабрабыт зноў запануюць на зямлі Беларусі».

## ПАРТГАСАКТЫЎ ТЫДНЯ

Старшыня Савета Міністраў Беларусі Вячаслаў Кебіч правёў у Баранавічах семінар-нараду старшыняў абласных, раённых і гарадскіх Саветаў народных дэпутатаў з удзелам кіраўнікоў міністэрстваў і ведамстваў. Акрамя «праблем удасканалення бюджэтнай і падатковай палітыкі, раздзяржаўлівання і прыватызацыі дзяржаўнай маёмасці», якія ўзнікаюць у працэсе «станаўлення зусім новага дзяржаўнага ўстройства», былі абмеркаваны «пытанні выкарыстання паліўна-энергетычных рэсурсаў у электраэнергетыцы, забеспячэння рэспублікі нафтапрадуктамі, прыродным газам». Завяршылася мерапрыемства наведаннем адной з авіячастак, дзе лётчыкі прадэманстравалі гасцям узоры сучаснай авіятэхнікі і элементы вышэйшага пілатажу. С. Шушкевіч так пракаментаваў апошні факт: «Выходзіць, не ва ўсіх не хапае паліва. У кагосьці яно ёсць, і, відаць, занадта...» Пасля семінара разгарэўся і СКАНДАЛЬЧЫК ТЫДНЯ: выказваў на ім В. Кебіч думку пра неабходнасць роспуску мясцовых Саветаў, як гэта паведамілі «Народная газета» і «Знамя юности», альбо не, як сцвярджае прэс-служба Саўміна. У нас, зразумела, няма доказаў праўдзівасці аднаго з бакоў, а таму пачакаем развіцця падзей.

## ПРЫЗНАННЕ ТЫДНЯ

Падчас сустрэчы Станіслава Шушкевіча, членаў беларускага ўрада і дэпутатаў парламента з працаўнікамі Мінскага арэнднага прадпрыемства «Крыніца» старшыня Нацыянальнага банка Беларусі С. Багданкевіч заявіў літаральна наступнае: «Входить в различные союзы с Российской Федерацией следует только тогда, когда это выгодно нам. Вряд ли Беларусь уже с января 1994 года откажется от использования «зайчиков», даже если мы с Россией сумеем оперативно объединиться». /«Сов. Бел.», 19 кастрычніка/. Дзеля справядлівасці адзначым, што ў няпростых варунках Станіслаў Багданкевіч не раз паказваў сябе адукаваным, цвярозым, вопытным спецыялістам і палітыкам. Ён мог бы быць і больш паслядоўным і рашучым, калі б гэтак моцна не залежаў ад урада Кебіча.

## ЮБІЛЕЙ ТЫДНЯ

19 кастрычніка ў Доме літаратара адбылася вечарына «Кніжнік Ярыла», прысвечаная 110-ым угодкам з дня нараджэння гісторыка, публіцыста, літаратуразнаўцы Вацлава Ластоўскага, якую арганізавала БСДГ. Гэта ці не першае афіцыйнае ўшанаванне памяці незаслужана забытага, забітага бальшавікамі дзеяча беларускага Адраджэння. Першае і дужа сціплае, не дзяржаўнае... І нам трэба схіліць галовы і павініцца прад ім, што гэтак мала робім дзеля вяртання ягонай спадчыны, дзеля ажыццяўлення ягоных мараў... Падчас вечарыны быў згаданы і яшчэ адзін юбілей: менавіта ў гэты дзень пяць гадоў таму, 19 кастрычніка 1988 года, быў створаны Беларускі народны фронт.

## НАВІНА ТЫДНЯ

Чацвёртым на Беларусі універсітэцкім горадам, пасля Мінска, Гомеля і Горадні, стаў Полацак. Статус універсітэта займеў Наваполацкі /цяпер — Полацкі/ політэхнічны інстытут. У ім ужо дзейнічаюць новыя факультэты — замежных моў і фінансава-эканамічны, а з наступнага года будзе адчынены юрыдычны. Хай стане гэта пачаткам сапраўднага адраджэння старажытнай сталіцы Беларусі, якая некалі была /калі «забыць» пра Вільню/ першым нашым універсітэцкім горадам.

## РЭАЛІІ ТЫДНЯ

У сувязі з новым курсам беларускага рубля да расійскага /3 да 1/, Міністэрства сувязі зноў «часова, да асобага распараджэння» прыпыніла прыём грашовых пераводаў у Расію. Бо шмат знаходзіцца жадаючых стварыць на гэтым «свой бізнес». Такім чынам, Міністэрства сувязі адназначна лічыць, што Беларусь мае сваю валюту і не ўваходзіць ні ў якую «рублёвую зону».

## «АСВЕТНІЦТВА» ТЫДНЯ

У Мінску ў продажы з'явіўся Англа-рускі слоўнік табуізаванай мовы, які ўключае да 2000 ідыём, што лічацца нецэнзурнымі. Дапаможнік для прафесійных перакладчыкаў, як і чакалася аўтарамі, найбольшы попыт мае сярод вучняў сярэдніх школ. Дарэчы, як сведчаць вучоныя-даследчыкі гэтай лексікі, «рускі» чалавек можа выключна на ёй у быце і на працы выказаць любую сваю думку. Цяпер у яго будзе мажлівасць з дапамогай мінімуму слоў вольна перамаўляцца і па-англійску.

Кола дзён

Канферэнцыі

# РАСПРАГАЙЦЕ, ХЛОПЦЫ, КОНЕЙ...

***Скон савецкай улады на абшарах Расійскай Федэрацыі і ўмацаванне асабістай улады Прэзідэнта прынцыпова нічога не змянілі ў беларуска-расійскіх стасунках. Захоўваецца і нават узмацняецца залежнасць Беларусі ад расійскай нафты, расійскага рубля і расійскіх палітычных рэалій. Камуністы збіраліся /прынамсі, былі гатовыя/ аднавіць імперыю збройным шляхам, маскоўскія дэмакраты будуць рабіць тое ж самае, скарыстоўваючы эканамічныя рычагі.***

Як выйсці з гэтага напалову каланіяльнага стану, спыніць раскраданне і распродаж краіны, дасягнуць сапраўднай Незалежнасці — пра гэта ішла гаворка на Канферэнцыі некамуністычных і антыімперскіх сіл Беларусі 16 кастрычніка ў Доме літаратара. На ёй былі прадстаўлены партыі і рухі, якія, магчыма, выступяць адзіным блокам на маючых адбыцца вясною 1994 года выбарах: Беларускі народны фронт, Сацыял-дэмакратычная грамада, Аб'яднаная дэмакратычная партыя, Жаночы хрысціянска-дэмакратычны саюз, Нацыянальна-дэмакратычная партыя і іншыя.

Нядольнасць сённяшняй улады вывесці краіну з крызісу відавочная. Вызначальны момант у палітыцы ўрада і Вярхоўнага Савета — жаданне якім заўгодна шляхам пазбегнуць адказнасці за развал эканомікі і абвальнае падзенне жыццёвага ўзроўню нацыі. І яшчэ — жаданне захаваць за сабою і сваімі нашчадкамі «прыхватызаванае». Таму такое імкненне далучыць Беларусь да Расіі /хоць у якасці губерні/, перапасаваць адказнасць Маскве.

У сённяшнім Саўміне, гаварылася на канферэнцыі, на кіруючых пасадах 60 супрацоўнікаў былога ЦК КПБ, палова членаў «беспартыйнай» фракцыі «Беларусь» у Вярхоўным Савеце — выхаванцы Вышэйшай партыйнай школы пры ЦК КПБ. А колькі ў Вярхоўным Савеце былых партыйных і савецкіх работнікаў?! Чым далей гэтыя «беспартыйныя» будуць кіраваць краінай, тым цяжэй будзе новаму ўраду і парламенту выцягваць Беларусь з дрыгвы.

На канферэнцыі адзначалася, што нафту з Расіі мы атрымліваем фактычна па сусветных цэнах, у той час як наша сельскагаспадарчая і прамысловая прадукцыя ідзе на Усход па цэнах, якія Расія сама і вызначае. Скажам, тэлевізары і халадзільнікі ў два-тры разы танней, чым калі б Беларусь прадавала іх на сусветным рынку, мяса танней больш чым у дзесяць разоў. Калі б Беларусь купляла газ у Алжыры, а нафту ў Арабскіх Эміратах, дык плаціла б меней, чым плаціць сёння Расіі. Так званыя тэхнічныя крэдыты /грашовая наяўнасць, якую прадстаўляе нам Масква як краіне «рублёвай зоны»/ аўтаматычна пераводзіцца ў наш дзяржаўны доўг. І каб вярнуць гэты доўг Расіі /зразумела, з працэнтамі/, Беларусь вымушана пазычаць канвертуемую валюту на Захадзе.

Няма ніякай знешняй палітыкі Беларусі. Пасольствы нашай краіны не маюць планаў дзейнасці, бо ўрад і Вярхоўны Савет не паруліліся распрацаваць знешнепалітычную дактрыну Беларусі. На думку выступоўцаў, візіты кіраўнікоў дзяржавы за мяжу маюць вынікі не намнога большыя, чым звычайныя турысцкія ваяжы.

У цяжкім стане прамысловасць і сельская гаспадарка. Нашы так званыя «высокія ўраджаі» — гэта толькі 70 працэнтаў ад таго, што можа даць наша зямля. Зямлі патрэбны гаспадар. Але што рабіць гаспадару, калі 87 працэнтаў ягонага прыбытку забіраюць у дзяржбюджэт, а каб заправіць трактар, трэба прадаць 500 тон бульбы?

Дарэчы, упраўленчы апарат Рэспублікі Беларусь абыходзіцца падаткаплацельшчыкам у 36 мільярдаў рублёў. Ад такіх грошай добраахвотна ніхто не адмовіцца. Пакінуць свае пасады можа прымусіць іх толькі народ.

Канферэнцыя прыняла дзве рэзалюцыі: «Пра стварэнне пераходнага кааліцыйнага ўрада і новыя выбары» і «Пра абарону дзяржаўнай незалежнасці Беларусі». Дэмакратычныя сілы гатовы ўзяць на сябе адказнасць за лёс Бацькаўшчыны і здзейсніць палітычныя захады дзеля захавання Беларускай дзяржавы і выхаду з крызісу. Узгоднена структура пераходнага кааліцыйнага ўрада, ідуць перамовы наконт яго складу. Так што, калі «коней на пераправе» нарэшце зменяць, вакууму ўлады не будзе.

**В. БОГУШ**

Адгалоскі

# АРМІЯ КРАЁВА — ПАДПОЛЬНЫЯ АКУПАНТЫ

Саўмін нездарма параўноўваюць з колішнім ЦК КПБ. Тыя ж у асноўным людзі, тая ж структура дзяржавы ў дзяржаве, той жа стыль і звычкі. У прыватнасці, несумяшчальная са статусам выканаўчай улады звычка прымаць «палітычныя рашэнні» па гістарычных пытаннях. Так, Саўмін негатыўна выказаўся адносна вынікаў бітвы пад Оршай і святкавання яе чарговай гадавіны; прэм'ер Кебіч, сам не будучы гісторыкам, асудзіў погляды аўтарытэтнага навукоўца Юрыя Туронка, аўтара грунтоўнага даследавання «Беларусь пад нямецкай акупацыяй». А падуладная Саўміну прэса распаўсюдзіла яго меркаванне як афіцыйны дакумент, ісціну ў апошняй інстанцыі.

Ведаючы ўсё гэта, было б лагічна чакаць, што Савет Міністраў альбо ўвогуле якая-небудзь улада нейкім чынам выкажацца адносна вялікай сходкі ветэранаў Арміі Краёвай, што ў канцы мінулага месяца наладзіў у Гародні Саюз палякаў. Але ж — не. Відавочна, што ўлады дэманструюць палітычную пільнасць і забаранільны зуд выключна да акцый, дзе прама ці ўскосна прысутнічае беларуская нацыянальная ідэя.

Я назваў бы сустрэчу ветэранаў Арміі Краёвай бальшавіцкай сходкай. Гэтае мерапрыемства трэба ставіць у адзін шэраг з «Конгрессом народа Белоруссии», з'ездам Саюза афіцэраў і іншымі падобнымі акцыямі, накіраванымі супраць Беларускай дзяржавы. І акаўцы, і «чыкінцы», стоячы нібыта па розныя бакі ідэалагічнай барыкады, хутка знаходзяць паразуменне на глебе пагарды і нянавісці да беларушчыны.

Акавец, які, нягледзячы на неабвержныя доказы, адмаўляецца прызнаць злачынствы Арміі Краёвай, нічым не адрозніваецца ад бальшавіка-сталініста, чыю веру ў камуністычную ідэю і «бацьку Сталіна» не могуць пахіснуць нават прастрэленыя чарапы з Курапацкіх магіл.

На гарадзенскім з'ездзе жаўнераў Арміі Краёвай быў прыняты зварот да Вярхоўнага Савета Беларусі з просьбай аб наданні акаўцам статуса ветэранаў Другой сусветнай вайны. Што за гэтым стаіць? А тое, што, прызнаўшы юрыдычна і маральна абгрунтаванымі прысутнасць і дзейнасць у час Другой сусветнай вайны на тэрыторыі Беларусі і Украіны Арміі Краёвай, падпарадкаванай ураду Польшчы, трэба будзе прызнаць польскімі і самі тэрыторыі, уз'яднаныя з БССР і УССР у 1939 годзе.

Пра гэта так і пісаў нам у рэдакцыю ў чэрвені бягучага года наш пільны чытач Тадэуш Малевіч, паляк з вуліцы Дзяржынскага ў Гародні: «Анализ действовавших на то время заключенных Польшей двух и многосторонних договоров показывает, что территория, на которой впоследствии была создана и действовала Армия Краёва, и дальше «de jure» оставалась, хоть и оккупированной, но **территорией Польши**, а не территорией Западной Белоруссии.

Приказом Законного эмигрантского правительства Польши в границах Польши на ее оккупированной территории были созданы подпольные вооруженные силы — Армия Краёва».

Свой ліст у рэдакцыю таварыш Малевіч назваў «Давайте называть вещи своими именами». Гэта ж можна параіць і яму самому і іншым таварышам з «Саюза палякаў Беларусі».

На нашай зямлі Армія Краёва цудоўна ладзіла з нямецкімі акупантамі — гэта пацвярджаюць шматлікія дакументы. А ваявала яна ў асноўным з беларускімі патрыётамі, спадзеючыся гвалтам і забойствамі вырашыць «беларускае пытанне» на «крэсах». Бо акаўцы былі ўпэўнены, што Польшча на «крэсы» вернецца. Такім чынам, гэта тыя ж акупанты. Але, у адрозненне ад немцаў, якія адкрыта ўсталявалі на Беларусі акупацыйны рэжым, акаўцы — акупанты падпольныя.

Будзем называць рэчы сваімі імёнамі.

**Пётра ВАСІЛЕЎСКІ**

***P. S. Калі гэты матэрыял быў падрыхтаваны да друку, прыйшла інфармацыя, што ў Вільні пачаўся грамадскі суд над Арміяй Краёвай. Польскія грамадскія арганізацыі ў Жамойцкай Рэспубліцы таксама ўсяляк імкнуцца стварыць прывабны вобраз Арміі Краёвай як сілы, якая нібыта змагалася з фашыстамі і бальшавікамі. Але ўрад і народ Жамойці ацэньвае дзейнасць АК як гвалт супраць суседніх з Польшчаю народаў. Акаўцам ставіцца ў віну забойства жамойтаў дзеля аднаўлення Польшчы ў межах да верасня 1939 года. З гэтай прычыны ў свой час Клубу ветэранаў АК было адмоўлена ў рэгістрацыі.***

***На Беларусі ж акаўцам ставяцца помнікі, мемарыяльныя шыльды, ветэраны АК ладзяць шэсці, парады, імпрэзы ў касцёлах, праводзяць з'езды і канферэнцыі...***

**П. В.**

Падпіска-94

# «ЛіМ» — НАША НАСТОЛЬНАЯ ГАЗЕТА

## Уладзімір КОНАН, доктар філасофскіх навук, літаратурны крытык:



— Для мяне «Літаратура і мастацтва», «Культура», «Наша слова», «Голас Радзімы» — настольныя газеты. Настольныя і «падарожныя». На жаль, сучасны гараджанін амаль чвэрць свайго жыцця «губляе» на пераезды. Але і даўней наш першы інтэлігент Францішак Скарына выдаваў для суайчыннікаў «Малую падарожную кніжку».

Сярод маіх штотыднёвікаў «ЛіМ» — гэта маці беларускага адраджэнскага друку. Пераемніца «Нашай Нівы», «Савецкай Беларусі» 20-х гадоў. Чытаю яшчэ «Звязду», «Чырвоную змену», беларускія дзіцячыя і юнацкія газеты і, зразумела, нацыянальныя літаратурныя часопісы. Шчырасць, праўдзівасць, народная традыцыя — вось прыкметы «ЛіМа». Не пераношу фальш і фарысейства ў друку. Сказаную думку можна пазней паправіць. А напісанае застаецца. У «ЛіМе» яно — як чыстае зерне, пасеянае на ўрадлівай зямлі. Вось чаму для мяне як даследчыка «ЛіМ» — гэта яшчэ крыніца. Добрая альбо трагічная вестка пра мінуўшчыну Беларусі, яе культуру.

Чамусьці «ЛіМ» выдзяляюць, калі гутарка ідзе пра дзяржаўныя датацыі. Але з «казны» плацяць у аднолькавай меры іншым выданням, у тым ліку і абыякавым альбо нават варожым беларускай мове, нацыянальнай культуры. Апошняе — гэта ўжо «беларускі» феномен. Беларускі народ чамусьці абавязваюць плаціць сваім дэнацыяналізатарам. Далакопам, паводле слоў вялікага Купалы.

Фінансуючы «ЛіМ», дзяржава ўкладвае грошы ў нацыянальную культуру, літаратуру, мастацтва. Так робяць ва ўсім культурным свеце. Не ўсё можна купіць за грошы, нават за цвёрдую валюту. Прадажны талент — гэта ўжо амаль не талент. «ЛіМ» застаецца на высокім інтэлектуальным узроўні, бо ён — газета беларускай творчай інтэлігенцыі. Духоўнай эліты народа, якая ніколі не зарабляла і не заробіць на беларускай культуры.

Не магу пагадзіцца з тымі маімі калегамі, чытачамі-лімаўцамі, якія прапануюць нашаму штотыднёвіку адмовіцца ад грунтоўных нарысаў пра літаратурна-мастацкае жыццё, навуковых аналітычных артыкулаў, аддаўшы першынство палітычнай інфармацыі і публіцыстыцы. На мой погляд, гэта будзе знішчэнне і растрата ўжо заваяваных пазіцый. Асабліва сёння, калі пасля расстрэлу Белага Дома — сімвала расійскай дэмакратыі — шмат якія псеўдарадыкальныя палітыкі безнадзейна абанкруціліся. Калі не сказаць больш «радыкальна», па фальклорнаму.

Так, трэба шукаць свайго масавага чытача. Але весці яго, падымаць, а не апускацца да «шэрагавага» ўзроўню.

## Расціслаў ПЛАТОНАЎ, доктар гістарычных навук:



— «ЛіМ» выпісаў. Па розных прычынах падпісваўся не рэгулярна, але купляў заўсёды. Чытаю з 70-х гадоў. Па прафесіі даводзіцца звяртацца да публікацый мінулага часу. Цікава назіраць эвалюцыю газеты — ад ваяўнічай агрэсіўнасці супраць тых, каго залічвалі ў нацыяналісты, «ворагі народа», хістанняў, як жартавалі, «разам з лініяй партыі» да перабудовачнага зацішша, потым перабудовачнага выбуху, а цяпер — постперабудоўчай апазіцыйнасці.

Лічу, што газета павінна быць настольнай для ўсіх, хто неабыякавы да духоўнага жыцця свайго народа, яго культуры, гісторыі, месца і ролі ў грамадстве інтэлігенцыі.

Пакуль што, здаецца, прызначэнню быць газетай творчай інтэлігенцыі «ЛіМ» адпавядае не поўнасцю. Не падабаецца палітычная прадузятасць, падмена ёю ісціны, ярлычнасць у некаторых публікацыях, жорсткая непрымірымасць да апанентаў. Уласна кажучы, чымсьці новым гэта для нашай гісторыі, дарэчы, гісторыі газеты не з'яўляецца.

Жадаў бы бачыць больш шырокі спектр культурнага і палітычнага жыцця рэспублікі. Яно ж заўсёды поліфанічнае, а не адно, двухгалосае. Пабольш розных пунктаў погляду, розных думак, тэматычнай і жанравай разнастайнасці, таго самага плюралізму, якога дабіваліся. Больш узважлівасці і дакументальнай аргументаванасці ў падыходзе да мінулага, якім бы трагічным яно не было. Гэта наша гісторыя. Было ў ёй добрае, было дрэннае, і аднымі эмоцыямі гістарычныя пласты не ўзнімеш, урокаў для сённяшняга дня не выведзеш. Таму паменш суб'ектывізму, аднабаковасці і зусім не трэба ўзлаванасці. Грамадству сёння патрэбна згода, а не варожасць. Устрыманасць, памяркоўнасць, разважлівасць павінна несці газета, разлічаная на творчую інтэлігенцыю.

**Вы яшчэ не падпісаліся на «ЛіМ»?**
**Не адкладвайце на заўтра тое, што трэба зрабіць сёння!**
**Нагадваем — наш індэкс 63856.**
**Кошт падпіскі на квартал — 210 рублёў.**
**Будзьма разам!**

# УДАКЛАДНЯЕМ ПРАВАПІС

З просьбай прыняць удзел у абмеркаванні пытання аб удакладненні правапісу беларускай літаратурнай мовы звярнулася да навукоўцаў і настаўнікаў, да журналістаў і літаратараў, да беларускай дыяспары за межамі рэспублікі адпаведная дзяржаўная камісія, створаная згодна з нядаўнім рашэннем Савета Міністраў рэспублікі. У склад камісіі ўвайшло дзевятнаццаць спецыялістаў, а ўзначаліў яе народны дэпутат Беларусі паэт Ніл Гілевіч.

На абмеркаванне вынесеныя найбольш спрэчныя правілы арфаграфіі, а менавіта:

1. Абазначэнне на пісьме асіміляцыйнай мяккасці зычных.
2. Раздзяляльны мяккі знак пасля дз, с, з, ц, н, л.
3. Правапіс часціцы НЕ і прыназоўніка БЕЗ у першым складзе перад націскам.
4. Правілы перадачы на пісьме якання — правапіс карэннага я і захаванне е ў першым складзе перад націскам /у словах тыпу дзевяты, дзесяты, семнаццаць/.
5. Правапіс запазычаных слоў — у тым ліку перадача акання-якання /да прыкладу: рЭспубліка ці рАспубліка/; перадача губных зычных л, с, з, н перад галоснымі пярэдняга раду адносна цвёрдасці-мяккасці: план ці плян, панэль ці панель, фізіка ці фізыка; перадача ў нескладовага ў пачатку слова і пасля галосных; правапіс спалучэнняў галосных іо-іё, ыо-ыё, іў-ію, ыў-ыю /трыо ці трыё, прэзідыум ці прэзідыюм/.
6. Правапіс прыстаўных зычных /акно ці вакно, арэх ці гарэх/.
7. Правапіс напісання тапанімічных назваў і ўласных імён.
8. Правапіс о, а ў складанаскарочаных словах /напрыклад, райвыканком ці райвыканкам/.
9. Правапіс і, й.
10. Устаўное а ў канцавых спалучэннях зычных, апошнім з якіх з'яўляецца плаўны: тэатар, метар.
11. Правапіс о, а, э, е ў першай частцы складаных слоў /горналыжны ці гарналыжны/.
12. Спрашчэнне і сцяжэнне зычных гукаў, асіміляцыя па шыпячасці-свісцячасці /баластны ці баласны, рыжскі ці рыскі/.
13. Правілы пераносу слоў.
14. Удакладненне правілаў напісання вялікай літары.
15. Правапіс апострафу.

Такім чынам, стаіць пытанне, ці вяртацца па некаторых з выкладзеных пунктаў да граматыкі беларускай мовы для школ Браніслава Тарашкевіча, якая існавала да жнівеньскай 1933 года пастановы Савета Народных Камісараў БССР аб зменах і спрашчэнні правапісу.

Прапановы па ўдакладненню правапісу беларускай літаратурнай мовы трэба дасылаць на адрас Інстытута мовы імя Якуба Коласа Акадэміі навук Рэспублікі Беларусь.

19—22 КАСТРЫЧНІКА — ДНІ ПАМЯЦІ ЯЎРЭЯЎ /«КАДЫШ-ЖАЛЬБА»/, ЯКІЯ ЗАГІНУЛІ НА ТЭРЫТОРЫІ БЕЛАРУСІ Ў ГАДЫ ВЯЛІКАЙ АЙЧЫННАЙ ВАЙНЫ.

Уладзімір МЕХАЎ

# БРАТЫ МАЕ ПРАЦЯГВАЮЦЬ МНЕ РУКІ...

НАЗВА ГЭТАГА АРТЫКУЛА — радок з Максіма Танка, у якім я толькі пераменіў гучанне аднаго слова ў часе. Паваенным годам напісаны быў паэтам верш «Гета», які не баюся назваць рэквіемным. Страфа з узятым радком гучыць так:

**Мне круг апошні пекла паказалі,**
**Але і сам бы я знайшоў яго**
**Па тым, як неба і зямля палалі,**
**Па тым, як дыхаў мне у твар агонь,**
**Па тым, як дрэвы**
**корчыліся ў муках**
**Ад цішыні разваліна ў нямых,**
**Як з-пад зямлі, вітаючы жывых,**
**Браты мае працягвалі мне рукі...**

Верш успомніўся таму, што ў рэспубліцы чацвёрты дзень адзначаецца чарнарамкавая ў календары дата — пяцідзесяцігоддзе з апошняй акцыі ў гета, створаным гітлераўцамі ў акупаваным Мінску. Акцыі, пасля якой гета перастала існаваць: у Берлін дакладзена было, што ў ім нікога не засталося. І ўспомніўся таму, што напісаны паэтам-беларусам. А тое, што ў Мінску цяпер адбываецца, хвалюе і тым, што не носіць характару ўгодкаў толькі яўрэйскіх. Характару важнага, балючага толькі для адной этнічнай групы насельніцтва краю. Алегарычна кажучы, не ператварылася ў маштабны — па ўсім горадзе, па рэспубліцы — «кадыш», яўрэйскую памінальную малітву, і не больш.

Акцэнтую гэта з прычыны, што яшчэ летась было не так. Напрадвесні тады ў Мінску адзначалася ранейшая дата, звязаная з маркотным гетаўскім летапісам: угодкі пагрому 2 сакавіка 1942 года, аднаго з найжахлівых у гісторыі мінскага гета. Былыя вязні страшнай зоны генацыду, сваякі тысяч там пастраляных, падушаных газам спецыяльных машын — душагубак, даведзеных да смерці здзекамі, мноства людзей, пакліканых на ўшанавальныя мітынгі голасам крыві, — усе былі глыбока ўдзячны неяўрэям, якія палічылі для сябе абавязковым стаць у тыя гадзіны смутку поруч з яўрэямі. Былі то Васіль Быкаў і Рыгор Барадулін, парламентарыі і хрысціянскія святары, колішнія партызанскія камандзіры, байцамі ў якіх былі і ўцекачы з гета, і старэнькія ўжо сялянкі, якія некалі, не зважаючы на пагрозу за гэта смяротнага пакарання, давалі ў хатах схоў яўрэйскім сем'ям. Аднак агульная атмасфера ў стаўленні да горкай гадавіны была ў горадзе — нікога тым не папракаю, толькі канстатую, — індыферэнтная: трагедыя гэта, маўляў, яўрэйская, яўрэі хай і паплачуць.

Дык сёлета інакш. Сёлета ва ўсім, што ў горадзе з нагоды чарнапомнага адбываецца, інтанацыя, паўтараю, іншая, характар бедавання агульнанароднага. Дзякуй за гэта, Беларусь! Спрадвеку талерантная і спагадная, такой ты паўстаеш перад светам і сёння. Калі па вуліцах, брук якіх — нібы скамянелае гора, жалобным шэсцем праходзяць людзі з трапяткімі агеньчыкамі свечак у руках. Калі даніну пашаны пакутнікам і змагарам гета аддаюць першыя асобы дзяржавы. Калі яўрэйскія песні скрухі спяваюцца і артыстамі беларусамі. Калі тое, пра што нельга забываць, крычыць з палотнаў і графічных лістоў у залах Палаца мастацтваў, з экранаў у кінатэатрах. Калі ўшанавальнаму ўрачыстаму пасяджэнню надаецца ўзровень мерапрыемства дзяржаўнага маштабу.

На чым хачу спыніцца асобна: яшчэ і яшчэ раз дзякуюць сёння яўрэі высакародным, чыстым і бясстраш-

(Працяг на стар. 14-15)





*Усе яны засталіся там — у расстраляным мінскім гета...*
*Здымкі з архіва Яд Вашэм /Іерусалім/*

З пошты "ЛіМа"

# ГЭТА БЫЛО ЗЛАЧЫНСТВА

Я хацеў бы расказаць пра нас, ахвяр выпрабаванняў атамнай бомбы на Тоцкім палігоне, што пад Арэнбургам, у 1954 годзе. Нядаўна, 14 верасня, мы, што засталіся ў жывых, адзначылі 39-ую гадавіну гэтай страшнай і сумнай даты.

З 43 тысяч салдат і афіцэраў, што ўдзельнічалі ў гэтых вучэннях, у жывых засталося толькі каля тысячы чалавек, у тым ліку ў нашай рэспубліцы каля 300 чалавек. Атрымліваецца, штогод у іншы свет адыходзілі, так і не дачакаўшыся якіх-небудзь ільгот, каля тысячы чалавек.

Пасля заканчэння вучэнняў у нас узялі падпіску аб нераспаўсюджванні звестак аб усім убачаным на працягу 25 гадоў. Многім з нас здаваўся дзіўным гэты тэрмін — 25 гадоў маўчання! Але з цягам часу я зразумеў, што кіраўніцтва краіны разлічвала, што за гэтыя гады мы ўсе адыдзем у іншы свет і гэтая тайна пойдзе разам з намі. Так што яшчэ тады, у 1954 годзе, мы былі нашым урадам асуджаны на смерць.

Упершыню ў сусветнай практыцы выпрабаванне атамнай зброі праводзілася па сутнасці на жывых людзях. І мы, што цудам засталіся ў жывых, пажылыя людзі, абцяжараныя рознымі захворваннямі, інваліды розных груп, не можам больш маўчаць і патрабуем, нарэшце, увагі і міласэрнасці з боку ўрада і Вярхоўнага Савета.

Цяпер прынята адзначаць памятныя даты. Не толькі «вясёлыя», а і сумныя. Напрыклад, у нашай рэспубліцы створана дзяржаўная камісія па падрыхтоўцы мерапрыемстваў у сувязі з 50-й гадавінай знішчэння фашыстамі яўрэйскага гета ў Мінску. І гэта правільна! А вось пра нас, людзей, якія аддалі Айчыне сваё здароўе, а многія і сваё жыццё, ніхто ні чуць, ні ўспамінаць не жадае.

Хацелася б, каб не толькі кіраўніцтва рэспублікі павярнулася да нас тварам, аддало даніну памяці тым, хто так рана пайшоў з жыцця, але каб і пісьменнікі, артысты, мастакі, уся інтэлігенцыя ўзняла свой голас у абарону тых, для каго Радзіма аказалася мачахай.

Ды трэба спяшацца, бо час працуе супраць нас: з нашым адыходам з жыцця людзі не даведаюцца і пра гэтае злачынства камуністычнай сістэмы — пра Чарнобыль 1954 года.

Калі пісаў гэты ліст, мне згадваўся чамусьці дакументальны фільм пра кавалераў 3-х ступеняў ордэна Славы, створаны па ініцыятыве Канстанціна Сіманава. Не, нам не трэба ордэнаў, славы. Але нам хацелася б пры жыцці адчуць у адносінах да сябе павагу, маральную і матэрыяльную падтрымку грамадства. І на гэта мы маем права разлічваць.

**М. НАВІЦКІ,**
**член Савета Камітэта ветэранаў падраздзяленняў Асаблівай рызыкі, інвалід ІІ-й групы**

*г. Мінск*

# У ТЭРМІН І ПОЎНАСЦЮ

Прайшло тры гады, як беларуская мова стала дзяржаўнай. Тэрмін немалы. Аднак у пытаннях адраджэння роднай мовы адчуваецца нейкая нерашучасць, чаканне каманды «зверху», а то і нейкая баязлівасць. Хопіць ужо дыскусій аб двухмоўі. Не патрэбен і рэферэндум аб дзяржаўнасці беларускай мовы. Застаецца толькі адно: строга і паслядоўна выконваць Закон аб мовах.

Калісьці гаварылі: калі загаворыць ЦК КПБ на беларускай мове, то загаворыць уся Беларусь. Прыкра! Але гэтага не адбылося. Нават 13 жніўня 1956 г., калі Я. Колас прыйшоў у ЦК КПБ з заявай аб выратаванні беларускай мовы, то яго ніхто не прыняў: ні сакратар, ні загадчык аддзела, ні інструктар... Вось павага да народнага паэта, камуніста, які быў і членам ЦК КПБ, дэпутатам Вярхоўнага Савета СССР і БССР, быў членам праўлення Саюза пісьменнікаў Саюза і Беларусі, некалькі год быў старшынёй Беларускага рэспубліканскага камітэта абароны міру, узнагароджаны чатырма ордэнамі Леніна...

Паглядзіце, што і цяпер адбываецца: ні Вярхоўны Савет /я маю на ўвазе не ўвесь/, ні Савет Міністраў не гавораць па-беларуску. Скажыце, калі ласка, у якой краіне парламент і ўрад не гавораць на дзяржаўнай мове? Гісторыя не ведае такога. Гэта толькі можа быць у нашай маладой незалежнай і суверэннай дзяржаве. Парадокс.

Я філолаг па адукацыі. Люблю сачыць, як гаворыць чалавек, якая яго мова, яе літаратурнасць. Аднойчы еду ў аўтобусе. За мной сядзяць дзве маладыя жанчыны. Яны амаль уголас гавораць, мілагучна. Слухаю і адразу не мог разабраць, на якой жа мове яны гавораць — на беларускай ці на рускай. На жаль, на «трасянцы». Пазнаёміліся. Высветлілася, што адна з іх настаўніца. Здзівілася, калі я зрабіў заўвагу. Гэта ж не на ўроку, адказала. Чаму ж у быце мы так засмечваем сваю мову? І тут я цвёрда перакананы, што гэта ўжо непавага да сябе і мовы, лянота, нежаданне гаварыць на літаратурнай мове.

Неяк размаўляю з дырэктарам сярэдняй школы, паважаным чалавекам і добрым дырэктарам, чаму справаводства ў школе не вядуць на беларускай мове. «Няма каманды, — быў адказ. — Скажуць, будзем весці». Так яно і ёсць. Без каманды, без распараджэння зверху нічога не робіцца. Прывыклі: так лепш, думаць не трэба. Атрымалася — не атрымалася — пранясе. Праўда, цяпер усё ж прывучаемся думаць, праяўляць ініцыятыву, дзейнічаць, працаваць самастойна. Наша Даманаўская СШ з першага дня яе арганізацыі была школай з беларускай мовай навучання. Не было і няма праблем. Выкладанне вялося і вядзецца на беларускай мове. Справаводства таксама. Усе педсаветы і іншыя пасяджэнні вядуцца на роднай мове. Школьная бібліятэка багата на беларускую літаратуру. Толькі чытай! Даманаўскі сельскі Савет план работы на гэты год склаў на беларускай мове, на ёй вядзе справаводства, сесіі праводзіць. Яго старшыня Міхневіч Лідзія Міхайлаўна.

Няёмка слухаць, калі чуеш такое, накшталт таго, што не разумею, не ведаю беларускай мовы. А якую мову вы, панове, ведаеце? Мне прыйшлося быць на экскурсіі ў былым Ленінградзе. У групе было 30 чалавек настаўнікаў. У аўтобусе на экскурсію ў Петрадварэц з намі аказалася група французскіх студэнтаў тэхнічнай ВНУ. Некаторыя з іх гаварылі па-руску. А з нас ніхто не змог і слова сказаць па-французску. Нехта ж вучыў французскую мову ў школе ці ВНУ. Неяк сустрэў кітайцаў у Брэсце на станцыі. Яны гавораць на рускай мове. І нядрэнна! Дый такіх прыкладаў шмат. Я гэта гавару к таму, што найперш трэба вывучаць родную мову, пачынаючы з дзяцінства ў сям'і, у дзіцячых садах, дзе ўсю выхаваўчую работу праводзіць на беларускай мове. І ў школах /не толькі з беларускай, але і з рускай мовай навучання/ вучыць беларускую мову з 1 класа. Такія вучні будуць знаць дасканала родную мову і гаварыць на ёй, валодаць ёю. І не будзе ніякіх праблем, ніякіх непаразуменняў.

Дзяржаўнай беларускай мовай у першую чаргу павінны валодаць усе, хто працуе ва ўсіх дзяржаўных установах. Калі кожны дзяржаўны служачы будзе паспяхова выконваць свае службовыя абавязкі, працаваць з душой і адказнасцю, то і для народа і для дзяржавы будзе лепш. Згіне бюракратызм, валакіта, неразбярыха, парушэнне сваіх законаў, якія трэба толькі паслядоўна і поўнасцю выконваць. Павага павінна быць не толькі да дзяржаўнай мовы, але і да людзей. Трэба бачыць у кожным чалавеку асобу.

Непавага да дзяржаўнай мовы — гэта самая вялікая непавага да сваёй гісторыі і культуры, да адраджэння ўсяго нацыянальнага. Мы знаем і паважаем рускую мову і культуру, шануем іх, валодаем мовай. І калі хто гаворыць аб адваротным, то, верце мне, гэта няпраўда, выдумка. Калі мы ў згодзе і дружбе, то так будзем жыць заўсёды. Але ніхто і нікому не даў права зневажаць нашу родную беларускую мову, яе культуру і нацыянальныя традыцыі. Вярхоўны Савет і Савет Міністраў павінен дзейсна паклапаціцца аб мове і зрабіць так, каб Закон аб мовах у Беларусі быў выкананы ў тэрмін, дакладна і поўнасцю.

**В. МАРОЗ,**
**настаўнік беларускай мовы і літаратуры Даманаўскай СШ Івацэвіцкага р-на**

# МЫ — АДЗІНАЯ НАЦЫЯ

Я рэгулярна чытаю газету «Глос з-над Немна» — орган Саюза палякаў Беларусі. Апошнім часам маю ўвагу прыцягнуў змешчаны ў нумары за 6—12 верасня г. г. артыкул нейкага Пятра Эберхарда з Варшавы «Колькасць і размяшчэнне польскага насельніцтва на Беларусі». У ім слушна адзначаецца, што праз Беларусь праходзілі розныя палітычныя межы, змянялася дзяржаўная прыналежнасць земляў Беларусі, што спрычыняла даволі неаднастайны характар насельніцтва з рэлігійнага, моўнага і этнічнага гледзішчаў. Далей, прыводзяцца дадзеныя даследчыка Э. Чынскага /1887 год/ па розных рэгіёнах Беларусі колькасці польскага насельніцтва, і напрыканцы падсумоваецца, што на пераломе 60—70-ых гадоў мінулага стагоддзя па тэрыторыі, якая сёння прыблізна знаходзіцца ў межах цяперашняй Рэспублікі Беларусі, агульная лічба насельнікаў складала 4185,3 тысячы чалавек, у тым ліку палякаў 617,7 тысячы, ці 14,7% ад агульнай лічбы жыхароў. П. Эберхард, спасылаючыся на Чынскага, адзначае, што палякі на Беларусі сканцэнтраваны на землях былой Гарадзенскай і Віленскай і часткова Менскай губерняў. Далей ідзе самае пікантнае: «...Гэтае насельніцтва ў штодзённым жыцці ўжывала мясцовыя гаворкі беларускай мовы, з вялікім налётам польскае мовы. Яны адрозніваліся верай ад сваіх праваслаўных суседзяў, якія звычайна лічылі іх палякамі». Дзякуй шаноўнаму пану Пятру Эберхарду з Варшавы за такі даволі аб'ектыўны артыкул, бо нашы крэсава-касцельныя палякі ніколі б не прызналіся, што так званае польскае насельніцтва на штодзень карыстаецца беларускай мовай. На жаль, і сёння бытуе звычка беларусаў-каталікоў адносіць да палякаў, а праваслаўных беларусаў залічаць да носьбітаў «белорусского наречия великорусского языка». Дакуль душу беларуса нашы шаноўныя суседзі будуць дзяліць? Ці не пара нам самім усвядоміць сябе як адзіную нацыю, нягледзячы на шматканфесійнасць? Упэўнены, калі гэта мы зробім, калі адчуем сябе самімі, дык нашы суседзі будуць вымушаны з гэтым лічыцца і спыняць дзяльбу беларускай душы. На маю думку, беларускаму этнаакрэсленню т. зв. касцельных палякаў паспрыяла б паралельнае ўжыванне ў беларускай мове лацінкі побач з кірыліцай. Створаная цяпер урадавая камісія па правапісе, на маю думку, павінна разгледзець гэтае пытанне. Марудзіць тут нельга, бо разам з адраджэннем пальшчызны на Беларусі набірае моцы шавінізм мясцовых крэсавых палякаў. Больш жвава павінен папрацаваць над гэтым і Беларускі касцёл. Няўжо друкаваць малітоўнікі й катэхізісы па-беларуску лацінкаю цяжэй, чым рабіць тое самае па-польску, але расейскімі літарамі? Досыць спаць, час найвышэйшы дзейнічаць на карысць Адраджэння Бацькаўшчыны.

**Анатоль ЛЯГУЦКІ**

*г. Асіповічы*

# НАВОШТА «ЛАМАЮЦЬ КРЭСЛЫ»...

Летась «ЛіМ» надрукаваў маю нататку, у якой прыводзіўся такі факт: вядучая Інфармацыйнай праграмы нацыянальнага радыё, назваўшы Беларусь нашай краінай, тут жа паправілася — маўляў, трэба было сказаць «наша рэспубліка». Цяпер такіх «паправак» больш не чуваць. Але не таму, што радыёжурналісты ў рэшце рэшт «прызналі» сваю Бацькаўшчыну краінай, а з прычыны таго, што апошняе слова ў дастасаванні да Беларусі, здаецца, ці не наогул знікла з іх лексікі /прыемнае выключэнне — вядучыя радыёстанцыі «Беларуская маладзёжная»/. Пра якую б падзею не ішла гаворка, толькі і чуецца: «рэспубліка», «па рэспубліцы», «у рэспубліку»... Ва ўсіх склонах, з усімі прыназоўнікамі і без іх дый, здараецца, па два-тры разы ў адной фразе.

Не, я зусім не супраць гэтага слова. Наадварот, яно мне падабаецца, асабліва з таго часу, калі былая БССР стала называцца Рэспублікай Беларусь. Аднак жа, слухаючы іншы раз радыё, прыгадваю вядомы са школьных гадоў выраз: «Яно, канешне, Аляксандр Македонскі герой, але ж навошта крэслы ламаць?». Можна і аскому набіць, бясконца паўтараючы адно і тое ж слова, — быццам, для таго, каб зноў і зноў паведаміць слухачам, што формай дзяржаўнай улады ў нас з'яўляецца рэспубліка, а не, барані Божа, манархія. Робіцца гэта нават тады, калі папярэджваюць пра дажджы, якія пройдуць, безумоўна, «па рэспубліцы» і ні ў якім разе не «на Беларусі». Заўважу, дарэчы, што скарочанае найменне нашай дзяржавы, згодна з прынятым два гады таму законам, менавіта «Беларусь», а не «рэспубліка».

«Крэслы ламаюць» і на тэлебачанні, у саўмінаўскіх газетах, не кажучы ўжо пра адкрыта антыбеларускія выданні. Чаму ж у шмат каго не паварочваецца язык назваць краінай або, напрыклад, Айчынай край, дзе мы жывём, родную зямлю, у якой спачываюць нашы продкі? У леташняй нататцы вельмі не хацелася кагосьці падазраваць у кепскіх намерах, кідаць каменьчыкі ў журналісцкі агарод. Сягоння ж, асабліва на фоне падзей, негатыўных для нацыянальнага Адраджэння, добра бачна: справа тут не ў выпадковых надарэчнасцях, не ў няведанні сінанімічных магчымасцей мовы, а ў пэўнай пазіцыі і наўмыснай палітыцы антыдэмакратычных сіл, у ліку якіх і правячыя колы.

Гэта, на маю думку, палітыка і сацыяльны заказ тых, хто пакутуе ад настальгіі па колішняй імперыі і здзекуецца з суверэнітэту ды нейтралітэту нашай краіны, хто дамагаецца так званага «двуязычия» і варожа ставіцца да беларушчыны, хто забараняе свята Аршанскай перамогі і настойвае на тым, каб Дзень Беларускага войска адзначаўся 23 лютага...

Гэта пад іх дудку скачуць журналісты, калі неіснуючы СССР і суседнюю дзяржаву велічаюць «нашай краінай», «нашай Радзімай» з дабаўленнем прыгожых эпітэтаў, а пра «родны кут», пра сваю шматпакутную старонку пішуць і гавораць з пагардай, нібы месца беларусаў не ў супольніцтве народаў свету, а на задворках «единой и неделимой».

**Генадзь ЛАГУНОВІЧ**

# ЦІ ЎСІХ ПАДЛІЧЫЛІ?

***З нагоды артыкула У. Адамушкі «Колькі ж іх, ахвяр палітычных рэпрэсій?», змешчанага ў «ЛіМе» ад 3 верасня 1993 г.***

Трэба пагадзіцца з думкай аўтара артыкула, што «наш абавязак — аднавіць для гісторыі і ўвекавечыць добрае імя кожнай ахвяры тэрору». Правільны падыход аўтара і да падліку агульнай колькасці ахвяр палітычных рэпрэсій на аснове дакументальных архіўных матэрыялаў. Але ў гэтых падліках ёсць адна нелагічнасць.

Калі У. Адамушка ўключае ў колькасць ахвяр таталітарнай сістэмы не толькі гаспадара «кулацкай» сям'і, а і ўсіх яе членаў /з чым, безумоўна, трэба пагадзіцца/, дык чаму ў гэты падлік не трапілі сем'і іншых рэпрэсаваных грамадзян? Вядома, што вельмі часта разам з асуджаным высылалі і яго сям'ю. Апрача таго, жонкі і дзеці многіх палітычных вязняў адпраўляліся ўслед за імі ў ссылку, так сказаць, добраахвотна. Але іх пакуты не былі ад гэтага меншымі. Маральны подзвіг гэтых жанчын, думаю, не меншы, чым апеты ў літаратуры подзвіг дзекабрыстак.

Хачу падкрэсліць, што многіх з высланых ці добраахвотна паехаўшых жонак у новыя хвалі сталінскіх рэпрэсій ужо на новым месцы жыхарства арыштоўвалі за «сувязь з ворагамі народа» /гэта значыць, за сувязь са сваім мужам ці бацькам, за тое, што не адмаўляліся ад іх/. На такіх грамадзян БССР справа заводзілася ўжо ў іншых рэспубліках і яны не маглі трапіць у той пералік, пра які піша У. Адамушка.

Дакладна можна сказаць, што аднымі з першых такіх ахвяр сталі сем'і многіх «нацдэмаў» пачатку 30-х гадоў. Гэтыя сем'і звычайна складаліся з 3—5 чалавек. Улічваць іх таксама неабходна.

**Р. ГАРЭЦКІ**

З пошты "ЛіМа"

# І ЎЦІСК, І ПРЫМУС...

## ВАЙНА 1920 ГОДА: БЕЛАРУСЬ І ВАКОЛ БЕЛАРУСІ

Алесь ЧОБАТ

Пасля пачатку вайны 1 жніўня 1914 года ўлады Расійскай імперыі абвясцілі «новы курс» у нацыянальнай палітыцы — «перад пагрозай нашэсця тэўтонаў». У прыватнасці, беларусам абяцалі нацыянальную школу, а таксама элементы самакіравання. **9 сакавіка 1915 года Віленская губеранская Управа прыняла, а 22 красавіка віленскі губернатар зацвердзіў Статут Беларускага Таварыства Дапамогі Ахвярам Вайны на чале з д-рам В. Іваноўскім.** Намеснікамі яго былі А. Луцкевіч і В. Ластоўскі, а сябрамі Управы П. Аляксюк, І. Біндзюк, кс. Сівіцкі, В. Сталыхва, І. Буйніцкі і Н. Клім. БТДАВ дзейнічала на тэрыторыі пяці беларускіх губерняў, а таксама мела аддзелы ў Петраградзе, Маскве, Арле і іншых гарадах Расіі. **За ўсю гісторыю імперыі гэта была першая беларуская легальная арганізацыя такога маштабу.** Пасля рэвалюцыі ў лютым 1917 года беларусы перайшлі да адкрытай палітычнай дзейнасці: 25—27 сакавіка 1917 года ў Мінску быў створаны Беларускі Нацыянальны Камітэт на чале з Р. Скірмунтам, які выказаўся за аграрную рэформу на Беларусі, якую меў ажыццявіць Краёвы Сойм. Але перамовы з Часовым Урадам кн. Львова нічога не далі, таму сацыялісты выйшлі з БНК і ў маі 1917 года стварылі Цэнтральную Раду Беларускіх Партый і Арганізацый. Намаганнямі Цэнтральнай Рады ў Мінску і Беларускага Таварыства ў Петраградзе да восені быў падрыхтаваны Усебеларускі Кангрэс — бальшавіцкі пераварот 25 кастрычніка 1917 года не спыніў гэту работу! — які адкрыўся ў Мінску 5 снежня 1917 года. Паколькі бальшавіцкае кіраўніцтва «Западного Фронта и Области» не ўзнавала беларусаў нацыяй, Кангрэс быў разагнаны, але ў Петраградзе В. Іваноўскаму, А. Чарвякову і др. удалося выкарыстаць ваганні бальшавіцкага ЦК і ўтварыць яшчэ раз Беларускі Нацыянальны Камітэт у складзе наркамата нацыянальнасцей. Тым часам Расія пайшла на сепаратныя перагаворы з Германіяй. 18 лютага 1918 года немцы прарвалі напаўразвалены рускі фронт і занялі Беларусь да Дзвіны і Дняпра. Паводле Брэсцкага дагавора 3 сакавіка 1918 года частка Гродзенскай і Віленскай губерняў мела адысці Германіі, а астатнюю Беларусь Масква і Берлін разглядалі як частку Расіі, часова акупаваную немцамі да атрымання расійскіх кантрыбуцый. У такіх умовах Рада Усебеларускага Кангрэса 9 сакавіка абвясціла Беларускую Народную Рэспубліку як частку Федэратыўнай Расіі, 18 сакавіка абвясціла сябе Радай БНР і, нарэшце, 25 сакавіка 1918 года прыняла Трэцюю Грамату або Акт Незалежнасці БНР. Германія развальвалася пад націскам заходніх саюзнікаў — таму немцы не жадалі псаваць адносіны з урадам У. Леніна і не прызнавалі Урад БНР, не адказвалі на яго ноты, не згаджаліся на стварэнне арміі і цывільнай адміністрацыі і г. д. Больш таго — 16 верасня ў Вільні немцы падпісалі з бальшавікамі пагадненне, адпаведна якому згаджаліся адвесці сваю армію да Бярэзіны і здаць частку Беларусі Чырвонай Арміі. У палове лістапада, пасля капітуляцыі немцаў у Францыі, прэм'ер БНР А. Луцкевіч выехаў у Маскву для перагавораў з У. Леніным — дамовіліся толькі, што пасля адступлення немцаў перагаворы будуць працягнутыя ў Мінску. І тут пачалі тварыцца неверагодныя справы...

### I.

10 снежня немцы перадалі Мінск Чырвонай Арміі. Але бальшавікі не пайшлі, як абяцалі, ні на перагаворы з БНР, ні нават на абвяшчэнне БССР. У Мінску іх камісары пачалі агітацыю за... стварэнне Літоўскай ССР! У складзе Мінскай, Віленскай, Гродзенскай і Ковенскай губерняў... Нават арганізоўвалі сходы, дзе галасавалі «единогласно». Камбінацыя прадугледжвала, папершае, проста далучыць Віцебскую і Магілёўскую губерні да РСФСР, па-другое, «разбоўтаць» небяспечнае беларускае пытанне ў той Літоўскай ССР.

Аднак урад А. Луцкевіча паспеў выехаць у Гродна і тут пачаў дыпламатычную кампанію, пратэстуючы супраць акупацыі Беларусі. Пасля канца вайны Англія і Францыя мелі развязаныя рукі і, на думку бальшавіцкай дыпламатыі, маглі да гэтых пратэстаў прыслухацца і выкарыстаць іх супраць РСФСР. З другога боку, амаль непазбежнае было сутыкненне з новапаўсталай 11 лістапада 1918 года Польшчай — у справе Коўна і Вільні. Таму ідэю «літбела» адклалі на потым. А пакуль т. Сталін, шэф наркамнаца, выкруціў рукі занадта спрытным «комиссарам Западной Области»: быў падрыхтаваны Маніфест, падабраны ўрад на чале з З. Жылуновічам — і 1 студзеня 1919 года прадэкляраванае паўстанне Савецкай Беларусі ў складзе Смаленскай, Магілёўскай, Віцебскай, Мінскай, Гродзенскай губерняў.

Але ўжо 16 студзеня 1919 года Масква зноў «змяніла» лінію: было вырашана на І Усебеларускім З'ездзе Саветаў **адначасова абвясціць БССР і прагаласаваць за яе «аб'яднанне» з Летувой** /Жамойцю/ у той самы «літбел» — ужо не было часу, з захаду наступала польская армія! Дарэчы, «рэкамендавалася» ад Віцебскай і Магілёўскай губерняў зноў адмовіцца на карысць РСФСР. Перад самым з'ездам **2—3 лютага 1919 года** бальшавікі на ўсялякі выпадак арыштавалі як В. Іваноўскага, так і З. Жылуновіча — шэфам ЦВК БССР стаў А. Мяснікоў, урад увогуле не стваралі, а ўжо на чале СНК Літ.-Бел. ССР паставілі В. Міцкявічуса-Капсукаса...

### II.

Першыя баі Чырвонай Арміі з палякамі адбыліся ў Вільні 3—5 студзеня 1919 года. Тут бальшавікам супрацьстаялі пакуль што дрэннаўзброеныя «самаоброна» і аддзелы «Польскей Арганізацыі Войсковэй». Вільню «заваявалі» — і В. Міцкявічус-Капсукас прыступіў да выканання абавязкаў.

А ўжо 17 лютага дайшло да першых жорсткіх баёў з рэгулярнай польскай арміяй пад Бярозай-Картузскай. Палякі біліся лепш — 2 сакавіка занялі Слонім, 5 сакавіка Пінск, 17 красавіка Ліду, а 19 красавіка Вільню. «Літбел» эвакуіраваўся ў Мінск, а 16 ліпеня рашэннем ЦК КП/б/ЛіБ быў распушчаны. На другі дзень, 17 ліпеня, савецка-польскі фронт перайшоў бальшавік Ю. Мархлеўскі, упаўнаважаны У. Леніным для перамоў з Польшчай.

Маскву моцна непакоілі першыя публічныя заявы Ю. Пілсудскага пра мэты польскай арміі і польскай палітыкі на ўсходзе, выкладзеныя ў адозве **«Да народаў былога Вялікага княства Літоўскага»**. Гэтая адозва была абвешчана **22 красавіка 1919 года** ў Вільні і далей распаўсюджвалася на ўсіх абшарах, занятых палякамі.

«Польская армія, якая прыйшла са мной, каб выкінуць тых, хто кіраваў гвалтам, сілай і насуперак вашай волі, — гэта армія нясе свабоду і волю. **Хачу даць вам магчымасць вырашыць унутраныя, нацыянальныя і рэлігійныя справы так, як самі пажадаеце, без уціску і прымусу з боку Польшчы.** А таму, хоць на зямлі вашай яшчэ грымяць гарматы і льецца кроў, не прызначаю тут вайсковай улады. але толькі цывільную, а прызначаць да яе буду людзей мясцовых, гэтай зямлі сыноў.

Гэта адміністрацыя мае заданне:

— стварыць людзям умовы, каб свабодна абралі сваіх прадстаўнікоў; выбары будуць прамыя, роўныя, тайныя, з роўнымі правамі мужчын і жанчын;

— аказаць усялякую дапамогу харчовымі прадуктамі, даць людзям працу, забяспечыць спакой і парадак;

— забяспечыць роўныя правы і роўна апекавацца ўсімі, не зважаючы на нацыянальнасць і веравызнанне».

Яшчэ далей Ю. Пілсудскі пайшоў у сваёй прамове ў Мінску, які польская армія заняла **8 жніўня 1919 года: «будзеце роўныя з роўнымі, вольныя з вольнымі»**, «будзеце самі свабодна вырашаць, якою ваша дзяржава будзе» і г. д. — такім чынам, як гаварыў Ю. Пілсудскі **18 верасня 1919 года** ў мінскім «дворянском собрании», ніякіх іншых мэт, апроч вызвалення ад бальшавікоў, яго армія на ўсходзе не мела. У першыя дні палякі дазволілі стварыць **Часовы Беларускі Нацыянальны Камітэт** на чале з правым сацыялістам К. Цярэшчанкам, далі грошы на газету **«Звон»,** згадзіліся на рэдактарства Я. Купалы, хоць апошні і вярнуўся з «бальшавіцкай Расіі», вызвалілі заняты войскам будынак Педагагічнага інстытута пад дырэктарствам В. Іваноўскага і таму ж В. Іваноўскаму давалі грошы на школы і г. д. Тут, праўда, не абышлося без старэйшага брата, міністра Е. Іваноўскага, ды асабістых знаёмстваў з дзеячамі польскай вярхушкі яшчэ па даваеннай рабоце. **Але тры галоўныя справы: адміністрацыя і падрыхтоўка да выбараў, армія і аграрная рэформа бязбожна марудзіліся!** Адміністрацыя абсаджвалася палякамі, армія не магла фарміравацца без фармальнай згоды міністэрства абароны і польскіх камендантаў — а беларускіх афіцэраў, наадварот, арыштоўвалі!, — пра зямлю ўвогуле не заікаліся...

Трэба сказаць, што ў самой Польшчы пасля паўстання ў лістападзе 1918 года адразу ж фарміравалася войска, ужо ў студзені 1919 года прайшлі выбары і першае ж пасяджэнне Сейма прыняло асноўную праграму дзеяння, у тым ліку і па зямельным пытанні! Так што польскія дзеячы добра ведалі, што важна, а што не — на Беларусі пасля прыгожых абяцанак ішоў сабатаж. І быў гэты сабатаж не свавольствам, а часткай вялікай палітыкі.

### III.

Памянуты Ю. Мархлеўскі меў ясную і «паленінску шчырую» інструкцыю: **старшыня СНК РСФСР прапаноўваў Начальніку Польскай Дзяржавы як праводзіць на Беларусі любы плебісцыт пра далучэнне яе да Польшчы, так і проста далучыць яе да Польшчы без усялякіх фармальнасцяў.** Перагаворы праходзілі ў Белавежы да глыбокай восені 1919 года — і цэлую гадзіну Ю. Мархлеўскі паўтараў, што **ўрад У. Леніна згодны на савецка-польскую мяжу па Дзвіне, Уле і Бярэзіне!** Але па шматлікіх прычынах Ю. Пілсудскі вагаўся.

### IV.

Няяснай была справа Летувы /Жамойці/. У верасні 1917 года ў Вільні Усеітоўская Канферэнцыя пад старшынствам А. Смятоны вылучыла Тарыбу альбо Раду, часовы вышэйшы орган Жамойці. 11 снежня 1917 года, пасля папярэдніх размоў, Тарыба выдала Маніфест, дзе сцвярджала, што «Краёвая Рада Летувы стаіць за вечныя, моцныя адносіны Летувіскай Дзяржавы з Германскай Імперыяй», а 4 чэрвеня 1918 года абвясціла кн. Вільгельма-Ураха Віртэмбергскага літоўскім каралём Міндаўгасам ІІ. Апошні «прыняў» жамойцкі трон 1 ліпеня 1918 года, але з «інтранізацыяй» немцы не спяшаліся: проста нямецкія бароны самі хацелі ўключыць у склад Германіі Жамойць і Латвію ды канчаткова іх «анямечыць». Роля немцаў у гэтай гульні абмежавалася 10 мільёнамі марак, якія пераказалі Тарыбе ў верасні 1918 года. Апошняя ўтварыла ўрад на чале з А. Вольдэмарасам, але рэальнай улады ён не меў. **Немцы эвакуіраваліся з Вільні 24 снежня 1918 года, напярэдадні ўзброіўшы жамойтаў, яўрэяў і рускіх палонных — у выніку дайшло да баёў паміж імі і «польскей самаобронэй».** Тарыба пераехала ў Коўна. Адносіны яе з польскімі вайсковымі ўладамі былі найгоршымі. Арганізаваныя Тарыбай атрады разбіралі чыгуначныя шляхі, рабілі засекі ў лясах; дыпламаты ж Тарыбы актыўна дзейнічалі як на Захадзе, так і ў Маскве, шукаючы саюзнікаў супраць Польшчы. А тым часам польскі часопіс «Жонд і Войско» пісаў: **«Стварэнне федэрацыі незалежнай Літвы і Беларусі, гэта значыць, Літвы літоўскай, Літвы польскай і Літвы беларускай, стварыла б цэнтр прыцягнення суседзяў. Гаворым не толькі пра латышоў і эстонцаў. Цяжкая справа Усходняй Прусіі якраз гэтай дарогай можа быць вырашана. Усходняя Прусія можа без усялякай страты, але з зыскам для сябе ўвайсці да Літвы — калі Літва будзе федэрацыяй народаў».**

Пасля заняцця палякамі Вільні Польшча і Жамойць абмяняліся вострымі дыпламатычнымі нотамі. Тым часам з Жамойці адступала нямецкая армія, а паколькі Антанта прызнала дэ-факта і Жамойць, і Польшчу, то з волі Антанты мяжа паміж імі была вызначана «лініяй Фоша». На правым беразе Нёмана «лінія Фоша» ішла на 12 км на захад ад чыгункі Гродна — Вільня. Пры адыходзе войскаў Жамойці і Польшчы за дэмаркацыйную лінію ў канцы верасня 1919 года адбыліся баі ў раёне Сяйны-Марыямполе. Увосень і на пачатку зімы 1919-20 гадоў Польшча мела неакрэсленыя адносіны з краінамі Балтыі. Вось як тагачасны міністр замежных спраў Польшчы Леан Васілеўскі выясняе сітуацыю ды дадзеныя яму перад Хельсінскай Канферэнцыяй балтыйскіх дзяржаў інструкцыі:

«З афіцыйным Коўнам адносін амаль не было. А шырока разгорнутая на Ковеншчыне «Польска організацыя войскова» пераконвала, што выйграе паўстанне. Змова не ўдалася — літоўцы масава арыштоўвалі палякаў, прычым захоўвалі сябе вельмі жорстка... У выніку Камендант /Ю. Пілсудскі. — **А. Ч.**/ прыйшоў да высновы, што з тымі, хто так адносіцца да палякаў, няма пра што гаварыць — усе адносіны з Коўнам на гэтым скончыліся.

Пасылаючы мяне ў Хельсінкі, Пілсудскі гаварыў, што павінна быць зроблена спроба раз і назаўжды вырашыць лёс былога В. К. Л. праз плебісцыт — **у тым ліку і на тых землях, дзе няма польскай арміі** /падкрэслена мной — **А. Ч.**/ — разам з усёй этнаграфічнай Літвой. Камендант нагадаў сваю Віленскую Адозву «Да жыхароў...» і падкрэсліў, што настойвае на яе прынцыпах, таму што гэта закранае гонар Польшчы і гонар самога Каменданта. Усялякі ціск з боку латышоў трэба адкінуць... **Беларусь яшчэ да нічога не падрыхтаваная, і цяпер востра выступаць у справе Беларусі няможна, бо развалім іншыя справы, важнейшыя...** Трэба ствараць прэцэдэнты, чакаць кан'юнктуры — а пакуль што ў Польшчы рабіць «беларускі П'емонт». Антанта павінна гарантаваць толькі нашы заходнія межы, вызваліць нашы войскі на захадзе. Мы стаім супраць бальшавіцкай Расіі — мы павінны падтрымліваць імкненні яе народаў да незалежнасці, падтрымліваць іх дэ-юрэ. Ключ да сітуацыі — на поўначы, трэба стварыць адзіны фронт з Фінляндыі, Эстоніі, Латвіі, **Літвы** /падкрэслена мной, пра якую Літву гаворыць Камендант?! — **А. Ч.**/ і Польшчы. Спакой з Расіяй павінны падпісаць усе гэтыя дзяржавы адначасова...».

Па сутнасці, тут выкладзена ўся канцэпцыя польскай усходняй палітыкі ўзору 1919 года. Але такіх канцэпцый было некалькі...

### V.

Няяснай была справа Украіны. Увосень 1918 года разам з Польшчай паўстала Заходне-Украінская Рэспубліка: дайшло да цяжкіх баёў за Львоў паміж палякамі і ўкраінцамі, якія працягваліся да мая 1919 года. Адначасова ў Кіеве восенню 1918 года была абвешчана Украінская Народная Рэспубліка на чале з Дырэкторыяй. Войскі УНР пасля цяжкіх баёў з Чырвонай Арміяй у красавіку 1919 года адступілі праз Вінніцу на р. Збруч. Вясной 1919 года дайшло да паразумення паміж урадамі УНР і ЗУНР — іх армія зноў павяла наступленне на Кіеў, у што палякі не мяшаліся, і разам з войскамі ген. Дзянікіна заняла яго напрыканцы лета 1919 года, але потым была адкінута Чырвонай Арміяй на захад і ўтрымвала да вясны 1920 года раён Камянца-Падольскага.

Пасля доўгіх дыпламатычных перамоў Урада УНР з Урадам Польшчы **21 красавіка 1920 года** было падпісана польска-ўкраінскае пагадненне з сямі пунктаў, адзін з якіх прадугледжваў падпісанне ваеннага пагаднення, а другі ўстанаўліваў польска-ўкраінскую мяжу. **Мяжа тая мела праходзіць па рубяжы: ад р. Днестр на румынскай граніцы па р. Збруч, далей на ўсход ад Крамянца, Здалбунава, Роўна, Сарнаў да р. Прыпяць і далей па р. Прыпяць да р. Днепр.** Сакрэтны артыкул прадугледжваў наступленне палякаў на ўсход ад гэтае мяжы для таго, каб на тылах польскага фронту УНР магла фарміраваць уласную армію і потым сама «забяспечваць» усходнія межы з РСФСР.

Такім чынам, адносіны Польшчы з Украінай былі ўрэгуляваны хутчэй фармальна, чым канкрэтна. Відавочна адно: ні Ю. Пілсудскі, ні польскі ўрад не хацелі мець Украіну ў складзе «федэрацыі» і не хацелі за яе ваяваць, з другога ж боку, урад С. Пятлюры адмаўляўся ад Львова і Галічыны на карысць Польшчы.

### VI.

Яшчэ больш цьмяна выглядалі адносіны Польшчы з краінамі Антанты. На Версальскай Канферэнцыі выявіліся розныя падыходы Англіі і Францыі да «польскай праблемы». Аслабленая вайной Францыя была зацікаўлена ў моцнай Польшчы, але была змушана азірацца на Англію, а прэм'ер-міністр Лойд-Джордж быў прыхільнікам «моцнай Расіі» — няхай сабе і Савецкай! — **ён лічыў, што Расія і Германія павінны мець агульную мяжу: тады паміж імі пачнецца канфлікт, а Англія будзе мець з гэтага інтарэс.** У існаванні ж Польшчы англічане былі зацікаўлены роўна настолькі, каб не змарнаваць заўчасна адносіны з Францыяй — самі яны ўва Усходняй Еўропе ставілі на тры краіны Балтыі і базы для свайго флоту.

Ад першага ўрада Польшчы на чале з І. Падарэўскім палякі адчулі моцны англійскі ціск. Адначасова яны не маглі не лічыцца з разбітай Германіяй, з якой увязаліся ў збройныя канфлікты за Познань, Шлёнск і Мазуры. Асабліва Лойд-Джордж дакучаў палякам з «лініяй Керзона» — усходняй мяжой Польшчы, якая практычна адпавядае цяперашняй усходняй мяжы Рэчы Паспалітай Трэцяй: «лінія Керзона» не мае ніякага дачы-

(Працяг на стар. 12)

Надзённая размова

# «НАЙАСНОЎНЕЙШЫ ПАДРУЧНІК — СЛОЎНІК...»

***Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь правяло ў Мінску 6 кастрычніка «круглы стол», прысвечаны надзённым праблемам выдання ў нашай краіне слоўнікавай і даведачнай літаратуры.***

Адкрыў яго пасяджэнне міністр інфармацыі **А. Бутэвіч.** Анатоль Іванавіч нагадаў, што няма патрэбы ў гэтай справе пратараваць новыя сцежкі-дарожкі, дастаткова ступіць на дарогу, якой ішлі іншыя, нашы папярэднікі. Добры прыклад таму — дваццатыя-трыццатыя гады. Вопыт, набыты тады, не павінен прайсці бясследна. У той жа час, гаварыў міністр, важкія наробкі ёсць і ў нацыянальных энцыклапедыстаў. Увогуле, падкрэсліў ён, гэта — праца на слова, праца на тэрміналогію, праца на саму мову, а, значыць, не на адзін сённяшні дзень, а і на будучыню.

А. Бутэвіч вызначыў кола пытанняў, на якія, як яму мяркуецца, мусіць даць адказ «круглы стол». Па-першае, сказаў ён, хацелася б пачуць, што ў першую чаргу неабходна выдаць, як дзяржаўнымі структурамі, так і недзяржаўнымі. Па-другое, як выдаць, якім правапісам, якой мовай? Магчыма, рукапісы прапускаць праз Тэрміналагічную камісію Акадэміі навук? Урэшце, як скаардынаваць работу па стварэнні новых слоўнікаў? Мо ёсць неабходнасць ствараць асобныя творчыя калектывы? Галоўнае ж, зазначыў міністр, каб уся гэтая работа адпавядала Закону аб мовах, статусу дзяржавы і каб новая літаратура з'яўлялася як мага хутчэй.

Важнасць пытання, якое вынесена на разгляд, падкрэсліў старшыня Камісіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па адукацыі, культуры і захаванні гістарычнай спадчыны **Н. Гілевіч.** Гэта пытанне вялікай дзяржаўнай важнасці, частка праблемы станаўлення дзяржавы, нацыянальнага Адраджэння: «Будзе мова жыць — будзе жыць і дзяржава. Час практычных спраў прыйшоў». Н. Гілевіч таксама спаслаўся на вопыт Інстытута беларускай культуры, супрацоўнікі якога зрабілі столькі, колькі і сёння не кожны калектыў можа здзейсніць.

Выступленнямі А. Бутэвіча і Н. Гілевіча былі акрэслены асноўныя накірункі гаворкі. А паколькі на пасяджэнне «круглага стала» запрасілі работнікаў друку, прадстаўнікоў Акадэміі навук, выкладчыкаў вышэйшых навучальных устаноў, бібліятэчных работнікаў, супрацоўнікаў рэспубліканскіх выдавецтваў, дык яна ахапіла самае шырокае кола пытанняў, якія, так ці інакш, тычацца згаданай праблемы.

Адметнасць пасяджэння ў тым, што самы чынны ўдзел у ім прынялі так званыя «тэхнары». І выступленні іх былі і эмацыянальнымі, і канкрэтнымі, як, скажам, выступленне **Л. Шлома** з радыётэхнічнага інстытута. Ён гаварыў пра тое, што зроблена, пра неабходнасць актыўнай работы дзеля ўдасканалення тэрміналогіі, пра падрыхтоўку да выпуску Беларускай матэматычнай энцыклапедыі.

Але найбольшую актыўнасць праявілі, натуральна, гуманітарыі. Вось вытрымкі з асобных выступленняў.

**А. Міхневіч** /інстытут замежных моў/: «Створаны ў інстытуце навукова-метадычны цэнтр слоўнікаў. У яго ўваходзіць каля пятнаццаці чалавек. Калі будзе адпаведная падтрымка, гатовы хоць цяпер стварыць яшчэ некалькі калектываў. Карыстаемся правапісам, зацверджаным афіцыйна. Ісці іншым шляхам — значыць свядома ступаць на дарогу разбурэння. Падрыхтавалі шэсць слоўнікаў. Яны ахопліваюць асноўныя еўрапейскія мовы. Тры з іх здадзены ў выдавецтвы: два — у энцыклапедычнае, адзін — у «Народную асвету». Яшчэ тры слоўнікі на падыходзе».

**М. Кавалеўскі** /выдавецтва «Беларусь»/: «Выданне слоўнікаў Міністэрства інфармацыі павінна ўзяць пад свой кантроль. Як гэта зрабіла сёлета Міністэрства адукацыі з выданнем падручнікаў. Найпершую ўвагу трэба ўдзяляць выпуску тэрміналагічных слоўнікаў. Іх адсутнасць будзе стрымліваць і справу выдання даведачнай літаратуры. У выдавецтве «Беларусь» на 1994 год запланаваны «Слоўнік музычных тэрмінаў». Хочам выпусціць слоўнікі па вайсковых тэрмінах, медыцынскіх. Узнікае пытанне, а хто павінен рэцэнзаваць рукапісы?»

**Л. Баршчэўскі** /Беларускі гуманітарны цэнтр/: «Безумоўна, прыярытэт — тэрміналагічным слоўнікам. А каб падключыць да важнай справы навукоўцаў, іх неабходна адпаведным чынам заахвочваць. Навуковыя часопісы, іншыя выданні павінны выходзіць па-беларуску. У крайнім выпадку, анатацыі даваць па-руску».

**Б. Сачанка** /выдавецтва «Беларуская энцыклапедыя»/: «Я супраць таго, каб выданне слоўнікаў «аддаць» у адны рукі ці прапускаць рукапісы праз якую-небудзь камісію. Бо гэта па сутнасці смерць у важнай справе. Не страшны адыход ад моўных норм, не страшны варыянты. Страшна, калі ўсё будзе ўціснута ў нейкую адну норму. Увогуле, на маю думку, найасноўнейшы падручнік

# ЯГО ВІДУШЧЫ ЛЁС

## ГУТАРКА З ПАЭТАМ І ПЕРАКЛАДЧЫКАМ ВАСІЛЁМ ЖУКОВІЧАМ

***Літаратурная перадача «Дыялог над разгорнутай кнігай», якую я вяду на радыё для старшакласнікаў, дае мне мажлівасць не пакідаць без увагі тыя цікавыя навінкі, што трапляюць у нашы кнігарні. Выбіраючы прадмет гутаркі для свайго слухача, думаю, чым можа прывабіць яго тое ці іншае выданне. Бо сёння сярод аўдыё-і відэаспакус няпроста знайсці час для добрай кніжкі.***

***Прыхільнікі беларушчыны, мусіць, заўважылі, што апошнім часам паболела перакладаў з іншых моў на беларускую. І гэта ўсцешвае, бо сапраўдная літаратура не ведае моўных абмежаванняў. Да яе заўсёды хінецца цікавасць перакладчыка, а праз яго да твора можа далучыцца і чытач.***

***Нядаўна ў выдавецтве «Мастацкая літаратура» выйшаў зборнік «Лірыкі» Алішэра Наваі. Аўтар перакладу паэт Васіль Жуковіч. Дыялог з ім пра загадкавую асобу і багатую спадчыну класіка ўзбекскай літаратуры і прапаную чытачам «ЛіМа».***

***Галіна ШАБЛІНСКАЯ***

**— Калі разглядаць пераклад як прыхільнасць яго аўтара да пэўнай літаратурнай спадчыны, пэўнай творчай асобы, то чым была выклікана ваша сімпатыя да Наваі?**

— Да Наваі ў мяне хутчэй за ўсё не сімпатыя — любоў. А ўсякая любоў — гэта лёс. Яму ж, лёсу, не загадаеш, не забароніш, бо ў лёсе чалавека — тое, што наканавана яму небам. І, мабыць, у кожнай зямной справе ёсць прысутнасць, уплыў неба. А зараз я прашу вас уявіць вялікі, раскошны сад з цэлым морам кветак і пладоў, ад якіх ідзе нязнаны водар. Вы прыехалі здаля, вам дужа цікава, што ж тут расце. Вас вабіць сад, спакушае і, як магніт, прыцягвае. І вось вам насустрач — садоўнік, чыімі рукамі, сэрцам і розумам створана гэта багацце. «Салам алейкум! — усміхаецца ён, запрашае ў сад і шчодра частуе садавінай. Вы, ураджаныя цудоўным пахам і смакам, думаеце пра тое, з кім бы падзяліцца такім цудам, і марыце, як бы на радзіму адсюль прывезці чаранкі, каб прышчапіць хоць адно дрэўца... Вось нешта падобнае адбывалася са мной, калі я ўвайшоў у сад паэзіі Алішэра Наваі... У вашым пытанні ёсць два важкія словы: асоба і спадчына. Тут якраз выпадак той, калі асоба яскравая і спадчына багатая.

**— Сёння, напрыканцы XX ст., аўтару-перакладчыку ці не сумна вяртацца ў часы ўсходняга Сярэднявечча, якое прыпала на жыццё заснавальніка ўзбекскай нацыянальнай літаратуры?**

— Чалавеку ўвогуле ўласцівыя жаданне і патрэба вяртацца. Скажам, на сваю радзіму, у сваё дзяцінства, да памяці продкаў, да вечных пытанняў, да самога сябе, сваёй сутнасці. Чалавек сталее, мудрэе — і ўсё часцей... вяртаецца. Ды ўвесь яго шлях зямны можна ўявіць як дарогу вяртання. А напрыканцы XX стагоддзя, калі мы развіталіся з аблудным бездарожжам і калі нам адкрылася перспектыва адрадзіць нацыянальную свядомасць і пабудаваць суверэнную дзяржаву, не сумна вяртацца — сумна не вяртацца да тых маральных арыенціраў, да тых агульначалавечых ідэалаў, якія глыбока асэнсоўваліся не толькі ў Сярэднявеччы, але і ў больш старажытныя часы. Сучаснае грамадства таму і даведзена да духоўнай галечы, што ў яго даўно адабралі вольны час, каб сумнявацца, азірацца, думаць. Але вяртанне непазбежнае — як да сваіх нацыянальных святыняў, так і сусветных. Яно, дарэчы, пачалося.

**— Пераклад спадчыны Наваі — гэта як ратаванне ад нашай бездухоўнасці ці спроба знайсці агульначалавечыя каштоўнасці, незалежна ад часу, месца, палітыкі?..**

— У спробе знайсці агульначалавечыя каштоўнасці і ёсць спроба ратавання ад нашае бездухоўнасці. Вядома, я ніяк не магу ўскладваць вялікія надзеі на ролю маленькай кніжкі, выдадзенай мізэрным накладам. Але ж мы й гамонім толькі пра нейкую спробу. Ратаваць хворае грамадства трэба было б маючы грунтоўную культурную праграму, дзяржаўную праграму. Пасля таго як чаша жыцця так доўга нахілялася і так моцна нахілілася ў бок зла, спадзявацца на самацёк нельга, бо адраджэнне нашай духоўнасці можа збочыць... Завяршаючы адказ на пытанне, падкрэслю, што нашаму сучасніку /вядома, не таму, каму ўсё дазволена, а таму, у каго сэрца баліць ад беззаконня і бязладдзя/ павінны быць блізкія ідэалы гуманіста Наваі, які змагаецца за волю, вернасць, шчырасць, праслаўляе дабро. Як найвялікшае зло асуджае жорсткасць, крывадушнасць, хіжасць.

**— Што ёсць найперш асоба Наваі вачамі сучаснага літаратара?**

— Спадзяюся, слова «сучаснага» ўжыта вамі не як абавязковае, проста — дзеля сувязі. Бо, як мне здаецца, галоўнае не ў тым, які літаратар глядзіць на мудраца, а ў тым, што ён пры гэтым бачыць. Для мяне Наваі — не толькі яркая індывідуальнасць, але і выключна цэльная асоба, якая зберагла сваю душу. Ён быў эмірам, візірам у султана Хусейна. Меў славу геніяльнага паэта. Але ні дзяржаўныя высокія пасады, ні паэтычная слава не ўскружылі яму галаву. Пазней ён зведаў глыбокія расчараванні і беды — адбываў высылку ў правінцыі, быў асуджаны на самотнае асабістае жыццё. А яшчэ ён перажыў смяротнае пакаранне брата Хайдара. У такім стане можна было стаць рабом Бахуса, дэградаваць маральна. Але Наваі выстаяў. Больш за тое, захаваў прысутнасць духу да канца жыцця. На самым яго схіле стварыў паэму «Мова птушак», якая аказалася па сутнасці паэмай мудрасці. Чалавек, дзяржаўны дзеяч і паэт у асобе Наваі — гарманічнае цэлае. Наваі, справядлівы ўладар, караў жорсткіх чыноўнікаў, Наваі-мецэнат са свайго асабістага рахунку выдзяляў студэнтам стыпендыі, вучоным і паэтам — зарплату і матэрыяльную дапамогу. Невыпадкова і ў паэзіі прапаведаваў шчырасць, любоў, вернасць. Як паэт ён часта бывае падобны да шамана, які сваімі замовамі заклінае людзей ад здрадаў і іншых бедаў.

**— Як доўга трымала перакладчыка-славяніна стыхія ўсходняй паэзіі? У чым яе асалода і адначасова пакута для творцы?**

— Стыхія ўсходняй паэзіі трымала мяне прыблізна столькі, колькі магутны акіян трымае шукальніка дзівосных каралаў... У чым жа асалода і пакуты перакладчыка? Асалода ў тым, што ты спасцігаеш глыбіню, адчуваючы пры гэтым захапляльны палёт, вышыню, невераемную прастору, ну, і, вядома, яна ў радасці адчування — дакладней, прадчування творчай удачы. У чым пакуты? У супраціўленні матэрыялу, з якім трэба ўкласціся ў кананічную форму, і, вядома, у шкадаванні, што ў тваім арсенале не веданне мовы арыгінала, а ўсяго толькі даслоўнікі, часцей за ўсё недасканалыя. Цікава, што адзін з расійскіх перакладчыкаў Наваі Леў Пянькоўскі нават культурны, добрасумленны, дакладны даслоўнік параўноўвае з разабраным на цагліны будынкам, які разабраў нехта, а скласці, узвесці павінен перакладчык.

**— Што найбольш прывабнівае вас як лірычнага паэта ў лірыцы Алішэра Наваі?**

— У лірыцы Наваі мяне найбольш прываблiваюць інтымныя матывы, глыбокія, глыбінныя інтымныя пачуцці, страсная закаханасць лірычнага героя. Цікава, між іншым, што арабскі паэт Мажнун больш як 1300 гадоў таму пісаў: «Толькі той, хто кахае, варты называцца чалавекам». А Луі Арагон яшчэ больш катэгарычна заклікаў: «Гавары-це толькі пра каханне, усё астатняе — злачынства». У Наваі падобных думак я пакуль што не знайшоў, але і без таго я палюбіў яго, як палюбіў Пятрарку і Махтумкулі, Міцкевіча і Фета /я не кажу — Багдановіча: ён — наш, родны/, паэзія якіх таксама не ўспрымаецца без гэтага святога пачуцця.

**— Газэль, як улюбёны жанр Наваі, пераважна складае і кнігу лірыкі ў вашым перакладзе...**

— Газэлі ў зборніку пераважаюць адно колькасцю назваў. Агульны ж іх аб'ём саступае ўрыўкам з паэм.

**— І тым не менш газэль, мусіць, пачулася спачатку? Прыйшла нейкай асацыяцыяй? Ці я памыляюся?**

— Не, не памыляецеся. Спачатку была газэль... Яна пры ўсёй адметнасці, складанасці яе формы чамусьці асацыіравалася ў мяне з санетам: і там і тут - свае каноны, чымсьці падобныя пры ўсім адрозненні. Хацелася б паразважаць пра арыгінальныя і жорсткія рамкі газэлі ў сэнсе формы, яе атрыбуты /скразную рыфму, рэдыф ды іншыя/, але тут важна сказаць пра галоўнае. Газэль — гэта універсальная структура, у якой можна цэлы свет змясціць. А што такое свет Наваі? Гэта — не толькі жывыя, часта супярэчлівыя, заўсёды пранікнёныя пачуцці канкрэтнага чалавека, а яшчэ і філасофскі грунт, і абсягі роднай яму гісторыі, міфалогіі, і далягляды рэлігіі, успрынятыя розумам і прынятыя сэрцам гэтага чалавека, — усё тое, што абавязкова ўплывае на душу, калі не фармуе яе.

**— Вядома, што да нядаўняга часу творы Наваі, звязаныя з рэлігіяй, часта трактаваліся аднабакова, скажона, яны нават скарачаліся пры перавыданнях. Сённяшні дзень, на шчасце, спрыяе паэту, ну і адпаведна нам, чытачам. Цікава, чым была для Наваі рэлігія ў жыцці і творчасці?**

— Над такімі складанымі пытаннямі можна хіба што паразважаць. Бо нават вучоныя мужы, што ўсё яшчэ вядуць па многіх пытаннях спрэчкі вакол асобы Наваі, іх, пэўна, не вычарпалі. Што ж, быў час, калі сёй-той у верніку хацеў бачыць атэіста... Мяркуючы па творах Наваі, аўтар іх быў добра выхаваны і высокаадукаваны чалавек, ён цудоўна ведаў іслам, часта па-майстэрску выкарыстоўваў хадзісы і вобразы Карана. Яго светапогляд быў звязаны з суфізмам, адным з кірункаў ісламу, які прапаведуе, што чалавек на зямлі ў сваім памкненні да бога, да зліцця з ім павінен прайсці сем ступеняў — сем далін — ачышчэння. У паэме «Мова птушак» паэт іх называе. Гэта — даліна Шуканняў, даліна Любові, даліна Пазнання, даліна Безудзельнасці, даліна Яднання, даліна Трывогі, даліна Вызвалення. Кажуць /пішуць/, што Наваі — не суфій, што ён не падзяляў поглядаў суфізму. Ды ў спадчыне карыфея ёсць газэль «Тасаўвуф» /суфізм/, якая сведчыць: аўтар вельмі сімпатызуе гэтаму рэлігійнаму кірунку. Пішуць, што суфізм недаацэньваў чалавека і гэты свет. Аднак Наваі, прапаведуючы адзінства чалавека і бога, узвышае, абагаўляе чалавека, апявае, услаўляе яго розум, красу, пачуцці. А як жа інакш, калі і сам ён у пэўным сэнсе — бог?..

Зрэшты, можа, Наваі ў Сусвеце —

— гэта слоўнік. Без дзяржаўнай палітыкі праводзіць гэтую работу паспяхова нельга. І не толькі грошы неабходны, а і матэрыяльныя рэсурсы».

**В. Жарыкаў** /выдавецкая фірма «Белая Русь»/: «Адзін шлях — выданне слоўнікаў для вузкага кола спецыялістаў, другі шлях — выпрацоўка літаратурнай мовы. Галоўнае ж, каб былі рукапісы, а тады да справы выпуску слоўнікаў могуць падключыцца і недзяржаўныя выдавецтвы».

**Я. Саламевіч** /выдавецтва «Беларуская энцыклапедыя»/: «Трэба стварыць банк дадзеных па слоўніках. Пра многія ж унікальныя выданні ніхто і не ведае, у тым ліку і выдаўцы. А выданне слоўнікаў хоць бы кожнай пятай вёскі? Якое гэта моўнае багацце! Канечне, цяжкасці, але калі іх не было?»

**С. Кузьмін** /выдавецкая фірма «Эрыдан»/: «Без распрацоўкі нацыянальнай праграмы па выданні тэрміналагічных і моўных слоўнікаў справа не зрушыцца з месца. Прытым усе слоўнікі павінны праходзіць як выданні па дзяржзаказе. Выпускаць іх трэба на агульнапрынятай беларускай літаратурнай мове. Сёння ж атрымліваецца так, што ў двух-трох выдавецтвах у планах значацца па сутнасці падобныя слоўнікі, толькі падрыхтаваныя рознымі людзьмі».

Гаворка, як бачыце, была зацікаўленай. І гэта абнадзейвае. Зроблены і практычны крок. Пры Міністэрстве інфармацыі Беларусі створана слоўнікавая камісія, у якую ўвайшлі вядомыя навукоўцы і практыкі.

Вынікі гаворкі падвялі **Н. Гілевіч** і **А. Бутэвіч.**

---

мікрасвет, але ў літаратуры — макрасвет. Невыпадкова і сёння ён для мноства людзей мусульманскага свету — духоўная святыня, свайго роду рэлігія /міжволі згадваюцца словы Я. Янішчыц: «Узвядзём жа культуру ў культ!..»/. Чалавецтву ніколі не шкодзіў культ мастацтва, культуры, рэлігіі, духоўнасці, людзям заўсёды шкодзілі культы Сталіных і Рашыдавых. Народны мастак Узбекістана Чынгіз Ахмараў у сваёй майстэрні згадваў, як адна высокая начальніца загадала, каб на карціне «Прыём паслоў», што вісела ў рэстаране ў Самаркандзе, замазалі два арабскія словы «Шчыра запрашаем», не разумеючы іх і баючыся чагосьці «недазволенага» накшталт малітвы. У гэтага мастака ёсць і такая карціна: юны Алішэр грае на дутары — птушкі зляцеліся паслухаць. Пра Наваі напісаны кнігі, створаны фільмы. Што асабліва моцна ўражвае: мноства газэляў Наваі стала песнямі і іх дагэтуль натхнёна спяваюць як народныя спевакі, так і прафесіяналы. То, пэўна, вера ў алаха і ў свой талент памагалі паэту ствараць такую паэзію.

**— Згадваючы сёння Алішэра Наваі, мусіць, нельга не сказаць пра тое, што ён амаль узняў з нябыту сваю родную мову — старажытнаўзбекскую мову, цюркі, на якой выйшла фактычна амаль уся яго спадчына...**

— Так, творчы подзвіг наватара Наваі адбыўся на грунце роднай мовы. Пазіцыя Наваі была прынцыповая: багацце роднай мовы, калі ім валодаеш, не заменіць аніякая іншая мова, як бы ні была яна пашырана. І не дзіва, што мова продкаў адкрыла паэту большыя магчымасці, чым персідская, яна аднолькава паспяхова служыла яму і ў складанейшых метафарычных спляценнях, і ў дакладных навуковых працах. Адбылася ўзаемнасць: паэт сваімі геніяльнымі творамі ўзняў аўтарытэт мовы, а яна прынесла яму славу.

**— Пытанне апошняе: чым ёсць лёс Наваі-чалавека ў лёсе Наваі-паэта?**

— Я часам думаю над пытаннем: дай бог нашаму Максіму Багдановічу шчаслівы жыццёвы лёс, ці стаў бы ён неперасўзыдзеным лірыкам, геніем чыстае красы, прарокам нацыі? Ці не драма асабістага жыцця і прадчуванне ранняе смерці сабралі ўсе яго духоўныя /ды і фізічныя/ сілы і скіравалі іх на надзвычайнае інтэнсіўнае тварэнне, падказалі юнаму таленту аб шырыні душэўнай дбаць?.. Называю блізкае не дзеля таго, каб параўнаць з далёкім. Наваі пражыў зусім іншае жыццё. Было ж яно, аднак, па-свойму драматычнае. І скаргі на жыццёвы лёс у паэзіі Наваі сустракаюцца надта часта. На многія газэлі паэта я гляджу як на «плачы»: настолькі моцныя ў іх крыўды на нявернасць каханай, на гэты знікомы свет, на ўдары неба. З зачараваннем побач у яго на мяжы з роспаччу, — расчараванне, тут змаганні з сабой, паражэнні... Але хто ведае, мо жорсткі лёс паслаў Наваі-чалавеку нешчаслівае каханне, каб Наваі-паэт выхаваў і максімальна разгарнуў закладзеныя прыродай сілы, не будучы абцяжараны сямейнымі клопатамі, абавязкамі? Дык, мабыць, ён, лёс чалавека Наваі, прынесены ў ахвяру лёсу паэта Наваі, быў не жорсткі — быў абачлівы і відушчы.

---

Віншуем!

# Алесю БАЖКО — 75

З першымі вершамі і нарысамі Алесь Бажко выступіў у друку яшчэ ў 1947 годзе. К гэтаму часу ён прайшоў ужо нямала жыццёвых сцяжын. Нарадзіўся 22 кастрычніка 1918 года ў вёсцы Даўгінава цяперашняга Карэліцкага раёна. Цяга да музыкі прывяла ў тагачасны музычны інстытут імя С. Манюшкі ў Навагрудку, дзе правучыўся два гады, а ў 1938-ым ўжо наведваў заняткі ў Варшаўскай кансерваторыі.

Калі пачалася вайна з нямецка-фашысцкімі захопнікамі, быў прызваны ў армію. У 1942 годзе на Заходнім фронце А. Бажко цяжка паранілі. Працаваў на абаронным будаўніцтве. Пасля вызвалення Беларусі ад захопнікаў, з 1945 года, быў на камсамольскай рабоце, а пасля звязаў лёс з журналістыкай. Працаваў літаратурным супрацоўнікам тагачаснай баранавіцкай абласной газеты «Чырвоная звязда», на абласным радыё, у «Чырвонай змене»...

У 1956 годзе творчы лёс прывёў А. Бажко ў «ЛіМ» — быў карэспандэнтам, загадчыкам аддзела пісем рэдакцыі. Праз тры гады перайшоў на пасаду намесніка рэдактара газеты «Голас Радзімы», затым загадваў рэдакцыяй мастацкай літаратуры выдавецтва «Беларусь», а ў 1970 годзе зноў вярнуўся ў «ЛіМ» —



намеснікам галоўнага рэдактара. У 1973—1977 гадах быў дырэктарам Літаратурнага музея імя Янкі Купалы, у 1977—1979 — галоўным рэдактарам рэпертуарна-рэдакцыйнай калегіі Міністэрства культуры Беларусі.

Важкія творчыя набыткі А. Бажко ў розных жанрах. Ён выдаў кнігі прозы «Перад вераснем» /1959/, «Позняе ворыва» /1963/, паэмы «Карвіга пакідае хутар» /1961/, «Татры» /1964/, зборнікі вершаў «Блакітныя вербы» /1973/, «Суладдзе» /1975/, кнігі нарысаў і памфлетаў і іншыя. Неаднаразова выходзілі выбраныя творы. Акрамя таго, з поспехам выступае як перакладчык, узнаўляючы па-беларуску творы польскіх і славацкіх пісьменнікаў.

Ад усяго сэрца віншуем Алеся Цімафеевіча, колішняга лімаўца, з днём нараджэння! Зычым яму і надалей моцнага здароўя, новых творчых набыткаў.

---

Сярод кніг

# ЧЫТАЙМА ВАЛЬЕХУ!

А ўсё ж, як кажуць, «выпростваемся». Як ні цяжка сёння і з паперай, і з фінансаваннем, і з паліграфічнымі матэрыяламі, а выдавецтва «Мастацкая літаратура», знаходзіць магчымасць выпускаць не толькі новыя кнігі беларускіх пісьменнікаў, а і перакладныя. Працягваецца выпуск бібліятэкі «Паэзія народаў свету». Стартавала яна, як вядома, у 1971 годзе, за гэты час папоўнілася не адным дзесяткам кніжак. Дзякуючы перакладам слынных майстроў нашага слова па-беларуску загаварылі Ф. Г. Лорка, П. Неруда, У. Уітмен, Н. Гільен, І. Гётэ, П. Элюар, Н. Вапцараў, Л. Незвал, П. Явараў і іншыя сусветна вядомыя творцы.

І вось яшчэ адно папаўненне ў «ПНС». толькі што выйшла кніга выбранай лірыкі Сэсара Вальеха «Чорныя геральды». Творы знакамітага перуанскага паэта пераклаў Р. Барадулін, а прадмову «Загадкавы Вальеха» напісаў, уклаў зборнік, зрабіў да твораў каментарыі К. Шэрман. Дарэчы, гэта не першае творчае супрацоўніцтва Р. Барадуліна і К. Шэрмана пры ўзнаўленні па-беларуску лацінаамерыканскіх аўтараў.

Што тычыцца С. Вальехі, дык К. Шэрман зусім невыпадкова вынес у загаловак слова «загадкавы». Найперш, канечне, ён меў на ўвазе адметнасць С. Вальехі як творцы. Хаця, бадай, не толькі гэта. С. Вальеха загадкавы для нас яшчэ і таму, што да нядаўняга часу аматары паэзіі не шмат і ведалі яго нават у рускамоўных перакладах.

Сэсар Вальеха з тых, для каго нараджэнне вобразаў і духоўнае свята, і мастакоўская асалода, і пакуты душы. Праца нават пасля таго, як радкі нарадзіліся, прытым дасягнуты высокі ўзровень майстэрства.

Удасканаленне С. Вальехі, як падкрэслівае К. Шэрман, не ведала межаў: «Калі прыходзіла яго светлая хвіліна, ён укладваў дарэшты наяўную моц пачуццяў, тэмпераменту, інтэлекту, вопыту ў радкі бездакорнае класічнае фактуры, а гэта значыць, што яны гэтак нараджаліся, гэтак пабачылі свет, і нездарма кажуць, што той паэт, хто знаходзіць у сховішчах душы адзіна адэкватную пачуццям і думкам форму. Але потым ён правіў верш пакутліва доўга, ды не толькі ў межах удакладнення ці карэкцыі, няхай замены няўдалага радка. Ягоная праўка ішла шляхам дэфармацыі, ломкі відочных элементаў класічнае формы, быццам корань зла — у яснай зграбнасці спрадвечнае гармоніі, у плёне ягонай бессані, нібыта паэт ламаў зявідны свет брыдкіх умоўнасцяў».

Сапраўды ужо, С. Вальеха тым і цікавы, што ён... С. Вальеха. Ды ўрэшце, што гаварыць пра паэзію шмат. Яе неабходна чытаць. Спакваля далучаюся да вобразаў, свету аўтара. Асцярожна робячы гэта, каб не прапусціць самага галоўнага, што хацеў ён сказаць і мог сказаць. Зноў і зноў вяртаючыся да мясцін, што прынеслі задавальненне ад сустрэчы з майстрам.

На жаль, пераважная большасць з нас замежнымі мовамі не валодае. Таму, знаёмячыся з С. Вальехам, застаецца давяраць майстэрству і густу перакладчыка. Яны ж, як паказалі і ранейшыя перакладзеныя Р. Барадуліным кнігі, у яго бездакорныя. А наконт таго, наколькі С. Вальеха стаў... беларускім, цудоўна бачна хоць бы з гэтага верша «Верасень»:

**Той ноччу вераснёваю была ты —**
**...ажно да болю! — добраю са мною.**
**Што мне астатняе, я тым багаты,**
**нашто была ты добраю такою.**

**Той ноччу глянуць на мяне магла ты,**
**на хворага, на сумнага тырана.**
**Што мне астатняе, я тым багаты.**
**Адкуль мой сум, ці ведала ты рана?**

**Той ноччу віс вятох салодкі нізка**
**і да вачэй тваіх я гэтак блізка**
**быў, як да Бога... Саладзелі вочы**

**таксама ў вечар вераснёвай волі,**
**калі тваё гарачае вуголле**
**у снежні ў лужынах тушылі ночы.**

Дык чытайма Сэсара Вальеха! Чытайма яго «Чорныя геральды», кнігу, якая яшчэ раз пераконвае, што ў гэтым грэшным свеце ёсць яшчэ шмат добрага.

**А. М.**

---

# КАБ БЫЦЬ СВЯДОМЫМІ...



У адзінаццатай сярэдняй школе горада Мінска вялікая ўвага ўдзяляецца нацыянальнаму Адраджэнню. Тут пастаянна выходзіць радыёгазета «З вякоў мінулых», дзейнічае выстаўка «З бабулінага куфэрка», што знаёміць з даўнімі рэчамі; арганізоўваюцца сустрэчы з беларускімі артыстамі, створаны школьны фальклорны ансамбль. Ініцыятар усіх гэтых добрых спраў — настаўніца беларускай мовы і літаратуры Г. Сасноўская.

Дзякуючы задумцы Ганны Сяргееўны на днях у школе адкрыўся і клуб «Спадчына». Першымі гасцямі яго сталі вядомыя пісьменнікі Мікола Мятліцкі і Уладзімір Рубанаў. Прыйшлі яны адначасова і як супрацоўнікі выдавецтва «Мастацкая літаратура». Прыйшлі не з пустымі рукамі: прынеслі ў дарунак цэлую бібліятэчку — сто кніг, выпушчаных «Мастацкай літаратурай».

Адбылася шчырая, зацікаўленая гаворка з вучнямі і настаўнікамі, прысвечаная надзённым пытанням развіцця літаратуры і, безумоўна, нашым паўсядзённым праблемам.

У планах «Спадчыны» — сустрэчы з супрацоўнікамі выдавецтваў «Юнацтва» і «Полымя», іншымі пісьменнікамі.

*На здымку: Мікола МЯТЛІЦКІ і Уладзіслаў РУБАНАЎ падчас сустрэчы.*

*Фота Ю. БОНДАРАВА*



# СЛУЖЫМ АЙЧЫНЕ

ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ БЕЛАРУСКАГА ЗГУРТАВАННЯ ВАЙСКОЎЦАЎ

## СВЯТА, ЯКОЕ БУДЗЕ ЗАЎСЁДЫ




*Сяткаванне дня Беларускай вайсковай славы робіцца традыцыяй. Вось як праходзіла гэта свята на Беларусі сёлета.*

**Слонім**

Гэты горад першы сустрэў свята. Тут 5 верасня адбыўся ўрачысты мітынг у гонар свята. Дзесяткі прысутных, сярод якіх, дарэчы, было шмат «афганцаў», прынялі ўрачыстую клятву на вернасць Радзіме.

**Менск**

Свята пачалося з ускладання кветак да помніка Перамогі. Пасля амаль тысячная калона гарадской арганізацыі БЗВ прайшла паўз будынак Міністэрства абароны да плошчы перад оперным тэатрам, дзе адбыліся асноўныя мерапрыемствы свята. Пасля кароткага мітынгу прысутныя на свяце /а іх было прыблізна 8—10 тысяч/ урачыста пакляліся бараніць сваю Радзіму. Пасля адбыўся святочны канцэрт, на які сабралася шмат моладзі. За парадкам на свяце, акрамя шматлікіх супрацоўнікаў міліцыі, назірала ахова БЗВ у камуфляжнай вайсковай вопратцы з жэўронамі Згуртавання.

**Гародня**

Урачыстасць у Гародні ўключала ў сябе мітынг, клятву на вернасць Радзіме, святочнае шэсце. Многія сотні людзей прайшлі ў калоне па вуліцах горада да Грунвальдскага каменя, дзе ўшанавалі хвілінай маўчання памяць загінуўшых за родную зямлю.

**Гомель**

Урачыстае пасяджэнне з нагоды свята адбылося, нягледзячы на спробы забараніць яго, шмат у чым дзякуючы прадстаўнікам кіраўніцтва горада сп. Зінчуку А. Ф. і Карніенку В. М. Урачыстасць уключала выступленні грамадскіх дзеячаў, гісторыкаў, выступленне Камернага хору Гомельскага універсітэта.

**Магілёў**

Органы міліцыі спрабавалі спачатку перашкодзіць правядзенню свята. Але пасля таго, як імі былі яўна перабольшаны іхнія правы ў адносінах да дэпутата гарсавета А. Фёдарава, міліцыя спыніла сваё ўмяшанне ў ход святкавання. Прысутныя на плошчы каля Палаца піянераў правялі мітынг. Потым адбылася ўрачыстая цырымонія клятвы на вернасць Радзіме.

**Віцебск**

Нягледзячы на забарону гарадскіх улад, святкаванне ўсё ж такі адбылося. Удзельнікі ўрачыстага мітынгу на пляцы Волі ўшанавалі памяць змагароў за Беларусь.

## АД РЭДАКЦЫІ «ЛІМА»

У цяжкія для Беларускага згуртавання вайскоўцаў часы, калі Міністэрства абароны распачало супраць БЗВ сапраўдную вайну, мы палічылі сваім маральным абавязкам падтрымаць вайскоўцаў-патрыётаў. Таму на старонках нашай газеты і з'явіўся інфармацыйны бюлетэнь «Служым Айчыне».

Разам з тым мы лічым, што БЗВ даўно павінна мець сваю ўласную газету альбо свае старонкі ў газеце «Во славу Родины». Дарэчы, чаму гэтая газета па сёння мае расейскую назву і выдаецца на мове суседняй дзяржавы? «Служым Айчыне» — добрая назва для газеты Беларускага войска,

Апошнія падзеі ў Маскве вымушаюць наш урад увогуле і ваеннае міністэрства ў прыватнасці ўспомніць, якой дзяржаве і якому народу яны абавязаны служыць.

## «ТРЫМАЙ ЗЛОДЗЕЯ»

### ЗАЯВА ПРЭС-ЦЭНТРА БЕЛАРУСКАГА ЗГУРТАВАННЯ ВАЙСКОЎЦАЎ

Сярод грамадскасці Беларусі неаднаразова выказваўся непакой станам Узброеных Сіл Беларусі, што цалкам зразумела, бо падстаў для гэтага болей чым дастаткова. Найбольш яскравым прыкладам такога непакою з'яўляецца прыняцце рэзалюцыі па вайсковым пытанні Першым з'ездам беларусаў свету. Уражвае рэакцыя на гэтую рэзалюцыю кіраўніцтва Міністэрства абароны. Замест таго, каб прыняць дзейсныя захады па выпраўленні становішча ў войску, Міністэрства абароны адкрыта зняважыла гістарычны для беларускага народа форум.

Ніяк іначай, як спробай адцягнуць увагу ад сітуацыі ў войску, нельга патлумачыць і чарговую кампанію, якую пачало Міністэрства абароны і залежныя ад яго ветэранскія арганізацыі. Дзейнічаючы па прынцыпе «трымай злодзея», яны заявілі аб нібыта стварэнні ў БЗВ «ваенізаваных дружын». Рашэнне БЗВ дапамагчы, у строгай адпаведнасці з законам, стварэнню раённымі аддзеламі міліцыі добраахвотных народных дружын абвяшчаецца ледзь ні спробай стварэння незаконных узброеных фарміраванняў.

Мы лічым, што было б добра, каб арганізацыі, якія зараз займаюцца з падачы Міністэрства абароны распаўсюджваннем чарговай плёткі пра БЗВ, зрабілі нешта канкрэтнае для свайго народа і таксама аказалі ў межах закону дапамогу органам МУС у аднаўленні ДНД. Мо тады на вуліцах нашых гарадоў нарэшце зрабілася б спакайней.

Мы раім спадарам пляткарам улічыць вопыт дэпутатаў Вярхоўнага Савета А. Новікава, В. Паўлава, Л. Прывалава, В. Сарокіна, якія таксама некалі выступілі з «сенсацыйнымі» заявамі адносна БЗВ, а зараз усё ніяк не могуць знайсці магчымасці з'явіцца ў суд у якасці адказчыкаў за паклёп.

**ПРЭС-ЦЭНТР БЗВ**

## ВАЕННАЯ ПАГРОЗА: МІФЫ І РЭАЛЬНАСЦЬ

***Пасля абвяшчэння нашай незалежнай дзяржавы — Рэспублікі Беларусь узнікла неабходнасць распрацоўкі канцэпцыі бяспекі дзяржавы. На гэтую тэму ўжо праведзены тэарэтычныя канферэнцыі з удзелам Міністэрства абароны Беларусі, але вынікі іх шырокай грамадскасці, на жаль, невядомыя. Бо друк, падпарадкаваны Саўміну, прапагандуе ідэю далучэння Беларусі да дагавора аб калектыўнай бяспецы, а нязгодных проста не пускаюць на старонкі газет.***

Прыхільнікі скасавання беларускага нейтралітэту не валодаюць крытэрыямі нацыянальнай бяспекі, а ўмовы пастаноўкі задачы свядома спрошчваюцца, звужаюцца стасункамі Беларусь—Расія, ці ў лепшым выпадку — Беларусь—Расія—Украіна—Польшча. Між тым, трэба ўяўляць месца і інтарэсы Беларусі не толькі ў рэгіянальным кантэксце, але ў сусветным геапалітычным працэсе. У якасці крытэрыю бяспекі мэтазгодна разумець стан, пры якім Беларусь мае спрыяльныя знешнія ўмовы свайго сацыяльна-эканамічнага і грамадска-палітычнага развіцця. Бяспека дзяржавы абумоўлена наступнымі звязанымі паміж сабой фактарамі: эканамічным, экалагічным, ідэалагічным, ваенным. Для рашэння складанай задачы трэба раскласці яе на простыя. Разгледзім пакуль што толькі магчымасць ваеннай пагрозы нашай краіне /маюцца на ўвазе магчымыя ваенныя канфлікты, у якія можа быць уцягнута Беларусь/.

Савецкія /расійскія/ і замежныя навукоўцы называюць тры віды войнаў, магчымых у наш час:

— глабальная /сусветная/ вайна паміж вядучымі краінамі свету з уцягваннем на розныя бакі канфлікту іншых краін;

— лакальныя ваенныя канфлікты з прымяненнем звычайных узбраенняў;

— грамадзянскія войны, пры якіх звычайна адбываецца распад узброеных сіл дзяржавы на групоўкі, што супрацьстаяць адна другой.

Пасля ліквідацыі Варшаўскага Дагавору і распаду СССР пагроза глабальнай сусветнай вайны значна зменшылася, але канчаткова не ліквідавана. Не знікла верагоднасць прыходу да ўлады ў адной з вялікіх дзяржаў ваяўнічых авантурыстаў, якія паставяць сваёй мэтай захоп чужых тэрыторый. Пры гэтым непазбежна сутыкненне з іншымі вялікімі дзяржавамі і ўцягванне ў канфлікт меншых краін, такіх, як Беларусь. Непрыемных «сюрпрызаў» можна чакаць ад Расіі, ЗША, Германіі, Кітая. У нейкай ступені — ад Японіі. ЗША, Германія, Японія — высокаразвітыя дэмакратычныя дзяржавы, Кітай і Расія — эканамічна слабейшыя, але маюць магутныя ўзброеныя сілы.

У ЗША — самай магутнай дзяржавы свету можа ўзнікнуць спакуса сусветнага панавання. Але гэтая краіна пакуль што паспяхова дасягае сваіх мэт эканамічнымі і палітычнымі сродкамі. Ды і сама, адладжаная за 200 год, дзяржаўная сістэма ЗША пакуль што надзейна гарантуе ад пранікнення экстрэмістаў у вышэйшыя эшалоны ўлады.

Германія і Японія — краіны «пакрыўджаныя» ў Другой сусветнай вайне. Тут, нягледзячы на дэмакратычны лад, нельга выключыць актывізацыі рэваншысцкіх настрояў. Але нават у такім выпадку ў блізкай перспектыве гэтыя краіны не будуць уяўляць пагрозы сусветнаму спакою, паколькі іх узброеныя сілы адносна слабыя ў параўнанні з іншымі вялікімі дзяржавамі, напрыклад, Англіі ці Францыі.

Хуткімі тэмпамі ўзрастае эканамічная і ваенная моц азіяцкага гіганта — Кітая. Гэта — адна з нямногіх краін свету, дзе камунізм — афіцыйная ідэалогія. Пакуль што для краіны характэрная адносная палітычная стабільнасць. Але як доўга гэта будзе працягвацца, ніхто ўпэўнена не скажа. Ці не паспрабуе будучае кіраўніцтва гэтай краіны вырашаць свае магчымыя ўнутраныя супярэчнасці праз канфлікт з суседзямі? На нашай памяці — узброеныя дзеянні Кітая супраць Індыі, В'етнама і СССР /востраў Даманскі/. І зараз у Кітаі друкуюцца карты, на якіх тэрыторыя КНР не супадае з міжнароднымі межамі.

Цяпер пра Расію. Пасля распаду СССР Расія, што абвясціла сябе яго правапераемнікам, мае тэрыторыю меншую на 5 мільёнаў квадратных кіламетраў, і насельніцтва ў два разы менш, чым Савецкі Саюз. Эканоміка краіны ў цяжкім стане. Пакрыўджаныя амбіцыі расійскіх шавіністаў. Яны прагнуць аднаўлення імперыі ў былых межах. Нягледзячы на эканамічныя цяжкасці, Расія мае магутны ваенна-прамысловы комплекс /80 % ВПК былога СССР/. Галоўная небяспека міру — унутраная нестабільнасць гэтай краіны. За шматвяковую гісторыю ад царызму да бальшавізму яна не набыла дэмакратычных традыцый. Расійскім дэмакратам вельмі цяжка супрацьстаяць ціску ваяўніча шавіністычных сіл, прыход якіх да ўлады зробіць Расію дзяржавай небяспечнай і для суседзяў, і для ўсяго чалавецтва.

Такім чынам, на бліжэйшыя часы асноўная ваенная пагроза Беларусі — грамадзянская вайна ў Расіі. Аднак цалкам ізалявацца ад усходняга суседа нам немагчыма. Калючым дротам тут не абаронімся. Ды і эканоміка наша пакуль што амаль на 80 % завязана на Усходзе, асабліва сыравінна-паліўны комплекс. Нам неабходна развіваць раўнапраўныя, сяброўскія адносіны з Расійскай Федэрацыяй, браць да ўвагі яе стратэгічныя інтарэсы. Але мы не можам быць абыякавымі да яе ўнутранага стану. Падтрымка расійскіх дэмакратаў — гэта не ўмяшальніцтва ва ўнутраныя справы суседняй дзяржавы, а барацьба Беларусі за сваё існаванне, бо ў выпадку магчымых спроб узброеным шляхам аднавіць Расійскую імперыю страты панясуць многія краіны, а нашы ахвяры ўвогуле будуць незлічонымі.

Што датычыцца лакальных ваенных канфліктаў у Заходняй Еўропе, то яны малаверагодныя, паколькі тут склаліся дастаткова прагматычныя адносіны паміж суседнімі краінамі. Прыклад Югаславіі — суровая перасцярога і наўрад ці распаўсюдзіцца на іншых.

Грамадзянская вайна на Беларусі немагчыма, але, на жаль, узрастае пагроза ўмяшальніцтва ўзброеных сіл у палітычнае жыццё рэспублікі, паколькі значная частка афіцэрскага корпуса нашых узброеных сіл варожа ўспрымае ідэю незалежнасці Беларусі. Урад гэтую пагрозу не заўважае, ігнаруе.

Падводзячы рысу, трэба адзначыць, што, зыходзячы з магчымай ваеннай пагрозы, курс Беларусі на нейтралітэт пры сучасным геапалітычным раскладзе сіл з'яўляецца апраўданым і лагічным.

**А. Б.**

# ... ЦІ АСКЕПАК ІМПЕРЫІ

***«Воинская дисциплина основывается на сознании каждым военнослужащим воинского долга и своей роли в обеспечении безопасности Республики Беларусь...»***

*Дисциплинарный устав Вооруженных Сил Республики Беларусь /проект/ /«Во славу Родины», N 93, 26 мая 1993 г./*

***«Основными задачами воспитательной работы являются: — воспитание любви к Родине, привитие военнослужащим чувств патриотизма и интернационализма, верности народу и стране, ее Верховному Совету и правительству республики, Вооруженным Силам, бережного отношения к традициям...»***

*Концепция воспитательной работы в Вооруженных Силах Республики Беларусь /проект/ /«Во славу Родины», N 52, 23 марта 1993 г./*

***«При потребности молодого пополнения в количестве более 34000 человек возможно, по прогнозу, призвать только 16,5 тыс. человек, что составляет 48 процентов от потребности...***

***Основными принципами сложившегося положения дел /гаворка ідзе пра прызыў 92 года/, на наш взгляд, являются отсутствие военно-патриотического воспитания молодежи и, как следствие этого, падение престижа военной службы...»***

*З прамовы міністра абароны Рэспублікі Беларусь Паўла Казлоўскага на пашыраным пасяджэнні Калегіі Міністэрства абароны Рэспублікі Беларусь /«Во славу Родины», N 82, 11 мая 1993 г./*

Вось з такіх трох эпіграфаў і вырашыў я пачаць гаворку пра дачыненні ў Беларускім Войску, пра яго вартасці і недахопы, пра праблемы і дасягненні.

Беларуская прэса падае сённяшнюю сітуацыю вакол Беларускага Войска прыблізна так: большасць моладзі ў войску служыць не жадае, а тыя, каму адкруціцца не ўдалося, служаць абы-як, уцякаюць, здзекуюцца з саслужыўцаў, парушаюць дысцыпліну і г. д. Адпаведна з гэтым прымаюцца «рашучыя меры» дзеля выпраўлення становішча. Выпрацоўваюцца цэлыя праграмы, як прымусу, так і спакусы, каб наладзіць тую службу і тую дысцыпліну.

Дык у чым жа прычына такога становішча? Напачатку — пра патрыятычнае выхаванне. Толькі сляпы не бачыць, колькі высілкаў прыкладваюць розныя патрыятычныя і нацыянальныя арганізацыі, рухі і партыі для патрыятычнага выхавання не толькі моладзі, а і ўсяго грамадства, усёй нацыі. І яны маюць пэўны плён. Калі сёння вайскоўцаў аб'ядноўвае толькі адна патрыятычная арганізацыя — БЗВ, то праз год-другі ў войску з'явяцца былыя выбранцы, скаўты, сябры іншых нацыянальна-патрыятычных арганізацый моладзі. Гэта будуць людзі, гатовыя пакласці ўсе сілы і веды дзеля Беларусі. Гатовыя, але не ў тым войску, якое ёсць зараз. Бо ў ім патрыятычна настроеныя афіцэры і жаўнеры стаяць у адных шыхтах з настроенымі пабальшавіцку, прарасейску ці як інакш. Асабняком стаіць генералітэт са сваімі праблемамі і інтарэсамі.

Патрыятычныя афіцэры і жаўнеры ў падраздзяленнях арміі вымушаны да пары, да часу маўчаць і ствараць ідылію адзінства — рэакцыйнага антыбеларускага адзінства. Сам сабой просіцца адказ на пытанне, ці будзе юнак, прайшоўшы школу скаўцкіх харугваў, выбранецкіх шыхтоў, школу студэнцкіх суполак, рвацца ў такое войска? Не, не будзе. Бо для яго гэтае войска яшчэ чужое.

Сённяшняя прызыўная моладзь ужо некалькі гадоў жыла пад бел-чырвона-белымі сцягамі, пад Пагоняй, сталела ў атмасферы нацыянальнага Адраджэння, а яе зноў спрабуюць засунуць у антынацыянальнае асяроддзе. Цераз год-другі ў войска пойдзе масавы наплыў выпускнікоў беларускамоўных школ, а тут іх сустракаюць «Равняйсь», «Смирно», разбаўленыя мацяршчынай, а ўсе праяўленні нацыянальнай свядомасці нівеліруюцца пад адно слова «нацыяналізм».

Нацыянальна-патрыятычным асяродкам Беларускага Войска доўгі час з'яўлялася Беларускае згуртаванне вайскоўцаў. Міністэрства абароны прыклала грандыёзныя намаганні /гэтыя б высілкі ды на карысныя мэты, на барацьбу з карупцыяй/, каб расправіцца з БЗВ. Адных, як старшыню БЗВ Міколу Статкевіча, выгналі з войска, іншых прымусілі напісаць рапарты аб выхадзе з БЗВ. Але спадзяванні міністэрскіх чыноўнікаў не спраўдзіліся. Разгрому БЗВ у войску не адбылося, бо БЗВ у войску як было ў падполлі, так і засталося. Адкрыта дзейнічала толькі неабходная колькасць функцыянераў. У новай сітуацыі адбылася перагрупоўка сіл, і БЗВ працягвае сваю патрыятычную працу, пра недахоп якой лье кракадзілавы слёзы міністр абароны і якой баіцца, як агню.

Што датычыць вайскова-патрыятычнага выхавання дапрызыўнай моладзі, то тут усё зразумела. Час, калі можна было абысціся прымітыўным абалваньваннем, сышоў у нябыт, а працаваць на нацыянальным грунце педагогі вайсковага профілю не навучыліся і наўрад ці ў бліжэйшы час навучацца. Таму патрыётаў у войска мы атрымаем толькі з патрыятычных арганізацый нацыянальнага кірунку, якія пакуль што не надта шматлікія. І калі міністру абароны сапраўды баліць душа за патрыятычнае выхаванне, то ён павінен ставіць пытанне на Вярхоўным Савеце, на Савеце Міністраў ці яшчэ дзе, хоць перад панам Богам, але ставіць пытанне пра прыняцце Дзяржаўнай праграмы нацыянальна-патрыятычнага выхавання моладзі Рэспублікі Беларусь, але не такой праграмы, якая закладзена ў «Канцэпцыю выхаваўчай працы ва Узброеных Сілах Рэспублікі Беларусь» /гл. эпіграф N 2/. Поўнасцю пагадзіўшыся з тым, што трэба выхоўваць любоў да Радзімы, хоць лепш было б сказаць «да Беларусі», і прывіваць пачуцці патрыятызму, узяць на веру астатняе цяжка, бо ўсё напісана пра нейкі абстрактны народ і абстрактную краіну. Мы павінны выхоўваць вернасць Беларусі і беларускаму народу канкрэтна і паслядоўна без усялякіх намёкаў на нейкі інтэрнацыяналізм». Так, на Беларусі жывуць людзі розных нацыянальнасцей, але ўсе яны — грамадзяне Беларусі і, прызваныя ў войска, змушаны будуць бараніць перш за ўсё інтарэсы беларускай нацыі і Беларускай Дзяржавы.

Безумоўна, войска павінна захоўваць вернасць Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, але што рабіць да таго часу, пакуль Вярхоўны Савет не спадобіўся яе прыняць? Можна захоўваць вернасць Вярхоўнаму Савету, але ён праводзіць ці не антынацыянальную палітыку. Дык, скажыце, як самы адданы Вярхоўнаму Савету афіцэр даб'ецца гэтай вернасці ад патрыётаў-жаўнераў? Можна захоўваць вернасць ураду, але ўрад прыгрэў у сваім апараце людзей, накшталт Гайдукевіча, Прывалава, Паўлава, Сарокіна і многіх іншых. Гэтыя людзі кожным сваім словам, кожным выступленнем «страляюць» у спіну незалежнай Беларусі. Дык ці не ім павінна захоўваць вернасць Беларускае Войска? Яшчэ больш недарэчна выглядае пастулат аб тым, што вайскоўцам павінна прывівацца пачуццё вернасці Узброеным Сілам, гэта значыць, самім сабе, ці сваёй вайсковай карпарацыі. Дарэчы, яшчэ патрабуюцца беражлівыя адносіны да традыцый. Да якіх? Міністэрства абароны асудзіла акцыю 8 верасня, абазвала яе антыдзяржаўнаю і выйшла з прапановай прызначыць вайсковае свята на 23 лютага. Што ж, спадары беларускія патрыёты, забудземся на слаўную перамогу 8 верасня 1514 года, забудземся на Грунвальд, Сінюю Ваду, Нямігу і будзем святкаваць Дзень Чырвонай Арміі, арміі, якая душыла выступленні віцебскіх, гомельскіх, рагачоўскіх сялян, вынішчала патрыётаў — удзельнікаў Слуцкага збройнага чыну. Восенню хлопец святкуе збройны чын, а зімой у войску ўжо святкуе дзень яго душыцеляў. Нічога сабе выхаванне, звычайны здзек над нацыянальнымі пачуццямі.

Дык, прабачце, якую вернасць такім традыцыям патрабуюць ад вайскоўцаў сёння? Вернасць традыцыям тых, хто рэзаў нашую Радзіму ў 18-м, у 20-м, тых, хто адарваў ад нас Смаленшчыну, Браншчыну, Беласточчыну, тых, хто адарваў ад Беларусі і перадаў жамойтам нашу спрадвечную сталіцу Вільню? У гэты дзень няблага было б аб'явіць не свята, а жалобу.

Варта пагадзіцца з прапановай міністэрства, выкладзенай у Дысцыплінарным статуце, каб вайсковая дысцыпліна грунтавалася «на ўсведамленні кожным вайскоўцам вайсковага абавязку і сваёй ролі ў забеспячэнні бяспекі Рэспублікі Беларусь», але патрэбна было б дадаць, каб вайсковая дысцыпліна грунтавалася на разуменні кожным вайскоўцам сваёй адказнасці за незалежнасць Беларусі, сваёй павіннасці бараніць гэтую незалежнасць ад любога ворага. Калі жаўнер адчуе сябе адказным за лёс незалежнасці, за лёс Беларусі, зразумее, хто яму вораг і дзе супраціўнік, шматлікія праблемы дысцыпліны вырашацца самі сабой.

Такім чынам, з усяго сказанага можна зрабіць выснову.

Беларускае Войска па сёння яшчэ невыказна далёка ад таго стану, каб стаць нацыянальным. Пакуль што гэта, так бы мовіць, групоўка імперскіх легіёнаў у калоніі, якія воляй лёсу аказаліся падпарадкаванымі мясцовым уладам, і якія адным вухам слухаюць новага гаспадара, а другім ловяць кожнае слова старога. Таму ўсе спробы навесці дысцыпліну, паставіць выхаванне на нацыянальны грунт будуць марныя, таму і не хоча моладзь ісці ў такое войска, таму і жаліцца міністр абароны на нізкі працэнт прызыўнікоў, і будзе жаліцца далей датуль, пакуль не перастане змагацца з беларусізацыяй войска і пакуль не пачне сам яе праводзіць.

**Усяслаў ВОЙНІЧ**

# «ЁСЦЬ ТАКАЯ ПАРТЫЯ»

І прычым ёсць ужо даўно. Але ж мы ёй рэкламу рабіць не будзем, — бо гэта і ёсць яе асноўная мэта. Дарэчы, не адны мы яе не рэкламуем наўмысна. Разумеюць нас і на Захадзе: па справядлівасці гэтую партыю ўжо даўно трэба было б унесці ў кнігу рэкордаў Гінеса, бо не было яшчэ такой падзеі ў нашай краіне ці ў памежных, на якую б гэтая партыя не адрэагавала заявай. За сваёй унутранай амбітнасцю часта забываюцца, што празмерны клопат і завіханне там, куды цябе ніхто не клікаў, можа скончыцца не падзякай, а высняткам пад мяккае месца /якое што ў славян, што ў мусульман.../

Каб зразумець, што гэта за партыя, трэба падкрэсліць, што кіруюць ёй і зараз вайскоўцы /афіцэры-выкладчыкі адной з нашых вайсковых вучэльняў/. Людзі энергічныя, цалкам сабой задаволеныя. І ва ўрадзе іх любяць. Раней іх менней там любілі, бо яны казалі дрэнна пра камуністаў. Але з цягам часу высветлілася, што з чырвонымі яны маюць адзіны клопат. Вы яшчэ не здагадаліся, што гэта за партыя?



*3 ліпеня 1993 г. Шэсце СС «Белая Русь» падчас святкавання Дня вызвалення Беларусі.*

*Фота А. СТАНКЕВІЧА*

Тады раскажам пра тое, што дзяржаўнасць беларускае мовы іх не задавальняе /мусіць, наўмысна прыніжаюць свае разумовыя здольнасці, — кажуць, што вага шэрага рэчыва іхніх галоў адпавядае /і гэта богам наканавана/ колькасці слоў рускай мовы/. За народ яны нас не лічаць, а таму і саманазоў наш перарабілі на больш адпавядаючы народнасці /складовай частцы/ — Белая Русь. І ўвогуле ў іхніх заявах можна вычытаць, што бываюць: «ВЕЛІКАРУСЫ, беларусы і ўкраінцы». Дэмакратычныя сталі, іх бацькі замест «украінцаў» казалі «маларосы», а замест «беларусы» — «жители северо-западного края». Калі камар сядае на чалавека, той ведае, што камара трэ, прынамсі, прагнаць, бо не ўгаворыш крыві не піць...

Вы ўжо, пэўна, здагадаліся, пра якую партыю размова. Калі не, дык апошняя вам падказка. Сябры гэтае партыі хваляцца звычайна, што добра ведаюць гісторыю. Ходзяць з нейкімі трыкалёрамі змрочнымі і сцвярджаюць, што гэта ёсць сцяг «истинно русский», і што не толькі ў Маскве такі павінен лунаць, але і ў нас. Не будзем спрачацца з «истинно русской» логікай. Аднак ці не пра тых «обрусевших инородцев» пісаў Ленін, некалі такі любімы адным з сустаршыняў партыі /на марксізме-ленінізме кар'еру зрабіў/? Што тычыць самой гісторыі, дык знаўцам гісторыі дому Раманавых раю падняць крыніцы і паглядзець, якім чынам, якой крывёю Раманавы прыйшлі да ўлады. Якой крывёю яны адышлі ад улады, — вы ведаеце, задумайцеся: гэта гістарычная адказнасць за гвалт, кроў, смерць. І яе нясуць не толькі асобы, але й народы! СВОЙ КРЫЖ! Бывае толькі, што каму яго лёгка несці, а каму — цяжка. І тут пачынаюць шукаць «братоў» /лепш малодшых/, каб перакласці на чые плечы свой цяжар. Займіцеся нарэшце сваімі нармальнымі рускімі праблемамі. Дарадцаў, у якіх дома вэрхал, — мала хто слухае, ці слухаюць дурні.

Пэўна, вы даўно ўжо зразумелі, пра якую партыю размова. Тады ці не апошняе. Так бы мовіць, «новость от СС «Белая Русь». Рэзка падвысілася працаздольнасць і вынаходлівасць ідэолага гэтае партыі ў сувязі з абраннем «сего господина» намеснікам старшыні афіцэрскага сходу ўсё той жа вайсковай вучэльні. Таемным галасаваннем. Усё па правілах. Але гэта і ёсць тое Беларускае Войска, дзе служаць людзі, адданыя Беларусі?! Заўжды вайсковыя вучэльні называлі «кузнямі кадраў». І што, — спадар Казлоўскі гарантуе тое, што па выхадзе з гэтай «кузні» выпускнікі будуць патрыётамі Беларусі? Уражанне такое, быццам пераўтварэнне ЧБВА ў МА РБ ёсць выключна раздача новых генеральскіх пагонаў. Армія ўтрымліваецца з падаткаў, якія мы плацім, дык мо ўжо хопіць карміць гэтых дармаедаў?! Атэстацыя, спадар Казлоўскі, гэта адзінае магчымае ўратаванне! Атэстацыя, дзе ПЕРШЫ ПУНКТ — АДДАНАСЦЬ БЕЛАРУСІ!

**С. М.**

# ЗАКАНСЕРВАВАНЫЯ

## НЕВЯСЁЛЫ РОЗДУМ ПРА ЎЛАСНУЮ БЯСПЕКУ

Сёння на Беларусі ўсе займаюцца тэрміналогіяй. Справа гэтая зараз патрэбная і неабходная, бо ёсць уназовах шмат блытаніны і недарэчнасцей. Вырашыў заняцца такою справаю і я. Ну а паколькі я не філолаг, то запынюся толькі на адным выразе: грамадзянская абарона.

Не падабаецца мне слова грамадзянская. Хоць нажом рэж — не падабаецца. Гэта засталося ўва мне, пэўна, ад светлых часоў «развітога сацыялізму», калі за тым, каго называлі грамадзянінам, ляпалі жалезныя турэмныя дзверы і скрозь краты яму скупа свяціла сонца. Не падабаецца, бо слова грамадзянін было любімым словам суддзі, пракурора, следчага ды міліцыянера.

Якое слова варта было б ужыць?

Вайскоўцы, вядома, бароняць сябе самі, дзеля гэтага яны маюць зброю ды тэхніку. Усе астатнія — цывільныя людзі — павінны мець абарону. Дык, можа, правільна будзе — цывільная абарона?

Ды найперш трэба разабрацца, чым займаецца гэтая самая грамадзянская абарона. Я маю да яе пэўнае дачыненне і таму маю права выказаць сякія-такія меркаванні.

Усе мы памятаем нашы фільмы мінулых часоў, у якіх у эпізодах, звязаных з грамадзянскаю абаронаю, паказвалі муры, закапаныя пад зямлю, ды вайскоўцаў з вялізнымі зоркамі на пагонах. Пэўна, такія моманты здымаліся ці не ў самой сталіцы магутнай дзяржавы — Маскве. Але такія аб'екты грамадзянскай абароны, толькі меншых памераў, існавалі і сёння існуюць і ў Беларусі. Адны з іх дзейнічаюць, іншыя — законсерваваны, людзей з зоркавымі пагонамі тут няшмат. Большасць з тых, што прайшлі школу савецкага вайсковага цвёрдадумства — афіцэры запасу. Яны больш думаюць пра спакой, лецішча ды ўтульны фатэль ля тэлевізара, чым пра службу. Якія з іх аператыўныя дзяжурныя, наколькі эфектыўныя іх дзеянні ў час незвычайных сітуацый — цяжка сказаць.

А яшчэ ў гэтых жалезабетонных падземных сховішчах з тых недалёкіх савецка-партыйных часоў засталіся пакоі з надпісамі «першы сакратар абласнога камітэта КПБ», «агульны аддзел АК КПБ», «абкам КПБ», «аргаддзел партыйнай работы» і г. д. Стаяць там сталы, крэслы, тэлефоны і іншая маёмасць. Стаяць і чакаюць сваіх гаспадароў.

Закансерваваныя аб'екты, а разам з імі і спадзяванні, што мінулае — вернецца.

Сумна мне ад гэтых думак і трывожна на сэрцы. І не таму, што тут, як усюды ў нас, старасвецкае абсталяванне, што шмат бюракратызму /дзе яго ў нас бракуе!/. Сумна ад таго, што гэтыя не збіраюцца абараняць нас. Прыгадваецца адзін выпадак. Аднойчы адказаў я аператыўнаму дзяжурнаму па сувязі па-беларуску: «Слухаю вас, шаноўны!» Тут жа пачуў: «Ты, х...вый спадарь! Я тебя видал...» Дзе мяне бачыў мой абаронца, вы, пэўна, здагадаліся. Але, але, «в гробу»...

Калі ж папраўдзе, дык простаму чалавеку ўсё роўна, ці грамадзянская абарона, ці цывільная. Абодва словы нам зразумелыя, і ні адно з іх не ідзе насуперак беларускасці. Насуперак гэтаму ідуць людзі.

**І. ПАЛУБЯТКА**

# «І НІЯКІХ НАМ ПАЛАЦАЎ НЕ ТРЭБА...»

## ДА СТАГОДДЗЯ З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ УЛАДЗІМІРА УЛАДАМІРСКАГА

Ужо пачалося выгнанне акупантаў з гаротнай беларускай зямлі, а я яшчэ гібеў у вайсковым шпіталі ў далёкім Свярдлоўску. Аднак выкараскаўся, застаўшыся, праўда, інвалідам на ўсё жыццё. Вайна хутка падступілася да Берліна; я ж з незагоенымі ранамі калываўся ў цяплушцы, пашчапанай аскепкамі бомбаў: кіраваўся да роднай хаты. Праз зруйнаваную Расію марудна цягнуўся мой шлях, і калі, нарэшце, выйшаў у Мінску на прывакзальную плошчу ды зірнуў на руіны й папялішчы, дык не надта ўразіўся — нагледзеўся на рэзрух, прызвычаіўся...

Аголена — бы маяк, глядзеў з засені старых дрэў скверыка тэатр імя Янкі Купалы. Менавіта да гэтага маяка беларускай культуры цягнуліся пасля ваеннага ліхалецця жывыя: тэатр быў для іх святой Мекай, дзе адраджалі яны сваю духоўнасць. Я праз гэтую Меку абраў свой жыццёвы шлях, звязаўшы лёс з мастацтвам.

Да майго рызыкоўнага кроку меў непасрэднае дачыненне вялікі беларускі акцёр Уладзімір Іосіфавіч Уладамірскі. Маё знаёмства з тэатрам Уладамірскага /гэта не перабольшанне: ён напраўду быў чалавекам-тэатрам!/ пачалося, калі ў выдатнага майстра беларускай сцэны сабраўся вялікі творчы багаж. /Ягоная сцэнічная адысея пачалася ў далёкім юнацтве яшчэ напярэдадні першай сусветнай вайны, у 1913 годзе/. Ён сыграў аж 67 роляў!

Тэатр імя Янкі Купалы ўвайшоў у маё жыццё нетрадыцыйнай «Паўлінкай», а спектаклем «Ваўкі і авечкі». Бачыў я гэты спектакль у розных тэатрах, ад сціплых правінцыйных да маскоўскага Малога, славутага «дома Астроўскага». Калі ж на сцэне беларускага тэатра з'явіўся дзівосны Апалон Мурзавецкі ў выкананні Уладзіміра Уладамірскага, я мусіў яшчэ раз упэўніцца, што магчымасці сапраўднага, Богам дадзенага таленту невычэрпныя і непаўторныя. Увасабленне дваранскага падонка беларускім акцёрам, выхадцам з бедных сялян, сталася цудам пераўвасаблення! Пераважаў не знешні малюнак ролі, а глыбокае пранікненне ў псіхалагічную, сацыяльную і гістарычную логіку цэлага пласта грамадства з трагічным лёсам. Камічнае і трагічнае пераплялося ў трактоўцы Мурзавецкага. Утварыўся ідэальны зліў акцёрскага майстэрства і грамадскай пазіцыі выканаўцы.

Персанажы розных часоў і розных народаў, якія ўвасобіў на беларускай сцэне Уладамірскі, па сутнасці, складаюць галерэю тыпаў усяго нашага грамадства, нават чалавецтва, бо тут і Леапольд Гушка /спектакль «Бацькаўшчына» паводле Кузьмы Чорнага/, і Каўель з мальераўскага «Мешчаніна ў шляхецтве», Дыбаў з «Міжбур'я», Цыганок з «Гуты» Кобеца, Вурм з «Каварства і кахання» Шылера, Каламійцаў з «Апошніх», кітаец Сін-Бін-У /«Бронецягнік 14-69»/... Пералічваць можна бясконца. Увасобленае вялікім беларускім акцёрам — складнік грандыёзнай энцыклапедыі сусветнага тэатра...

Калі ў 1956 годзе я пачаў здымкі фільма «Палеская легенда», вельмі хацеў, каб Уладзімір Іосіфавіч узяў удзел у гэтай стужцы — як выявілася потым, не надта ўдалай ды пакутнай. Прынёс я Уладзіміру Іосіфавічу проста на кватэру сцэнарый, кажу:

— Пазнаёмцеся, калі ласка, з гэтай пісанінай, і калі будзе ваша згода, дык выбірайце сабе любую ролю...

Уладзімір Іосіфавіч ускінуў на мяне свае насмешлівыя і добразычлівыя вочы:

— Пачакай, пачакай, хлопча! Дык ты што — прапануеш мне самому выбіраць? Дзіўна! Ці ў вас у кіно такія паблажлівыя рэжысёры?

— Ёсць усялякія. Я проста спадзяюся на ваш вопыт больш як на свой уласны...

— Ну добра! З табою ўсё ясна-панятна. Толькі вось аблюбую я сабе ролю, а тваё кіношнае начальства — ведаю я гэтага вашага Міколу Садковіча! — не дазволіць, га? Можа такое здарыцца?

— Можа, — прызнаўся я. — Але за вас я буду зубамі...

Уладзімір Іосіфавіч перапыніў мяне:

— Пашкадуй, хлопча, свае зубы! Яны табе яшчэ спатрэбяцца. У нашага брата зубы павінны быць воўчыя... Во, глянь якія ў мяне! — Уладзімір Іосіфавіч паказаў...

Так, Уладамірскі акцёр быў, фігуральна кажучы, зубаты. Мне думалася, што ён абярэ сабе эфектную ролю пана — на ім і на прыгонным лесніку Рамане /яго ролю іграў вядомы кінаакцёр Пераверзеў/ трымаўся сюжэт «Палескай легенды». Шчыра кажучы, я быў здзіўлены: Уладамірскі выбраў сабе сціплую ролю панскага цівуна Багдана. Гэта пры тым, што роля пана пераходзіла да Рахленкі — акцёра «маладзейшага»...

Была, была ў тэатры неафіцыйныя, добраахвотная «іерархія» сярод цудоўных карыфеяў-купалаўцаў. О, якія яны былі розныя ды непаўторныя гэтыя волаты беларускай сцэны: Ржэцкая і Пола, Глебаў і Платонаў, Дзядзюшка і Стома, Кін-Камінскі-старэйшы і Бараноўскі...

Назіраць за працай Уладамірскага на здымачнай пляцоўцы было цікава і павучальна. Звычайна добразычлівы, усмешлівы, аматар жартаў, розыгрышаў, апавядальнік вясёлых і неверагодных гісторый, у дзень здымкаў з самай раніцы ён быў пахмуры ды надзьмуты; вясёлыя і добрыя вочы яго рабіліся насцярожанымі. Нават калі здымкі эпізодаў з яго ўдзелам планаваліся на позні час, Уладамірскі, апрануты ў свой цівунскі кафтан, загрыміраваны, браў у рукі бізун і заходзіў у павільён. Прымасціўшыся так, каб нікому не замінаць, ён пільна назіраў за здымкамі, нават варушыў вуснамі, паўтараючы рэплікі сваіх партнёраў. Па сутнасці, ён праігрываў усе ролі, нават жаночыя.

Здаралася, ён клікаў мяне і шаптаў на вуха свае вельмі трапныя заўвагі. І кожны раз папярэджваў: «Ты ж толькі на мяне не спасылайся!» А часам хацелася зрабіць заўвагу і Рахленку, і Глебаву, і Бараноўскаму /яны ўсе былі заняты ў фільме/ — менавіта ад імя Уладамірскага!

На прэм'еры «Палескай легенды» Уладзімір Іосіфавіч падарыў мне манаграфію пра сваю творчасць з чуллівым, але не без дасціпнай іроніі надпісам: акцёр нібы скідаў з сябе скуру свайго вельмі дасканалага, з тонкім псіхалагічным малюнкам цівуна Багдана, развітваўся з ім, каб быць свабодным для новай ролі...

Неяк у спякотны жнівеньскі дзянёк выйшаў я з Дома друку і каля Акадэміі навук убачыў наперадзе знаёмую постаць: Уладзімір Іосіфавіч ішоў з асаблівым шыкам, артыстызмам — прыгожая хада была ў старога! Ускінуўшы сівую, пародыстую галаву, на якой хвацка сядзеў светлы капялюш, Уладзімір Іосіфавіч ставіў свае ногі ў бліскучых чаравіках цвёрда, па-вайсковаму, як на парадзе — ён захаваў вайсковыя звычкі. /Службу ж пачаў яшчэ ў царскай арміі!/ Я ішоў услед. Пры такой выразнай хадзе ён яшчэ і прыгожа, зноў жа неяк па-афіцэрску, ускідваў кій — сапраўдны твор ужытковага мастацтва /уласнае работы!/ — падобны на царскі ці патрыяршы посах. Уладзімір Іосіфавіч не шпацыраваў, а выконваў ролю першапраходца.

— Уладзімір Іосіфавіч! — паклікаў я. — Куды кіруецеся?

Ён прыпыніўся, зірнуў праз плячо:

— А, Пятро, сын Савельеў! Вельмі рады бачыць цябе жывым і здаровым. Вось свой пенсіённы мацыён прымаю! — ён ускінуў кій-посах на плячо, як стрэльбу. — Вітаю ў тваёй асобе беларускае кіно!

— Ці не занадта?

— Трымай хвост трубой, Пятро сын Савельеў!

— Толькі што трубой...

— Адкуль і куды?

— Быў у выдавецтве...

— А чаго ты ў тым выдавецтве дамагаешся?

— Кніжку трэці год марынуюць.

Уладзімір Іосіфавіч падняў кій-посах:

— Кніжка, братка, гэта цуд! Таму і цяжка нараджаецца...

— Ды ніякага цуду, Уладзімір Іосіфавіч. Не трапіў у абойму, вось і ўвесь цуд...

Уладзімір Іосіфавіч пільна на мяне паглядзеў:

— Казаў жа я табе: беражы зубы!

— Зубамі тут нічога не зробіш. Надзея толькі на цуд...

Уладзімір Іосіфавіч хітравата жмурыўся і, як мне здалося, — спачувальна прапанаваў:

— Слухай, сын Савельеў! А ці не наведаць нам з табою адзін цуд? Не! Два цуды!

— Два?

— Акурат! — Уладзімір Іосіфавіч паглядзеў у бок акадэмічнага саду. — Бо адзін цуд — дзядзька Якуб. Згодзен, што ён цуд? — А другі... Можа, і маленькі, але... Разумееш, палац панскі яму будуюць... Пойдзем паглядзім. Тут недалёка...

Мы павярнулі на Акадэмічную і пайшлі ў бок прытулку вялікага песняра. Колас быў у садзе, сядзеў на лаўцы пад бярозай і ўзіраўся ў траву пад нагамі. Мы падышлі. Колас глянуў на нас, кіўнуў галавою, растлумачыў:

— Вось за мурашамі назіраю... Ці-і-ікавы народзец! Працавіты. . Мо яны разумней за нас?

— Не, Канстанцін Міхайлавіч, разумней за нас нікога на свеце няма... Мо толькі дэльфіны. — Уладзімір Іосіфавіч засмяяўся. — Дык калі б і мы жылі ў моры...

— Не разводзь фантастыку, Валодзька, — спахмурнеўшы, сказаў Колас. — Ты ж вялікі рэаліст...

Упершыню я ўбачыў крыху збянтэжанага Уладзіміра Іосіфавіча. Ён нават вочы адвёў, і голас ягоны змяніўся.

— Рэаліст, кажаце... Ну, няхай сабе! А вось наконт вялікага не згодзен. Вялікі — гэта вы, дзядзька Якуб.

Прыйшла чарга бянтэжыцца дзядзьку Якубу. Нічога ён не сказаў і толькі цяпер звярнуў увагу на мяне. Дужа пранізлівы быў погляд у дзядзькі Якуба, і голас крыху з'едлівы:

— Прывітанне таварышу кінамеханіку.

Колас яшчэ пры першай нашай сустрэчы — было гэта ў Каралішчавічах — чамусьці рашыў, што я не здымаю фільмы, а «кручу» — значыць, кінамеханік. Было тады няёмка тлумачыць дзядзьку Якубу, да таго ж, думаецца мне, што ён знарок змяніў мне прафесію — кіношнікаў не вельмі паважаў. Колас перавёў позірк на Уладамірскага:

— Чуў я, Валодзька, што і ты ў кіно падаўся? Ці, можа, гэта плёткі тваіх нядобразычліўцаў?

— А бадай што так! — па-змоўніцку падміргнуў мне Уладзімір Іосіфавіч. Адвёў вочы на падмурак будучага «панскага палаца». — Гэта ж будзе твая Ясная паляна, Якубе!

Твар Коласа азмрочыўся:

— Хутчэй няясная паляна, братка. Людзі яшчэ з зямлянак не вылезлі, а тут, бачыш...

— Табе паложана! — катэгарычна запярэчыў Уладамірскі. — Ты — народны пясняр, вось народ...

— Каб жа народ! — Колас уцягнуў галаву ў плечы. — А гэта ж начальства зацеяла...

— Паложана! — гнуў сваё Уладамірскі. — Вось жа для нас, напрыклад, начальства палацаў не будуе...

— Ды ёсць у вас, хлопцы, свае палацы! — усклікнуў Колас. — У цябе — тэатр... У яго — кіно...

— А ў цябе, Якубе, літаратура...

— А ў мяне, разумееш, літаратура... І ніякіх нам палацаў не трэба... — Колас падняў задуменныя вочы, ціха сказаў: — Галоўнае, жыць нам, браточкі, трэба як мага даўжэй...

Так і сядзелі яны на лаўцы поруч — вялікі пясняр і вялікі акцёр. Кожны думаў пра сваё...

**Пятро ВАСІЛЕЎСКІ,**
**кінарэжысёр**

### Выставы

ЯГО ВЫСТАВА ЎРАЖВАЕ. Маленькі зальчык Дома прыроды ў Траецкім прадмесці пачынае гучаць. Адсутнасць жа гледачоў, што заўжды была паказчыкам «прызнання мастака народам», абсалютна не бянтэжыць і не раздражняе. Такое мастацтва і трэба ўспрымаць у адзіноце, сам-насам з колерам, музыкай і цішынёй. Альбо — зусім не зазіраць на такія выставы, цалкам не заўважаць такое мастацтва.

Угледзьцеся. Вакол няма работ, дзе колер служыць раскрыццю ўтылітарнай ці эстэтычнай сутнасці рэчы. Колер тут не абмежаваны прасторай, ад якой вызвалілі сябе яшчэ экспрэсіяністы на чале з В. Кандзінскім. Колер існуе як самадастатковая катэгорыя, якая цалкам падпарадкоўвае змест работы. Колер становіцца часткай візуальнага свету, сродкам і формай выяўлення, стварэння вобраза. Усё гэта — мастацтва Сяргея Лапшы.

Прыходзячы на чарговую ўжо выставу так званага авангарда, кожны падсвядома вырашае для сябе пытанне, што перад ім — мастацтва, творчасць, уключаная ў пластыку, ці — фарбы, музыка, думка, пачуцці, або — тая бездань, якую можна акрэсліць формулай: калі нехта назваў гэта мастацтвам, дык гэта і ёсць мастацтва. Крытэрыі? Іх, відаць, няма, яны проста яшчэ не выпрацаваны. Можна спадзявацца на інтуіцыю, густ, залежны таксама ад выхавання, але складана акрэсліць пэўна і дакладна, хто і як можа судзіць.

НЯДАЎНА ВЫЙШАЎ з друку энцыклапедычны даведнік «Архітэктура Беларусі», наступны з шэрагу спецыяльных выданняў, прысвечаных розным галінам навукі. Заслугоўвае ўвагі тэхнічны бок: бездакорнасць паліграфіі. Адразу кідаецца ў вочы вокладка з Мураванкаўскай царквой і гістарычным цэнтрам Гродна, Віцебская Святадухаўская царква і дом на Савецкай вуліцы ў Гомелі. Вялікую частку кнігі займаюць каляровыя, чорна-белыя фотаздымкі, чарцяжы, рэканструкцыі помнікаў, акварэлі.

Прыемна, што наклад выдання 10000 экземпляраў — для рэспублікі гэтая лічба немалая. Нарэшце, набыць кнігу будзе ў стане не толькі вузкае кола спецыялістаў — архітэктараў, гісторыкаў, мастацтвазнаўцаў, але і тыя, хто цікавіцца сваёй спадчынай. Выдатна прадумана структура даведніка, якая складаецца з шэрагу раздзелаў: агляд гісторыі архітэктурнага развіцця Беларусі, асобныя архітэктурныя помнікі /культавага, палацавага, прамысловага і іншага прызначэння/, горада і вёскі, а таксама горадабудаўнічыя ансамблі. Значнае месца па сваім змесце і сутнасці займае слоўнік тэрмінаў, які багата ілюстраваны, а таксама бібліяграфічны раздзел.

У даведніку каля 1200 артыкулаў. Некаторыя з іх з'явіліся ўпершыню, шэраг дапрацаваны і дапоўнены. Але, на жаль, у пэўнай частцы артыкулаў былі зроблены звычайныя «касметычныя папраўкі».

Уважлівае азнаямленне са зместам артыкулаў даведніка дазваляе зрабіць шэраг заўваг, што тычацца пэўных недакладных трактовак фактаў, выкарыстанне некаторых неправераных дат пабудоў і г.д. Для прыкладу возьмем гісторыю помнікаў Гродзеншчыны.

**Гродзенскага рэальнага вучылішча будынак** /с. 164/

У артыкуле прыведзена дата пабудовы, не ўзгодненая з новымі дадзенымі даследаванняў — 1907 год. На самай справе пытанне аб адкрыцці будынка вучылішча падымалася яшчэ ў 1899—1990 гг. Як сведчаць крыніцы, у 1909—1910 гг. будаўніцтва не вялося. У 1911 г. з прычыны значнай занятасці акруговага архітэктара /маецца на ўвазе архітэктар Віленскай вучэбнай акругі/ Валансевіча, які жыў у Вільні, будаўнічы камітэт пастанавіў даручыць узвядзенне будынка для гродзенскага рэальнага вучылішча мясцоваму грамадзянскаму інжынеру Жаваранкаву. Распачаліся будаўнічыя работы вясной 1912 г. /аўтарам праекта і складальнікам каштарысу быў Валансевіч/. У 1914 г. будынак быў пабудаваны.

На працягу ж усяго часу будаўніцтва само рэальнае вучылішча месцілася ў доме Каменскай на Акцызнай плошчы і ў доме Сямашкі на вуліцы Сапёрнай. «Памятная книжка Гродненской губернии» на 1914 г. адзначае, што вучылішча знаходзіцца ўжо на Якаў праспекце ў будынку, узведзеным спецыяльна для яго.

# СВЕТ СЯРГЕЯ ЛАПШЫ

Вось Сяргей Лапша. Выдатны дызайнер, плакатыст на гэтай выставе выступае ў новай якасці. Адмоўлена форма, застаўся толькі формаўтваральны элемент — колер. Вялізныя колеравыя варыянты квадратаў у чорных рамках — «Альма-матэр». Белае палатно з блакітнай паласою і змейкай побач — «Між небам і зямлёй». Вольнае сумяшчэнне трох рознакаляровых канструкцый у прасторы, абмежаванай рамкай — «Адліга». Мастак нібы выпрабоўвае колер — як загучыць ён сам па сабе, як зменіцца, калі накласці яго на іншы. Суб’ектыўная вобразнасць канцэптуальнага, накладзеная на колеравую лепку, стварае нешта, на першы погляд, незразумелае, але надзвычай прывабнае.

«Мы прапаноўваем вызваліць жывапіс ад рабства перад гатовымі формамі рэчаіснасці і зрабіць яе мастацтвам творчым,а не рэпрадукцыйным. Эстэтычная каштоўнасць бязрэчавай карціны ў паўнаце яе жывапіснага зместу», — абвяшчалі мастакі-рэвалюцыянеры пачатку нашага стагоддзя. «Ажыўшая фарба» Сяргея Лапшы напрыканцы нашага стагоддзя квітнее на вачах гледачоў усплескамі гарачых адценняў колераў — чырвоных, карычняватых, жоўтых, якія выбухнулі, вырваліся з халоднага спакою сіняга, чорнага, белага колеравага спектру. Згадайце тэорыю не-колераў, прарваны абажур колеравых абмежаванняў, белае... «Белая вольная бездань і бясконцасць перад вамі». Культ колеру стварае і С. Лапша. Мастак карыстаецца «чыстым» колерам спектру. Ён прымушае яго існаваць самастойна, без малюнка, формы або залежнасці ад іншага колеру /насуперак традыцыйнаму ўяўленню пра жывапіс/. І калі ў фізічным спектры сем колераў, то ў мастака іх — мноства.

Ягоныя работы рэдка калі традыцыйна трохмерныя. Твор існуе ў плоскасці, абмежаванай простымі лініямі рамы, альбо контурамі, накрэсленымі на палатне. Але колеры, што маюць сваю асаблівую прастору, ствараюць зрокавую глыбіню, аб’ёмнасць, выплёскваюцца за межы рамы падобна некіруемым згусткам матэрыі. Яны густыя і лакальныя, вызваленыя ад рэальна існуючых у свеце спалучэнняў, аддзеленыя ад колеравай «руды». Тут пануе гармонія фарбаў.

Аднак пытанне застаецца: што перад намі? Новае мастацтва, самабытнае ўвасабленне дызайну, гульня ў геніяльнасць, падробка пад Захад, альбо — пошук новых форм, мода і неабходнасць часу? Відаць, усё адразу. Бясконцая шматмернасць свету, створаная самім мастаком, прымушае яго падняцца над карцінай, выйсці з яе, стаць побач і проста назіраць, як яна жыве і ўвасабляе сваю існасць.

«Жывапіс — гэта адносіны ладу да бязладдзя, велічнага да жудаснага, стварэння да разбурэння», — сцвярджае Сяргей Лапша. Сказана добра.

**Наталля ШАРАНГОВІЧ**

*Фота У. ПАНАДЫ*



*Экспазіцыя выставы.*



*З серыі «Рэгата».*



*«Ажыўшая фарба».*

# ДА ЭНЦЫКЛАПЕДЫІ ДАЛЕКАВАТА...

***Быў час, калі даследаванні і выданні цаніліся за смеласць самой ідэі, не зважаючы на недакладнасці і памылкі. Бездакорнасць паліграфіі, якасць паперы, мастацкага афармлення, колькасць здымкаў часам пераважалі ў ацэнцы кнігі, а змест існаваў як нешта само сабой зразумелае. Але ці дастаткова для нашага цяперашняга ўсведамлення толькі «намаляваць» над старажытнай вежай сцяжок, не даўшы гэтаму належнага тлумачэння? Безумоўна, энцыклапедыя распачала выдатную справу, заняўшыся выданнем кніг, што не проста пацвярджаюць, але і даносяць да грамадзян, выхаваных на гісторыі СССР і БССР, усю шматграннасць і самабытнасць нашай культуры. Не заляжаліся на паліцах «Статут Вялікага княства Літоўскага» і «Біблія» Скарыны, адразу пасля з’яўлення сталі бібліяграфічнай рэдкасцю «Этнаграфія Беларусі» і Скарынінская энцыклапедыя. Працягваючы асветніцкую справу, БелСЭ прапанавала чытачам наступную кнігу, цалкам прысвечаную архітэктуры Беларусі. Выпуск спецыяльнага выдання быў падрыхтаваны з нагоды, як гаворыцца ў прадмове, «мець грунтоўны даведнік, у якім была б сабрана інфармацыя пра найбольш вядомыя помнікі беларускага дойлідства», не толькі тыя, што існуюць, але і не дайшлі «з-за ваенных ліхалеццяў, не ацалелі з-за чыноўніцкага раўнадушша, непавагі і абыякавасці да культурнай спадчыны». Такая патрыятычная мэта вартая павагі. Даведнік выйшаў, нягледзячы на шматлікія паліграфічныя складанасці, даведнік раскупляецца. Але, на жаль, ацэнка яго не зусім адэкватная чарговаму эйфарычнаму задавальненню ад яго з’яўлення. Бо ад такога выдання сёння чакаюць не столькі знешняй прывабнасці, а найперш дакладнасці і грунтоўнасці.***

***Пра гэта два чытацкія лісты.***

**Гродзенская аўгустоўская сядзіба** /с. 166/

Маёнтак аўгустовак належаў генералу інфантэрыі Маўрыкію дэ Лясы з 1797 г. З 1819 г. уладальнікам маёнтка стаў пляменнік старога генерала англійскі паручык Патрык О’Брыен. У сваім тастаменце Маўрыкій дэ Лясы прасіў абавязкова даглядаць нядаўна пабудаваную капліцу. Ён памёр у пачатку 1820 г. Гэта пацвярджаюць інвентары Францішканскага касцёла і кляштара. Капліца была пабудавана ў 1818 г., а не ў 1802 г. Памылковае сцвярджэнне аб 1802 г. як часе пабудовы капліцы выказвалі Гіршаль /на пачатку XX ст./, а за ім і Квітніцкая.

**Гродзенская зала соймаў** /с. 168/

Згодна трактоўцы аўтара, у двары Гродзенскага каралеўскага палаца месціўся жылы дом Сапегаў, у 1726 г. гэты дом быў перабудаваны ў Залу сеймаў. На самай справе, калі ў 1673 г. Гродна быў вызначаны месцам правядзення сеймавых пасяджэнняў, спатрэбілася памяшканне. Стары Замак, моцна пашкоджаны частымі ваеннымі дзеяннямі /маскоўская і шведская акупацыя ў сярэдзіне XVII ст./, не быў у стане адыгрываць такую ролю. Таму пэўны час пасяджэнні адбываліся ў спецыяльным будынку, які быў узведзены на пачатку XVIII ст. на пляцы Сапегаў, на вуліцы Язерскай /цяпер К. Маркса/ непадалёк ад Кірмашу /цяпер плошча Савецкая/. Будынак знаходзіўся побач з так званай «Баторыўкай», а не на тэрыторыі Каралеўскага палаца, які, дарэчы, у 20-я гады XVIII ст. яшчэ не быў узведзены.

**Гродзенская сінагога** /с. 170/

Сапраўды, гродзенская сінагога, што знаходзіцца ў гістарычным цэнтры горада, была адбудавана пасля пажару 1899 г., але не на месцы драўлянай сінагогі XVIII ст. Упершыню пра гродзенскую сінагогу згадваецца ў 1560 г. У «Писцовай книге Гродненской экономии». У 70-я гады XVI ст., дзякуючы Мардухаю Яфэ /Левушу/, пачынаецца будаўніцтва мураванай сінагогі. Факт пабудовы новай сінагогі канстатуецца прывілеем караля Жыгімонта III /у Вялікім княстве Літоўскім Жыгімонта IV/ 1619 г. /пацвярджэннем дазволу/. У 1900—1902 гг. гэтая сінагога была адрамантавана і яе фасад набыў рысы мадэрна.

**Гродзенскі жылы дом** /с. 173/

Дата пабудовы, прыведзеная ў артыкуле, — 1914 г. — нічым не абгрунтавана. Не даюць канчатковых вынікаў і апошнія даследаванні. Мураваны дом Івана Мураўёва быў узведзены ў 80-я г. XIX ст. Відаць, на мяжы стагоддзяў дом атрымаў свой сучасны выгляд. Аб гэтым можна меркаваць на падставе параўнальнага аналізу фасадаў дома Мураўёва і гродзенскай галоўнай сінагогі, якія маюць шэраг падобных рысаў.

**Гродзенскі дом урачоў** /с. 184/

Дом на вуліцы Леніна, 22, як і дом Мураўёва, меў традыцыйную назву па імені свайго ўладальніка — Тальгейма. Узгадаць гэта прозвішча варта было б. Першыя звесткі аб з’яўленні ў Гродне прускіх дваран Тальгеймаў адносяцца да сярэдзіны XIX ст. Урач Аляксандр фон Тальгейм, які і пабудаваў гэты дом, адыгрываў на пачатку XX ст. у грамадскім жыцці горада адметную ролю. Ён узначальваў у гэтыя часы таварыства аматараў драматычнага і музычнага мастацтва. Дарэчы, ганаровым членам таварыства была славутая гродзенская пісьменніца Эліза Ажэшка.

**Індурскі Троіцкі касцёл** /с. 228/

У артыкуле адсутнічаюць дадзеныя аб часе першапачатковай пабудовы касцёла. Таму да інфармацыі аб узвядзенні касцёла ў пачатку XIX ст. нядрэнна было б дадаць звесткі аб заснаванні і пабудове на гэтым месцы ў XVI ст. яго папярэдніка.

**Навагрудскія гандлёвыя рады** /с. 350/

Дата пабудовы помніка, прыведзеная ў артыкуле — 1812 г., — не адпавядае рэчаіснасці і з’яўляецца звыклым паўтарэннем традыцыйнай памылкі. На падставе архіўных крыніц можна сцвярджаць, што мураваныя рады былі пабудаваны на навагрудскім кірмашу паміж 1817—1834 гг. План горада 1816 г. азначае тут яшчэ драўляныя рады, 1834 — мураваныя. Дарэчы, у 30-я гады XIX ст. змяняецца характар забудовы кірмаша — з усіх бакоў ён абкружаецца мураванымі забудовамі. Да нашага часу гэтыя рады не захаваліся. Таму ў 1953 г. яны не маглі быць рэстаўраваны. 1953 г. — гэта год направы гандлёвых радоў, якія знаходзіліся на пляцы на месцы езуіцкага знішчанага касцёла.

Гэта толькі некалькі памылак і яны датычаць толькі Гродзеншчыны. На жаль, асноўная частка астатніх матэрыялаў — звычайны перадрук артыкулаў з састарэлых выданняў, хаця існуе нямала дакладных дадзеных новых даследаванняў. Таму адзіным пажаданнем на будучае могуць быць толькі больш уважлівыя адносіны да такой арыгінальнай культурнай спадчыны, як беларуская. Непазбежным з’яўляецца абавязковы грунтоўны падыход да вывучэння гісторыі паасобных помнікаў і як вынік гэтага — новы больш якасны ўзровень нашых ведаў.

**Юры ГАРДЗЕЕЎ**

*г. Гродна*

Гады два таму прачытаў у «ЛіМе» абвестку пра стварэнне «Белай кнігі» страчаных архітэктурных помнікаў Беларусі і вельмі ўсцешыўся. Калі ж натрапіў у кнігарні на даведнік «Архітэктура Беларусі», мільганула думка, што гэта тая самая кніжка. Але выданне расчаравала. Хацелася мець штосьці унікальнае, грунтоўнае, новае. Ды, на жаль, гэта дзіця сямі нянек з агульнай назваю «Збор помнікаў...» амаль з тымі ж заганамі.

Сёння ўжо недастаткова пазначэнняў кшталту «віленскае барока», «псеўда-рускі стыль». Варта было б папярэдне змясціць артыкул пра найбольш значныя плыні дойлідства Беларусі /готыку, барока, ракако, «мураўёўшчыну», касцельнае адраджэнне пачатку XX ст./ і правесці іх параўнаўчы аналіз з вылучэннем агульных рысаў. Наяўны ж уступ з’яўляецца хутчэй гістарычным нарысам, а не ключом для разумення архітэктурнага багацця.

Амаль не адлюстравана ў даведніку гісторыя страчаных помнікаў. У прыватнасці, у артыкуле пра Полацк і яго ваколіцы не стае здымкаў Барысаглебскага манастыра, фрэскам якога яшчэ ў 20-х гадах М. Шчакаціхін прысвяціў сваю працу, Бернардынскага й Дамініканскага кляштара, хаця здымкі іх не з’яўляюцца рэдкасцю; няма выдатнай акварэлі Ю. Пешкі з выявай францысканскага касцёла і, нарэшце, няма здымкаў базыльянскага манастыра з дзівоснымі ракайльнымі залобкамі і царквы ў Струнні, рэзідэнцыі полацкіх архібіскупаў, збудаванай з добрае ласкі архібіскупа Геракла Лісоўскага.

Няшмат увагі нададзена і драўлянай архітэктуры. Яна ж найменш трывалая, і хутка мы не пабачым тых цэркваў, каплічак, касцёлаў, якія яшчэ існуюць у нашым краі. Не кажу ўжо пра хатнія цэркаўкі ў Свіры ці Мінкавічах, але ж касцёлы ў Прынкаве, Далёкіх і, урэшце, знішчаны полымем у 1986 г. касцёл Маці Боскай Анёльскай у Мяжанах павінны былі быць змешчаныя ў кнізе, бо гэта скарбы нашай традыцыйнай культуры.

Бракуе і іншага ілюстрацыйнага матэрыялу. Шкада, што не знайшлося месца цэрквам Кáрачы, Каззякоў, Богіна, Шаркоўшчыны, касцёлам Ідолты, Ожы, Пеліканаў, Паставаў, Ашмянаў. Тое ж датычыцца асвятлення архітэктуры іншых куткоў Беларусі. Хацелася б пабачыць найбольш арыгінальныя інтэр’еры, у прыватнасці, цудоўны роспіс у стылі прымітыву Слабадзінскага касцёла, але ўкладальнікі пазбавілі чытачоў гэтай магчымасці. Непаслядоўна пазначаны ўладальнікі, пры якіх будавалася тая ці іншая сядзіба.

Нарэшце, не стае ў даведніку ўказанняў, тапаграфічных ці імянных, для вандраванняў па старажытных мясцінах.

Не скажу, што заганаў у кнізе больш за станоўчае, але да энцыклапедычнай грунтоўнасці тут далекавата...

**Міхась БАЎТОВІЧ**

*г. Полацк*

# І ЎЦІСК, І ПРЫМУС...

(Пачатак на стар. 5)

нення да тагачаснага старшыні палаты лордаў у брытанскім парламенце лорда Керзона, які падпісаў гэты план паводле сваёй пасады; усю справу апрацавала канцылярыя Лойд-Джорджа. **Англічане «ўзялі за аснову» мяжу Царства Польскага з 1815 года, на поўначы «адрэзалі» паводле «лініі Фоша» — каб не крыўдзіць французаў! — Марыямполе з Лаздзіяем, а ў цэнтры «прырэзалі» Беласточчыну.** Так вялікія нацыі разбіраюцца з нацыямі маленькімі... Лойд-Джордж цісную на прэм'ера В. Грабскага ажно пасля таго, як палякі разбілі пад Варшавай Чырвоную Армію летам 1920 года! Нарэшце В. Грабскі змушаны быў на гэта згадзіцца, але абставіў згоду шматлікімі варункамі, каб зацягнуць час: напрыклад, ад дэмаркацыйнай лініі Чырвоная Армія мае адступіць на 50 км і г. д. Дарэчы, у контрнаступленні 1920 года палякі таму і атакавалі адступаючых «чырвоных» з такой ярасцю, каб не даць адарвацца на тыя 50 км і выйсці з бою!

## VII.

Найбольш складанымі, аднак, былі польска-беларускія адносіны. Па-першае, палякі арыентаваліся, што беларускія палітычныя партыі недастаткова моцныя, каб павесці за сабой увесь народ, па-другое, **польская контрразведка ў канцы 1919 года данасіла ў Варшаву, што «на Беларусі пачатковы энтузіазм насельніцтва знік, перайшоў у непажаданне для палякаў, а потым перарос у нянавісць да ўсяго польскага»** — нічога дзіўнага: адна справа ёсць размовы палітыкаў, а другая — паводзіны рэальнай арміі на рэальнай вайне!

**13 снежня 1919 года эсэры на чале з В. Ластоўскім выйшлі з Рады БНР, былі арыштаваны палякамі і высланы да Коўна. Утвораную астатнімі дзеячамі «Найвышэйшую Раду» палякі не прызнавалі. Такім чынам, беларускі рух у Мінску быў абезгалоўлены.** У такой сітуацыі выраслі акцыі дырэктара Педінстытута В. Іваноўскага, які за год павялічыў колькасць беларускіх школ з 8 да 233, адчыніў гімназіі ў Мінску і Слуцку, а таксама ўзначальваў Саюз кааператываў з 350 майстэрань, фірмаў, кантор! Зімой 1920 года польская контрразведка паведамляла, што «ўсе беларускія партыі ўважаюць В. Іваноўскага за найвялікшы аўтарытэт»! 5 лютага ў Вільні адбылася сустрэча В. Іваноўскага з Ю. Пілсудскім: «начэльны вудз» згадзіўся на беларуска-польскую канферэнцыю і даручыў яе падрыхтоўку міністру замежных спраў С. Патку, які для перагавораў з беларусамі прызначыў экс-міністра Л. Васілеўскага. **16 сакавіка 1920 года В. Іваноўскі ў Варшаве перадаў польскаму боку «Мемарыял у беларускай справе»: па-першае, патрабаваў, каб Польшча не згаджалася на мяжу па р. Бярэзіна, але настойвала на мяжы 1772 года; па-другое, патрабаваў федэратыўнай Рэчы Паспалітай і шырокай аўтаноміі Беларусі, перадусім у нацыянальна-культурным і аграрным пытаннях.** Канферэнцыя адбылася ў Мінску **20—24 сакавіка 1920 года** — сам Л. Васілеўскі быў «старым федэралістам» і цалкам падзяляў погляды В. Іваноўскага, дастаткова прыгадаць, што ў 1900—1904 гг. з удзелам Л. Васілеўскага было разгорнута беларускае выдавецтва ў Кракаве; але ў Польшчы практычна ўзяла верх лінія «народовцув», якія лічылі, **што на Усходзе трэба заняць толькі тыя землі, дзе дамінуе «культура польска» і якія можна «асіміляваць за адно пакаленне»**! Асабліва ўпартым у адстойванні яе быў прэм'ер В. Грабскі. Л. Васілеўскі і В. Іваноўскі апынуліся паміж двух агнёў: па-першае, польскія памешчыкі не хацелі слухаць ні пра якую Беларусь і дамагаліся простага ўключэння гэтага Краю ў склад Польшчы; па-другое, большасць беларускіх партый лічыла «федэралізм» здрадай і дамагалася «незалежнай Беларусі», што ў тых умовах было справай безнадзейнай. Ад сакавіцкай сустрэчы беларусы атрымалі толькі грошы на школы і выдавецтвы — адзінае, што ім маглі прапанаваць два найбольш цвярозыя палітыкі з польскага і беларускага боку.

## VIII.

А на парозе стаяла вайна! Камандуючы савецкім Заходнім фронтам М. Тухачэўскі ўжо **10 сакавіка 1920 года** атрымаў дырэктыву пра падрыхтоўку наступлення і — ні больш, ні менш! — **«узяцце Варшавы і злучэнне з германскім пралетарыятам»!** На захад перакідваліся 1-я Конармія, 3 кав. корпус, восем стралковых дывізій і др. адзінкі Чырвонай Арміі. З другога боку, польскае камандаванне, дамовіўшыся з украінцамі, перайшло на поўдзень ад Палесся ў наступленне 25 красавіка і ўжо 7 мая 3-я польская армія заняла Кіеў, першае ж наступленне «чырвоных» на Бярэзіне было адбіта.

5 чэрвеня 1-я Конная Армія прарвала польскі фронт пад Кіевам і вымусіла палякаў адступіць на Бярдзічаў і Карасцень. Галоўнае наступленне савецкіх войск пачалося на Заходнім фронце на пачатку ліпеня: 11 ліпеня быў заняты Мінск, праз некалькі дзён 3-ці кавалерыйскі корпус Г. Гая выйшаў да Вільні. Але вайна вырашалася не толькі на крывавых палях...

У тых самых днях адбывалася чарговая мірная канферэнцыя ў Спа. 11 ліпеня лорд Керзон накіраваў наркаму замежных спраў РСФСР Г. Чычэрыну ноту, дзе пісаў, што брытанскі ўрад згаджаецца на расійскія прапановы наконт урэгулявання гандлёвых адносін і што ў справе спакою брытанскі ўрад прапануе наступнае:

— неадкладна спыніць бai, пасля чаго **польская армія адступіць за «лінію Керзона»:** Гродна, Няміраў, Брэст, на ўсход ад Хрубешава, Крылова, на захад ад Равы-Рускай, на ўсход ад Перамышля і да Карпат;

— за Гроднам лінія размежавання з літоўскай арміяй будзе праходзіць уздоўж чыгункі Гродна — Вільня — Дзвінск;

— у бліжэйшым часе ў Лондане збярэцца пакаёвая канферэнцыя з удзелам РСФСР, Польшчы, Фінляндыі і краін Балтыі... **брытанскі ўрад будзе бараніць адзінства і непадзельнасць Расіі ў яе этнаграфічных межах** /падкрэслена мной. — **А. Ч.**/;

— калі ж Расія не задаволіцца адступленнем польскай арміі, брытанскі ўрад і саюзнікі будуць змушаны ўсялякімі сродкамі падтрымаць палякаў; польскі ўрад згодны з нашымі ўмовамі, цяпер павінен згадзіцца расійскі ўрад...

**12 ліпеня 1920 года ў Маскве быў падпісаны савецка-жамойцкі ўклад, адпаведна якому паўднёвая мяжа Жамойці праходзіла па Нёмане, ёй адыходзілі Гродна, Вільня, Ліда і г. д.** 13 ліпеня жамойцкая армія перайшла ў наступленне супраць палякаў і заняла ст. Варэна, адсякаючы шляхі адступлення Віленскай групе польскай арміі, якую складалі 19-я і 22-я «літоўска-беларускія» дывізіі. З цяжкімі баямі гэтыя дывізіі прабіліся на Ліду, але з тым самым рухнуў увесь левы фланг палякаў, і 3-ці кав. корпус Г. Гая без перашкодаў даімчаў да Гродна, вышэй горада пераправіўся праз Нёман і выйшаў у глыбокі тыл польскай арміі — гэта пацягнула за сабой адступленне па ўсім фронце. Хутка Чырвоная Армія заняла Гродна і Беласток ды перанесла бai на тэрыторыю Польшчы — у сярэдзіне жніўня наступіў крытычны момант вайны.

15 жніўня на прадмесцях Варшавы палякі разбілі наступаючыя савецкія войскі, у той жа дзень на паўднёвы ўсход ад Варшавы ўдарная польская група прарвала савецкі фронт і за суткі прайшла 70 км, цэлы польскі фронт перайшоў у наступленне: прыціснутыя да германскай мяжы 3 кав. корпус і 3 армія здаліся немцам — так М. Тухачэўскі згубіў палавіну сваіх войск...

А планы ж былі вялікія! У Беластоку фарміравалі **«часовы рабоча-сялянскі польскі ўрад»**, пра што на мітынгу **2 жніўня** жыхарам паведамілі М. Тухачэўскі, Ф. Дзяржынскі, М. Скварцоў-Сцяпанаў і інш. Маніфест, падпісаны Дзяржынскім, Мархлеўскім /!/, Конам, Прухняком і Уншліхтам, быў надрукаваны накладам **6,5 млн. асобнікаў** — усяго ж на прапаганду СНК РСФСР адпусціў **1 млрд. рублёў! А «чырвоная Польшча» мела быць утворана ў межах былога Царства Польскага і... «былой» Літ.-Бел. ССР**! У Беластоку пачалі выдаваць «Гонец Чэрвоны», у Мінску «Штандар Комунізму», у Вільні «до Валькі!»... Дарэчы, аддаваць Вільню жамойтам ЦК РКП/б/ і СНК РСФСР не збіраліся: там ужо сядзеў З. Ангарэціс з аднаўленага ЦК КП/б/ЛіБ і рыхтаваў... паўстанне супраць «буржуазнага рэжыму Смятоны»! Больш таго — у канцы жніўня 1920 года даносіў У. Леніну, што такое паўстанне падрыхтавана! І толькі з улікам разваленага становішча на «польскім фронце» У. Ленін яго адмяніў!

**Ужо 25 жніўня Чырвоная Армія адступіла да Нёмана — толькі палоннымі было страчана 65 тыс. чалавек, на полі бою кінулі 230 гармат, больш 1 тыс. кулямётаў.** А ранкам 16 жніўня з Беластока на ўсход першым пабег «часовы ўрад» на чале з Ф. Дзяржынскім...

Па кароткай паўзе на фронце, — палякі займаліся ачышчэннем тылоў ад рэштак савецкіх дывізій і папаўненнем перадавых адзінак, — польскае наступленне рушыла далей. І хоць немцы праз Жамойць перадалі М. Тухачэўскаму 80 тыс. «інтэрнаваных», пра што Польшча звярнулася з нотай да Англіі і Францыі 23 жніўня, але перавага была на баку палякаў, якія за жнівень толькі добраахвотнікамі атрымалі каля 300 тыс. чалавек. У палове верасня пачалося новае наступленне: польская армія перайшла «лінію Керзона», заняла Гродна, Ваўкавыск, Друскенікі, Слонім, Брэст, Баранавічы, Маладэчна, Радашкавічы і г. д. **12 кастрычніка 1920 года** бai спыніліся — сядзеўшыя ў Мінску ад сярэдзіны жніўня дэлегацыі РСФСР і Польшчы ўзгаднілі месца перамоў /Рыга/ і дэмаркацыйную лінію: заняты з гарачкі Мінск палякі мелі аддаць назад. Так скончылася савецка-польская вайна.

## IX.

12 ліпеня 1920 года быў падпісаны савецка-жамойцкі дагавор і канчаткова пахавана ідэя «Літбела»; бальшавікі зноў пайшлі на абвяшчэнне **30 ліпеня 1920 года** Беларускай ССР — у складзе Гродзенскай, Мінскай і Віленскай губерняў без Рэчыцкага, Гродзенскага, Лідскага, Нова-Троцкага і Віленскага паветаў: усяго 18 паветаў з 56 беларускіх. У выніку польскага наступлення 12 з 18 паветаў БССР былі страчаныя — **так утварылася «дзяржаўка» з няпоўнай Мінскай губерні з насельніцтвам 1,1 млн. чалавек.**

І тут з Рыгі прыйшлі звесткі, што шэф савецкай дэлегацыі А. Іофе прапануе палякам... забраць сабе і гэтыя рэшткі БССР у абмен за прызнанне Польшчай Савецкай Украіны! Тым самым, урад У. Леніна пацвярджаў сваю ранейшую пазіцыю: ліквідаваць «беларускую праблему» радыкальна і назаўжды. Але гэтая прапанова была адкінута большасцю польскай дэлегацыі, дзе пераважалі «народовцы», прыхільнікі абмежаванага захопу на ўсходзе і «асіміляцыі за адно пакаленне»! Выходзіла так, што Беларусі пагражае самы небяспечны падзел: на захад ад Мінска — палякам, на ўсход — рускім...

«Федэралісты» лічыліся з такой магчымасцю. Перад самым канцом баёў, калі польскія арміі ўжо атрымалі загад спыніць наступленне, «узбунтаваўся» корпус генерала Л. Жэлігоўскага /19-я і 22-я дывізіі/, які заняў Вільню, Паставы і дайшоў да Дзвіны. У адказ на ноты РСФСР і Антанты Ю. Пілсудскі заявіў, што генерал дзейнічаў «самавольна» — а Л. Жэлігоўскі **12 кастрычніка 1920 года** абвясціў пра стварэнне новай дзяржавы, Сярэдняй Літвы з цэнтрам у Вільні. У той жа дзень Л. Жэлігоўскі прызначыў Часовую Упраўляючую Камісію Сярэдняй Літвы на чале з вядомым віленскім дзеячам Вітальдам Абрамовічам: дэпартамент замежных спраў узначаліў Е. Іваноўскі, дэпартамент забеспячэння і харчавання В. Іваноўскі, — пазней ён жа атрымаў яшчэ дэпартамент асветы і дэпартамент лясной і сельскай гаспадаркі, начальнікам аддзела набору ў войска ў дэпартаменце ўнутраных спраў быў С. Іваноўскі, а аддзел беларускіх школ у дэпартаменце асветы ўзначаліў Б. Тарашкевіч! Сярод віленчукоў Часовая Камісія называлася ўрадам «трох братоў»...

У сям'і Іваноўскіх пазней гаварылі, што ініцыятарамі гэтай акцыі былі на самай справе Ю. Пілсудскі і Л. Васілеўскі: прыгадаем пададзены вышэй урывак з армейскага часопіса пра «тры Літвы» ды інструкцыю Ю. Пілсудскага Л. Васілеўскаму перад канферэнцыяй у Хельсінкі — «мяцеж Жэлігоўскага» меў быць дапоўнены «мецяжом Булак-Балаховіча» і заняццем Міншчыны, а потым змушэннем Антанты на плебісцыт у Коўна, Вільні ды Мінску! «Федэралісты» спрабавалі паставіць «народовцув» перад фактам...

В. Іваноўскі і Б. Тарашкевіч увайшлі ва ўрад на падставе рашэнняў віленскага БНК ад 10 кастрычніка. У корпусе С. Булак-Балаховіча быў сфарміраваны БНК на чале з П. Алексюком, які меў сувязь з падпольнымі БНК у Мінску і Слуцку і збіраўся арганізаваць цывільную ўладу на тэрыторыі, занятай «балахоўцамі».

7 лістапада 1920 года першы эшалон корпуса С. Булак-Балаховіча сілай да 10 тыс. чалавек прарваў савецкі фронт і заняў Петрыкаў, 10 лістапада быў узяты Мазыр, куды пераехаў БНК, але далей беларускі корпус пайшоў не на Слуцк і Мінск, а... на Аўруч па правым беразе Прыпяці і на Рэчыцу па левым! Цяжка сказаць, чаму так здарылася: па-першае, генерал С. Булак-Балаховіч мог не дамовіцца са «случакамі», сярод якіх было шмат левых эсэраў і нават сяброў пракамуністычнай БКА, па-другое, летам корпус С. Булак-Балаховіча прыкрываў Люблін, панёс цяжкія страты і быў папоўнены «чырвонымі» дэзерцірамі ды атрадамі Б. Савінкава /той спадзяваўся на «сялянскую рэвалюцыю» ў Расіі і гнаў свае атрады на ўсход/ — так ці інакш, але адзінства не было...

17 лістапада «балахоўцы» занялі Рэчыцу і выйшлі на Днепр. Але ў той жа дзень рэзервы 16-й Арміі «чырвоных» нанеслі контрудар з поўначы і адбілі Калінкавічы — «бацьку» заганялі ў аператыўнае акружэнне. Генерал павярнуў на захад. 22—26 лістапада ішлі жорсткія бai на прарыў: Балаховіч згубіў да паловы людзей, 33-я кав. дывізія Чырвонай Арміі палягла цалкам... На чале з параненым генералам на польскі бок перайшлі 4,5 тыс. чалавек, прыблізна столькі ж працягвалі партызанку на савецкім баку. Апошнія «балахоўцы» перайшлі фронт 28 лістапада. Дарэчы, другі эшалон на чале з палкоўнікам Я. Балаховічам, што ішоў брату на дапамогу, быў перахоплены адыходзячай на дэмаркацыйную лінію 18-й польскай дывізіяй. Палякі патрабавалі здаць зброю, але атрымалі яе толькі пасля двухдзённых баёў пад Якімовічамі — палкоўнік Я. Балаховіч быў паранены, палякі інтэрнавалі 1,5 тыс. пяхоты і 300 кавалерыстаў. Інтэрнаваны былі і галоўныя сілы, пазней «балахоўцаў» два гады трымалі ў лагерах, а браты Балаховічы з 1923 года атрымалі канцэсію на лесапрацоўку ў Белавежы; Язэп быў забіты ў 1926-м, Станіслаў — у 1939-м ці 1942-м у Варшаве...

Апошняй спробай супрацьстаяць ганебнаму падзелу Беларусі было Слуцкае паўстанне пад кіраўніцтвам Слуцкай Рады, утворанай 14—15 лістапада 1920 года 107 дэлегатамі. Бai з Чырвонай Арміяй пачаліся 27 лістапада, асабліва жорстка яны праходзілі за мястэчкі Грозава і Семежава, якія пераходзілі з рук у рукі 7—8 снежня і 15—16 снежня. Ноччу 22 снежня случакі адарваліся ад Чырвонай Арміі і пачалі пераходзіць на польскі бок, апошнія паўстанцы перайшлі фронт 28 – 29 снежня. На Случчыне, Міншчыне і Палессі партызанская вайна працягвалася да 1925 года — ОГПУ ацэньвала сілы партызан да 7—8 тыс. чалавек, апошні атрад загінуў пад Рудзенскам у 1929 годзе...

## X.

У снежні 1920 года В. Іваноўскі падаў у адстаўку з усіх пасад ва ўрадзе Сярэдняй Літвы — лёс гэтае «дзяржаўкі» быў вырашаны: непазбежная «інкорпорацыя» да Рэчы Паспалітай пад кіраўніцтвам «народовцув» з усімі вынікаючымі з таго наступствамі. Б. Тарашкевіч працягваў палітычную дзейнасць і нават абраўся сенатарам Польшчы ў 1922 годзе, але праз некаторы час пераканаўся, што чакаць ад Польшчы няма чаго, пакупова перайшоў на бок камуністаў, стварыў Грамаду, атрымаў 12 гадоў зняволення, быў абменены і выехаў у СССР, дзе загінуў.

А пакуль што ў Рызе **18 сакавіка 1921 года** Рэч Паспалітая Польская, РСФСР і Украінская ССР падпісалі мірны дагавор: **з польскага боку** — Я. Домбскі, С. Каўзік, Э. Ляховіч, Г. Страсбургер, Л. Васілеўскі; **з расійска-ўкраінскага** — А. Іофе, Я. Ганецкі, Э. Квірынг, Ю. Кацюбінскі, Л. Абаленскі. Ад БССР у перагаворах удзельнічаў А. Чарвякоў, але яго подпісу ад БССР пад дакументам няма — так што беларусы да «рыжскай змовы» і да «граніцы з двудзестэго першэго року, свентэй для каждэго поляка» не маюць аніякага дачынення.

Дагавор прадугледжваў: **па-першае,** прызнанне суверэнітэту Польшчы, РСФСР і УССР у існуючых межах /а дзе БССР? — **А. Ч.**/; **па-другое,** неўмяшальніцтва ва ўнутраныя справы; **па-трэцяе,** узаемную рэпатрыяцыю насельніцтва; **па-чацвёртае,** узаемнае шанаванне правоў рускіх, украінцаў і беларусаў у Польшчы ды палякаў у РСФСР, УССР і БССР; **па-пятае,** эканамічныя, дыпламатычныя і інш. адносіны і г. д.

Плебісцыт на «Літве Сьродковэй» сапраўды адбыўся, але толькі на «сьродковэй» альбо «польскей» — без Коўна і Мінска. Падаўляючая большасць удзельнікаў выказалася за далучэнне да Польшчы ў якасці Віленскага ваяводства — беларусы плебісцыт байкатавалі.

У 1924 годзе БССР атрымала частку Віцебшчыны, Полаччыны і Магілёўшчыны, у 1926 — Гомель і Рэчыцу з паветамі. У Польшчы легальныя беларускія арганізацыі дзейнічалі да 1928 года — пасля «майскага перавароту» ў 1926-м ад Рыжскага дагавора Польшча адступала крок за крокам і ў 1938-м на «Крэсах» засталося аднс «Таварыства праваслаўных». У СССР пасля 1927 года, пасля канца разборак паміж Л. Троцкім і І. Сталіным і перамогі апошняга, разграмілі практычна ўсе патрыятычныя беларускія арганізацыі, выбілі кіраўніцтва і інтэлігенцыю, у 1938-м нават забаранілі дзейнічаўшую ў Польшчы КПЗБ. Такі закон таталітарызму: як толькі нехта з дыктатараў бярэ ўладу, усе папярэднія дамоўленасці адмятаюцца...

17 верасня 1939 года Чырвоная Армія перайшла «свентом граніцэ» і «спалучыла» Беларусь. Але гэта ўжо была не Беларусь, нават не «Савецкая Беларусь». Гэта была «Советская Белоруссия», і такой яна застаецца па сённяшні дзень...

ТЭАТР

## ВОСЬМЫ ПА ЛІКУ

3 кастрычніка Беларускі тэатр «Лялька» адкрыў новы, восьмы па ліку тэатральны сезон. Маленькім гледачам была прапанавана прэм'ера спектакля «Дапытлівы слонік» паводле Р. Кіплінга. За аснову ўзята інсцэніроўка Г. Уладычынай, але сцэнічная рэдакцыя, створаная пастаноўшчыкам спектакля Віктарам Клімчуком, істотна адрозніваецца ад папярэдніх літаратурна-тэатральных варыянтаў вядомай казкі. Па жанры гэта мюзікл. У ім шмат вакальных, танцавальных нумароў. Музыку напісаў Алег Залётнеў, арыгінальныя тэксты песень стварыў Пятро Ламан, а танцы паставіў Леанід Кляцко. Лялькі і сцэнаграфію прыдумала мастак тэатра Ганна Сідарава, а заняты ў спектаклі артысты Уладзімір Бублякоў, Вольга Корзун, Святлана Лунёва, Ларыса Мартынава, Вольга Маханькова, Алег Рыхтар, Юрась Франкоў.

Да новага года плануем выпусціць спектакль «Яшчэ раз пра Чырвоную Шапачку» паводле п'есы С. Яфрэмава і С. Когана. Драматургічны матэрыял дазваляе стварыць яркае, імправізацыйнае відовішча. Пераклад на беларускую мову зрабіла паэтка Марыя Баравік, пастаноўку ажыццяўляе Віктар Клімчук.

У сёлетнім сезоне мы мяркуем правесці некалькі творчых імпрэзаў. Першая з іх адбылася ўжо 9 кастрычніка на эксперыментальнай сцэне Акадэмічнага тэатра імя Якуба Коласа. Падставай для яе правядзення сталася 30-годдзе аднаго з нашых вядучых акцёраў Алеся Маханькова. У першым аддзяленні быў паказаны спектакль «Загубленая душа, альбо Пакаранне грэшніка» па творах Яна Баршчэўскага, дзе артыст выступае аж у трох ролях, а другое аддзяленне склалі канцэртна-віншавальныя нумары.

Юрась ІВАНОЎСКІ,
кіраўнік літаратурна-драматычнай часткі тэатра

## АДКРЫЦЦЁ СЕЗОНА

Першага кастрычніка адбылося ўрачыстае адкрыццё новага сезона ў Мінскім абласным драматычным тэатры. У гэты вечар тут панавала асаблівая атмасфера святочнасці, добразычлівасці і даверу. Прэм'ера п'есы «Час, Сымоне, час», якую паставіў кандыдат мастацтвазнаўства Рыгор Баравік па матывах купалаўскага «Раскіданага гнязда» і якая, па ўсім відаць, абяцае стаць дамінуючай у сезоне, праходзіла пры поўнай зале. Прысутнічалі, акрамя гарадскіх аматараў тэатральнага мастацтва, прадстаўнікі Мінска, розных творчых арганізацый і ведамстваў. Знайшоў час прыехаць на свята і старшыня Саюза тэатральных дзеячаў Рэспублікі Беларусь Аляксей Дудараў. Ён шчыра павіншаваў артыстаў і гледачоў з урачыстай падзеяй.

— Вельмі ўсцешна, — падкрэсліў А. Дудараў, — што гэты сезон пачынаецца з Купалы. Ці трэба казаць, што значыць гэта для нас, беларусаў?

М. КАПЫЛОВІЧ

*г. Маладзечна*

АДРАДЖЭННЕ

## УНІКАЛЬНЫ ПОМНІК

Цікавы помнік культуры XIII—XIV стагоддзяў, які ахоўваецца дзяржавай, знаходзіцца ў вёсцы Сынкавічы Зэльвенскага раёна. Гэта царква абарончага тыпу. Унікальна яна тым, што ў мірны час выкарыстоўвалася як культавая ўстанова, а ў перыяды набегаў ворагаў — як абарончая крэпасць. Тут ёсць усё для таго, каб весці асадны бой: шчыліны для ружжаў і пушак у сценах, адтуліны для стральбы з лука і арбалетаў і іншыя прыстасаванні.

Усе апошнія стагоддзі ў царкве пастаянна праводзіліся богаслужэнні. У ёй быў цудоўны іканастас, унутраная аддзелка ўяўляла сабой своеасаблівы твор мастацтва. Нават ворагі схіляліся перад гэтай хрысціянскай святыняй.

У 50-ыя гады нашага стагоддзя царква была разрабавана. І толькі нядаўна з дапамогай вернікаў, царкоўных улад і мясцовага калгаса «Рассвет» гэтае цікавейшае збудаванне адноўлена. Засталося прывесці да ладу ўнутранае ўбранне.

Эдуард КАБЯК

*На здымку: царква абарончага тыпу ў вёсцы Сынкавічы Зэльвенскага раёна пасля аднаўлення.*

*Фота аўтара. БЕЛІНФАРМ*

## ВЫХОЎВАЦЬ БЕЛАРУСАЎ

Пра нацыянальнае выхаванне ішла гаворка на пасяджэнні «круглага стала», які пад назвай «Абнаўленне зместу навучання і выхавання» праходзіў у Доме літаратара. Правялі яго Беларускі навукова-метадычны цэнтр гульні і цацкі і Гарадскі бацькоўскі камітэт беларускамоўных класаў і школ горада Мінска. Вёў пасяджэнне дырэктар цэнтра А. Лозка.

Разглядаліся канцэпцыі нацыянальных школы і дзіцячага садка, гаварылася пра неабходнасць стварэння адпаведных дапаможнікаў і падручнікаў, гульняў і цацак для школ і садкоў, часовага творчага калектыву для напісання другога выпуску «Беларусазнаўства».

У рабоце «круглага стала» ўдзельнічалі намеснік міністра адукацыі Рэспублікі Беларусь Г. Бутрым, начальнікі ўпраўленняў Т. Красцялёва, Г. Пятроўскі, настаўнікі, выхавацелі садкоў, прадстаўнікі навуковай грамадскасці, бацькі.

Н. К.

ВЕЧАРЫНЫ

## «БАРАНІЎ НАША СЛОВА...»

Так сказаў у сваім выступленні на вечары «І за гарою пакланюся...», прысвечаным 75-годдзю з дня нараджэння пісьменніка і мовазнаўцы Ф. Янкоўскага, які адбыўся ў Доме літаратара 7 кастрычніка, навуковец і вучань Фёдара Міхайлавіча М. Мішчанчук.

Цёплыя словы пра пісьменніка і навукоўца гаварылі С. Грахоўскі, В. Жуковіч, У. Юрэвіч, П. Місько, навуковец /яго вучаніца/ Т. Трыпуціна, В. Зуёнак, які вёў вечарыну. В. Аколава прачытала вершы, прысвечаныя Ф. Янкоўскаму. Творы самога пісьменніка прачытаў артыст В. Анісенка.

З вялікай увагай слухалі мінчане жонку пісьменніка Серафіму Андрэеўну, якая расказала пра Фёдара Міхайлавіча і яго бацькоў, пра сціплую сям'ю Янкоўскіх.

У канцэртнай праграме прынялі ўдзел артысты П. Дубашынскі, Ю. Авяр'янаў, І. Шуміліна, В. Крываносава і трыо «Рамонак».

П. ГАРДЗІЕНКА

## НОВЫ КЛУБ У СТАЛІЦЫ

У Доме ветэранаў сталіцы рэспублікі прэм'ерай кінакамедыі «Паветраныя піраты» рэжысёра І. Гараўца быў адчынены клуб «Кінанастальгія». Гэта быў дабрачынны сеанс для ветэранаў горада. Такія сеансы будуць тут праходзіць рэгулярна. Як сказала на вечарыне дырэктар абласнога кінапракату Фаіна Люцко, акцыю вырашылі правесці рэспубліканскі клуб творчай інтэлігенцыі «На ростанях» і Мінскі Дом ветэранаў. Рэпертуар будзе падбіраць савет клуба «Настальгія» па заяўках пажылых людзей горада. Гэта будуць фільмы, якія ім палюбіліся ў даваенныя і пасляваенныя часы.

П. Г.

ВЫСТАВЫ

## І ВЕРНЕМСЯ НА ГРЭШНУЮ ЗЯМЛЮ

«Дзіяна», «Апалон, Гіяцынт і Кіпарыс займаюцца музыкай і песнямі», «Марс і Венера», «Меркурый усыпляе Аргуса» — гэтыя і іншыя палотны, усяго больш за шэсцьдзесят назваў прадстаўлены сёння на выстаўцы, што працуе ў Дзяржаўным мастацкім музеі Беларусі. Аўтарства пераважнай большасці з іх не ўстаноўлена, а напісаны яны ў XVII—XIX стагоддзях рускімі і замежнымі мастакамі. Аб'ядноўвае ж усе гэтыя работы, вынесеныя на глядацкі суд з запаснікаў, тое, што створаны яны на біблейскія і антычныя сюжэты. Што ж, у наш тлумны час не лішне адысці ў думках ад турботных будняў, сягнуць у завоблачныя вышыні ці перанесціся ў далёкую даўніну. Каб, адпачыўшы душой, дакрануўшыся да прыгожага, зноў вярнуцца на грэшную зямлю.

Н. К.

## КОЛЕРЫ... «КАЛЯРОВАГА АЛОЎКА»

Гэтая выстава дзіцячага малюнка адкрылася ў тэатры юнага гледача ў Мінску. Месца размяшчэння экспазіцыі — невыпадковае. Народная студыя «Каляровы аловак», якой кіруе Ірына Фокіна, аб'ядноўвае акурат дзяцей. А хто гледачы тэатра? Таксама дзеці. Яны прыйдуць на спектакль і трапяць — спачатку — на выстаўку. А на ёй — шэсцьдзесят шэсць твораў прадстаўлены і ў кожным — усе колеры «Каляровага алоўка».

ЛІТКУР'ЕР

## НА ПАСЯДЖЭННІ СЕКЦЫІ ПАЭЗІІ

13 кастрычніка адбылося першае пасля летніх вакацый пасяджэнне секцыі паэзіі. На ім была разгледжана творчасць Івана Лашуткі і Міхася Мамонькі. Пасля грунтоўнага аналізу твораў бюро секцыі рэкамендавала І. Лашутку і М. Мамоньку на прыёмную камісію СП Беларусі. Былі абмеркаваны планы работы секцыі на бліжэйшы час.

Наступнае пасяджэнне — у сярэдзіне лістапада, на якім будзе разгледжана творчасць Станіслава Валодзькі, Віктара Лужкоўскага і Януся Мальца.

Н. К.

СУСТРЭЧЫ

## МАЛАДЫЯ МАЛАДЫМ

Часопіс «Першацвет» працягвае ладзіць сустрэчы са сваімі чытачамі. Чарговая прайшла ў школе N 197 горада Мінска.

Нязмушаная гутарка, якая ўзнікла падчас сустрэчы, не пакінула абыякавым нікога з прысутных. Дзеці слухалі вершы супрацоўнікаў часопіса, маладых літаратараў М. Віча, Л. Шчэрбы, А. Давыдава, песні Э. Акуліна.

Застаецца спадзявацца, што «Першацвет» і ў гэтую сустрэчу набыў сабе аўтараў і заўзятых прыхільнікаў мастацкага слова.

С. МАНДРЫК

## ПЕРШЫ РАЗ НА РАДЗІМЕ

У Беларускай акадэміі мастацтваў адбылася сустрэча з архітэктарам, прафесарам Сіднейскага універсітэта Святаславам Каржанеўскім. Бацькі яго, родам з Баранавічаў, ратуючыся ад бальшавіцкага рэжыму ў Прыбалтыцы эмігравалі ў канцы вайны ў Аўстралію. У сям'і ашчадна захавалі родную мову і нацыянальныя традыцыі. І хоць Святаслаў да апошніх дзён /а ён першы раз на радзіме дзякуючы намаганням айца Надсана/ не трымаў у руках аніводнага альбома па беларускім мастацтве, у ягоных архітэктурных збудаваннях, у вырашэнні інтэр'ера і ўнутранай прасторы прысутнічаюць беларуская царкоўная пластыка, дэталі народных хат, той жа сялянскай печы, перапрацаванай і абстрактнай, але чытаемай досыць дакладна. Архітэктура Святаслава Каржанеўскага — камерная, інтымна-чалавечая, гарманічна ўпісаная ў прыроду. Таму, відаць, так уразіла яго наша імкненне да грандыёзнай вычварнасці жыцця, якое стварыла і так званыя шматпавярховыя «шуфлядкі для людзей», і суцэльную нялюдскасць адносін у грамадстве. Яскравы прыклад таму — чарнобыльская трагедыя, для ахвяраў якой Святаслаў разам з айцом Надсанам прывёз лекі. «Мала хто ў свеце згадвае пра гэту аварыю. Атамныя лобі замоўчваюць жахлівыя вынікі яе на Беларусі, бо гэта перашкодзіць іх планам. Нават Аўстраліі, якая цалкам забяспечвае сябе энергіяй сонца і вады, навязваюцца атамныя станцыі», — сказаў на сустрэчы Каржанеўскі. На жаль, наша «сціпласць», няўменне звярнуць увагу сусветнай грамадскасці не толькі на нашы ўнутраныя праблемы, але і наогул на вынікі магчымых аварый на АЭС, не дазволяць чарнобыльскай трагедыі стаць папярэджаннем іншым народам свету.

Н. ШАРАНГОВІЧ

КУЛЬТУРА

## «МЕНКА» Ў ГЕРМАНІІ



Дзесяць канцэртаў за тры дні і захопленыя водгукі патрабавальнай нямецкай публікі — вынік удзелу ў Міжнародным музычным фестывалі, які праходзіў у Германіі, маладзёжнага жаночага хору «Менка». Хор гэты дзейнічае пры Беларускім дзяржаўным музеі народнай архітэктуры і побыту. У яго складзе — былыя і цяперашнія навучэнцы Мінскага вучылішча мастацтваў.

На фестываль у Германію «Менку» запрасіў мэр горада Брухзаль спадар Долл, які пазнаёміўся з майстэрствам маладых беларускіх музыкантаў у мінулым годзе на фестывалі «Еўралейскія маладзёжныя сустрэчы».

Маладзёжны хор «Менка» на чале з яго кіраўніком Уладзімірам Сінельнікам паспяхова здзяйсняе высакародную місію прапаганды нацыянальнага мастацтва Беларусі ў Еўропе.

*На здымку: у час аднаго з выступленняў у касцёле Святога Марціна г. Обергромбаха.*

*Фота Уладзіміра ВІТЧАНКІ, БЕЛІНФАРМ*

## НАПЕРАДЗЕ — ДРУГІ НАЦЫЯНАЛЬНЫ...

Пад старшынствам старшыні Маладзечанскага гарадскога Савета народных дэпутатаў Г. Карпенкі ў гарвыканкаме адбылася зацікаўленая размова па правядзенні ў чэрвені наступнага года ў горадзе Другога нацыянальнага фестывалю песні і паэзіі. Напачатку меркавалася, што такога ўзроўню і маштабу мерапрыемствы будуць праходзіць раз у два гады. Цяпер жа па прапанове Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь і Міністэрства культуры прыйшлі да думкі, што лепей арганізоўваць іх штогод.

Вырашана пашырыць і дыяпазон удзельнікаў фестывалю. На яго будуць запрошаны не толькі лепшыя нацыянальныя кампазітары, спевакі, выканаўцы, але і тыя, хто ў далёкім і блізкім замежжы прапагандуе па-беларуску беларускія песні. Больш строгім стане конкурсны адбор удзельнікаў свята «Маладзечна-94».

Прааналізаваны адначасова здабыткі і ўпушчэнні Першага беларускага фестывалю песні і паэзіі.

М. К.

ЮБІЛЕІ

## СЛЯДАМІ ВЕЧНАГА ВАНДРОЎНІКА

Своеасаблівым падарожжам па мясцінах, звязаных з імем вядомага беларускага мастака Язэпа Драздовіча, адзначыла грамадскасць Віцебшчыны дзень яго нараджэння — 1 кастрычніка. У гэты дзень прыхільнікі яго таленту з Віцебска, Полацка, Наваполацка, землякі мастака сабраліся ў дзяржаўным музеі Язэпа Драздовіча, што ў Германавічах на Шаркоўшчыне. Экскурсію для іх правяла дырэктар музея Ада Райчонак. Потым удзельнікі свята ўсклалі кветкі на магілу маці мастака, а затым выправіліся на Глыбоччыну, туды, дзе на ўскрайку Галубіцкай пушчы, у засценку Пунькі, 105 гадоў таму нарадзіўся мастак і дзе пасля сваёй нялёгкай жыццёвай вандроўкі ён знайшоў свой апошні прыстанак — на невялічкім пагосце вёскі Ліпляны.

І зноў — дарога, цяпер у Гарадзец, дзе клопатам яго землякоў і мастака Аляксея Марачкіна таксама створаны музей Язэпа Драздовіча. «Ці думаў калі дзядзька Язэп, што будуць гэтак ушаноўваць яго памяць?» — уздыхалі яго родзічы, што жывуць непадалёк, у Лужках. Здаецца, яны шчыра радаваліся, што вось нарэшце і ён не абыдзены ўвагаю, ён, які пры сваім жыцці многіх уражваў, захапляў, абураў, але рэдка каго пакідаў раўнадушным.

І. ЖАРНАСЕК

Ліст з Варшавы

# ЦІ Ж ГЭТА НЕ «СТАЛІНСКАЯ СІРАТА»?

***Адмена цэнзуры і адкрыты доступ да раней засакрэчаных архіваў выклікалі нябачную дагэтуль інтэнсіўнасць даследаванняў і шматлікасць публікацый, што тычацца сучаснасці. Узрастаючыя запатрабаванні заспакойвалі публікацыі дакументаў, манаграфіі, успаміны, якія закрывалі «белыя плямы», асвятляючы дагэтуль забароненыя тэмы. Аднак відавочная перавага крытычных ацэнак выклікала ў сваю чаргу рэакцыю прыхільнікаў датыхчасовай старанна сфабрыкаванай гістарыяграфіі, якая горача апеліруе да змоўніцка-агентурнай матывацыі, каб вытлумачыць прычыны ўсё больш частых няўдач, час ад часу выцягваючы пудзіла «сіянізму»...***

Зрэшты, шавінізм мае не адно імя; «сіяністаў» /чытай «жыдоў»/ могуць замяніць «ляхі», «гайдамакі» альбо «маскалі», у залежнасці ад краю і абставін. Такога тыпу «гісторыкі» ствараюць герояў згодна «з адзіна слушнымі» ўказаннямі, закапваючы нязручных у дрыгву падазрэнняў і паклёпу. І таму з'яўленне ў Мінску летась /у 1992 годзе/ працы К. І. Дамарада пад назваю «Партийное подполье и партизанское движение в Минской области. 1941—1944» здзівіла мяне толькі адным: што выйшла яна пад грыфам Інстытута гісторыі Беларускай Акадэміі навук. Гэтай кніжкі я не змагла набыць у Варшаве, і таму ў маім распараджэнні ёсць толькі ксеракопія, што прыслалі мне з Мінска, той часткі, якая тычыцца інжынера-нафтавіка Ільі Казінца /псеўданімы «Славак» і «Пабедзіт», сакратара гарадскога дадатковага /дополнительного/ партыйнага камітэта /доппарткома/ у Мінску, забітага гітлераўцамі 7 мая 1942 года, і Рыгора Смоляра, пісьменніка і журналіста, сакратара Беластоцкага аддзялення Саюза пісьменнікаў, які фігуруе пад акупацыйнымі псеўданімамі «Яфім Сталярэвіч» і дадзеным яму мінскім камітэтам «Скромны». Смоляр быў членам гэтага камітэта і сакратаром партыйнага камітэта яўрэйскага раёна /мінскага гета/. Ён памёр у Ізраілі 16 сакавіка гэтага /1993/ года. Мёртвыя не могуць адказаць на інсінуацыі і паклёп, на абарону іх добрага імя павінны выступіць тыя, хто добра ведаў іх жыццёвы шлях. Я пазнаёмілася са Смолярам у Беластоку вясной 1936 года. Як галоўны рэдактар беластоцкага часопіса «Zycie», я супрацоўнічала з ім — кіраўніком цэнтральнай рэдакцыі КПЗБ. У студзені 1940 года мы пажаніліся. Я захоўваю яго асабістыя дакументы, пакінутыя ў Польшчы рукапісы і выдадзеныя ім кнігі. Паводле прафесіі я гісторык з даваенным стажам і не пакідаю гэтай працы да сённяшняга дня. Думаю, што згаданыя акалічнасці абавязваюць мяне ўзяць слова.

Я звяртаюся да рэдакцыі «Літаратуры і мастацтва» даць мне месца на сваіх старонках невыпадкова. Рыгор Смоляр быў супрацоўнікам гэтага выдання, калі выйшаў з лесу і трошкі пабыўшы ў Стоўбцах рэдактарам мясцовай, да нядаўняга часу партызанскай, газеты, вярнуўся ў Мінск, дзе і застаўся да сваёй рэпатрыяцыі ў Польшчу. Гэта былі 1945—1946 гады. Супрацоўнікаў рэдакцыі ён трактаваў як сяброў, некаторых ведаў яшчэ з віленскіх, беластоцкіх ці партызанскіх часоў.

На старонцы 146 сваёй кнігі Дамарад зазначыў: «Сапраўдная роля Р. Смоляра ў Мінскім падполлі яшчэ не вывучана». На 149 старонцы, нягледзячы на абвешчаную ім жа самім адсутнасць фактаў, ён ужо ўпэўнены: «Не быў Р. Смоляр «героем падполля», якім абмаляваў сябе ў некаторых сваіх публікацыях і якім адлюстраваны ў так званых пратаколах «доппарткома», дзе ён згадваецца /пад псеўданімамі/ чатыры разы». Публікацыі, у якіх Смоляр яскрава падаваў сябе героем, аўтар не называе. Таму паспрабую яму дапамагчы. Пасля вызвалення Мінска і выйсця з лесу, калі Рыгор Смоляр пераканаўся, што існуе тэндэнцыя да змяншэння і нават замоўчвання ўдзелу яўрэяў у партызанскім і мінскім руху супраціўлення, ён вырашыў увекавечыць памяць пра ахвярных змагароў у экстрэмальных умовах гета, а таксама ў сямі партызанскіх атрадах, якія заснавалі альбо ўвайшлі ў іх уцекачы з гета. Кнігу «Мсціўцы гета» ён напісаў зімой 1944—1945 года, пісаў літаральна на каленях /у нашым пакойчыку ў бараку былі нары, але не было стала/. Надрукаваная яна была ў Маскве ў 1946 годзе выдавецтвам «Эмэс». Выйшла 10 тысяч экземпляраў на ідзіш і 50 тысяч у перакладзе на рускую мову. Частка тыражу была знішчана, калі ліквідоўвалі яўрэйскія культурныя ўстановы, а таксама згаданае выдавецтва. Зборнік кароткіх успамінаўабразкоў пад назваю «Яўрэі без жоўтых латаў», прысвечаных у асноўным партызанам і падрыўнікам з Мінскага гета, Рыгор Смоляр надрукаваў у Маскве ў 1952 годзе. Да руху супраціўлення ў мінскім гета вярнуўся ў кнізе «Дзе ты, таварыш Сідараў?», якая была выдадзена на ідзіш і ў перакладзе на іўрыт у Тэль-Авіве ў 1973 годзе, пазней перакладзена на англійскую мову ў Злучаных Штатах і на іспанскую ў Аргенціне ў 1974 годзе. Згаданы ў назве рускі ідэаліст Сідараў пераконваў у 1920 годзе пятнаццацігадовага хлопца з Замброва ў светлай будучыні камунізму. Па гадах горкіх перажыванняў, зведаных на ўласным вопыце, аўтар развітваецца з вясёлкавай карцінай будучнасці свайго першага палітычнага інструктара. Вяртаецца ён таксама ў гэтай кнізе да мінскага гета, да ахвярнага змагання людзей, асуджаных на смерць. У 1985 годзе ў Тэль-Авіве выйшла апошняя кніга Р. Смоляра пад назваю «Савецкія яўрэі ў кайданах гета». Яе можна трактаваць як новае выданне «Мсціўцаў гета», дапоўненае адшуканымі ў апошнія гады матэрыяламі, што ўключалі матывы, якія ў 1946 годзе не маглі прайсці праз савецкую цэнзуру. Гэты твор быў тэматычна пашыраны за кошт расказаў пра вяртанне ў Мінск тых яўрэяў, якія засталіся жывымі, пераважна партызан і інвалідаў вайны, адзінокіх, бо сем'і іх былі забітыя, дамы спаленыя альбо раскрадзеныя, сябры загінулі альбо выехалі. Не хапала ім не толькі ўласнага кутка і працы, але ў такой жа ступені і яўрэйскай кнігі, газеты, якога-небудзь культурнага асяродка. Хадайніцтва па гэтых справах не заўсёды сустракалася з разуменнем. Калі дойдуць да цэнтральнага камітэта партыі, дык там ахалодзіць іх недавер, падазронасць, рашучае адпрэчванне ўсялякіх прапаноў пра адбудову хоць бы ў самых сціплых памерах цэнтраў яўрэйскай культуры. Мясцовыя пісьменнікі, калегі Смоляра, якія лепш ведалі савецкую рэчаіснасць, чым выхадзец з Польшчы, беспамылкова прадвызначалі, што пагражае новая атака на культурныя ўстановы, якія яшчэ засталіся, новая хваля арыштаў. Тая хваля захапіла і знаёмых Смоляра, у тым ліку членаў яўрэйскага антыфашысцкага камітэта. Смоляр быў карэспандэнтам газеты «Einigkeit», што выдавалася камітэтам. Вестка пра новыя рэпрэсіі застала яго ў Варшаве. Ён не эміграваў з Савецкага Саюза ў 1947 годзе, як сцвярджае Дамарад. Быў рэпатрыяваны ў ліпені 1946 года, як грамадзянін Польшчы, што пацвярджае рэпатрыяцыйнае пасведчанне, якое зараз ляжыць перада мной.

Рыгор Смоляр адмовіўся ад прапаноўваемых яму пасад у дзяржаўным апараце. Лічыў сваім абавязкам працаваць на карысць яўрэйскага народа, які перажыў такую цяжкую гісторыю. Сваю працу ён выконваў як галоўны рэдактар газеты, кіраўнік аддзела культуры, а пазней як старшыня Цэнтральнага яўрэйскага камітэта ў Польшчы, старшыня Культурнага таварыства яўрэяў. Час ад часу вяртаўся да тэмы мінскага гета, якое паўплывала на ўвесь яго далейшы лёс.

Ні ў адной з пералічаных кніг ён не ўслаўляў сваёй асобы, але імкнуўся пакінуць у памяці сваіх чытачоў тых, хто прабіваўся да партызанскіх баз, удзельнічаў у змаганні лясных атрадаў, падкладаў міны на чыгунцы, мініраваў шляхі, якімі цягнуліся гітлераўскія карныя экспедыцыі, а таксама тых, хто, працуючы на прадпрыемствах, размешчаных на тэрыторыі гета і за яго абшарамі, забяспечваў крадзенай зброяй тых добраахвотнікаў, што ўцякалі ў лес. Тых, што забяспечвалі партызанскія атрады замкамі да карабінаў, толам, картамі, палявымі тэлефонамі, радыёапаратурай і запчасткамі да яе, друкарскай фарбай і гранкамі для палявых друкарняў і для канспіратыўнай друкарні ў Мінску, медыкаментамі. Па загадзе партызанскіх кіраўнікоў дастаўляліся ў лес з гета дактары і медсёстры, забяспечаныя лекамі і перавязачным матэрыялам. Апрача баявых частак, быў арганізаваны таксама атрад N 106, куды ўвайшлі людзі пажылога веку, няздольныя ўжо для барацьбы са зброяй, з патрэбнымі для баявых адзінак спецыяльнасцямі, а таксама маткі і дзеці ўцекачоў з гета. Часам гэты атрад выконваў ролю партызанскага інтэнданства. З асаблівым хваляваннем апісваў Смоляр маладых сувязістаў, праваднікоў, разведчыкаў і



*У рэдакцыі «ЛіМа». Справа-налева: Г. СМОЛЯР, У. КАРПАЎ, Н. ГЛЕБКА, У. МЕХАЎ. Здымак 1946 года.*

# БРАТЫ МАЕ ПРАЦЯГВАЮЦЬ МНЕ РУКІ...

*(Пачатак на стар. 3)*

ным з беларускага, рускага, усяго багатапляменнага жыхарства зямлі нашай, хто нямала каму з нявольнікаў гета памог выратавацца. Да гонару Беларусі, такіх тут было шмат. Не зграшу супраць праўды, сказаўшы, што не ўцёк бы, а калі б і ўцёк, усё роўна не знайшоў бы паратунку ніводзін з асуджаных на смерць у гета, калі б неяк не пададзена была яму рука падтрымкі людзьмі, якія да «кантынгенту» гета адносін не мелі. Зямны паклон тым з іх, хто яшчэ жыве. Не згасае хай добрая памяць пра тых, каго няма.

Высокая нота зададзена ўладнымі структурамі рэспублікі адзначэнню гэтай даты, мусіць, і таму, што вельмі ж пякучая зараз на шостай частцы сушы планеты, якая на геаграфічных картах гады і гады афарбавана была ў чырвоны колер, праблема міжнацыянальных адносін. Дзякаваць богу, Беларусь — не Закаўказзе, не Прыднястроўе. Але не абыходзіцца без прыкрых праяў ксенафобіі, антысемітызму і ў нас. Пагартайце брудныя лісткі, што выдаюцца ў Мінску адэптамі так званага славянскага яднання і трубадурамі пралетарскага інтэрнацыяналізму. Пачытайце, што астаецца напэцканым на лавах у засені векавых дрэў парку імя Горкага пасля таго, як тут выкрычацца мітынганты з палымянымі бальшавіцкімі і вялікадзяржаўнымі царскімі штандарамі. Зерне, якое сеялася прапагандыстамі суслаўскай вывучкі, сыпалася ж не на камень!

Сярод яўрэяў Савецкага Саюза хадзіў калісь анекдот. У Лондан, расказвалася, прыехаў з Масквы на гастролі Вялікі тэатр. І недзе на афіцыйным рауце там узнікла гаворка пра антысемітызм у СССР. «Які антысемітызм! — пафасна запярэчылі, расказвалася, чыны з кіраўніцтва тэатра. — Сярод музыкантаў нашага аркестра яўрэяў — восем працэнтаў /дзесяць, пятнаццаць — лічба залежала ад фантазіі расказчыка анекдота/. Дзе ж тут антысемітызм?! У вас у каралеўскім оперным — які ў аркестры працэнт яўрэяў? — «А мы не падлічвалі», — спакойна адказалі, нібыта, англічане.

У нядаўняй нашай палітычнай сістэме такое падлічвалася абавязкова. Дадзеным, хто, дзе і як працэнтна-колькасна прадстаўлены — паводле нацыянальнасці, партыйнасці, узросту, полу, — падрахунак вёўся рупліва. На прадпрыемстве ці ў навучальнай установе, у даследчым інстытуце ці ў творчым калектыве, у дзяржаўным апараце ці ў ліпава-выбарным органе. За нацыянальнай, гэтак мовіць, збалансаванасцю сачылася асабліва строга. Каб не больш і не менш. На бясконцыя непрыемныя ўшчуванні асуджаны быў кіраўнік, у якога ў арганізацыі баланс у гэтым сэнсе зрушваўся: партыйныя наглядчыкі адразу насцярожваліся. Але падтрымліваўся і агульнадзяржаўны — назаву так — блезір. Скажам, нават у самы разгул антысемітызму — пры Сталіне, Хрушчове, Брэжневе — чатырох, пяцёх, шасцёх яўрэяў пры кожных выбарах немінуча ўганароўвалі ўсесаюзным дэпутацтвам. І ў апараце ЦК КПБ, скажам, на якую сярэднюю пасаду неадменна саджаўся хто з яўрэяў — на выпадак, калі знойдзецца настырны французскі ці амерыканскі камуніст, што задасць, у нас гасцюючы, апрыклае пытанне, якое ў згаданым анекдоце савецкім гастралёрам зададзена было ў Лондане.

Мы маем сёння на працягах былога Саюза міжнацыянальную азвярэласць да разні, да агню, да буйнамаштабных войнаў. Думаецца, гэта вынік злачыннага дбання дзяржаўнай машыны перадусім пра блезір — пра гэтую балансавую акуратнасць карціны дружбы народаў у краіне. Патрабавалася ж большае, вышэйшае, мудрэйшае, бездакорна чыстае і дальнабачнае.

●

МІНСКАЕ ГЕТА — НАЗВА З САМЫХ ЗМРОЧНЫХ у абвінавачым акце, які вякі і вякі застанецца выстаўленым фашызму чалавецтвам. З такіх, як Асвенцім, Майданек, Трэблінка, Бабін Яр, як гераічнае варшаўскае гета, Дзевяты форт бліз Каўнаса, як Сабібар, Дахау, Равенсбрук, яшчэ колькі месцаў масавага забойства людзей у ажыццяўленне планаў карычневага цемрашальства.

У цыркулярным дакуменце важнага маскоўскага ведамства натыркнуўся я лічаныя гады назад на фармулёвачку-тлумачэнне, што азначае разуменне «гета». Прачытаў і развёў рукамі. Аказваецца, гета былі «ўстановамі дыскрымінацыі». Усяго толькі. Не загонамі для заўтрашніх-паслязаўтрашніх нябожчыкаў. Не рэзервацыямі, насельнікі якіх за людзей не лічыліся. Не пунктамі заняволення, куды траплялі не па прысуду, не ў пакаранне за здзейсненае з недазволенага — за адно нацыянальнае паходжанне. Былі, паўтараю, паводле прачытанага адыёзнага вызначэння, усяго толькі «ўстановамі дыскрымінацыі». Нераўнуючы, нешта накшталт вучэльняў былога саюзнага міністэрства замежных спраў, якія яўрэям для паступлення наглуха былі закрыты.

У Мінску гэты адасоблены калючым дротам ад астатняй тэрыторыі горада востраў — не дыскрымінацыі, як увёртліва азначылі былі яго функцыю маскоўскія канцылярысты, а цараванне чорнай смерці ў адкрытым, нідзе не захінутым і фігавым лістком абліччы, — праіснаваў ад ліпеня 1941 года па кастрычнік 1943-га. Па дні, у якія сёння ўглядаемся з пяцідзесяцігадовай ад іх аддаленасці. Калі вырашана было ў Берліне, што валаводзіцца досыць: ваенная сітуацыя ўскладняецца, як што павернецца ўперадзе, не ведае ніхто, хіба бог, — час яўрэяў звесці на зямлі канчаткова. Ва ўсякім разе, на абшарах зямлі, што заваяваны рэйхам. І фінальная акцыя ў мінскім гета была праведзена. І праз восем месяцаў, калі акупанты былі з Мінска выгнаны, лічаныя людзі — цені людзей! — хістаючыся, вышкандыбалі ў кварталах былога гета са склепаў пад руінамі, з нораў, выкапаных між магіл. Жывыя мерцвякі, каго ў тую фінальную акцыю не вынюхалі аўчаркі эсэсаўцаў; не зачапілі кулі паліцаяў, якія ашалела смалілі ў сутарэнні і гарышчы, — калі хто туды зашыўся, каб не ўратаваўся; не згледзелі марадзёры, што, ледзь дачакаўшыся канца крывавага гармідару, кінуліся па бэбахі ў дамы і двары з яшчэ цёплымі трупамі.

На колькі душ паменшылася насельніцтва планеты пасля апошняга пагрому па-над Свіслаччу? Колькі народу ўсяго закатавана ў мінскім гета за дваццаць восем месяцаў існавання? Пад сто тысяч, як лічыцца, ці многа больш — хто на гетаўскім канвееры смерці вёў улік, хто жудаснае шматдзённае, шматмесячнае падрахоўваў у адно? Ды і выпадак тут, калі болевае наша рэагаванне не ўзмацняецца, а паслабляецца пры павелічэнні лічбаў. Нездарма гаворыцца: гібель некага аднаго – траге-

***Дзяржаўны музей наладзіў выставу амерыканскіх мастакоў Тамары Стагановіч, Галіны Русак, Ірэны Рагалевіч-Дутко, Надзеі Кудасавай, Янкі Славянюка і беларускага мастака Сяргея Крыштаповіча. Работы перададзены ў дар беларускаму народу з нагоды І З'езда беларусаў свету. Сяргей КРЫШТАПОВІЧ разважае пра адну з іх — трыпціх Т. Стагановіч «Любоў, Вера, Надзея».***

# «ЛЮБОЎ, ВЕРА, НАДЗЕЯ»



Тамара Стагановіч нарадзілася на Наваградчыне. У Амерыку прыехала ў 1950 годзе з бацькамі з лагера для перасяленцаў у Германіі. Закончыла Вэстэрн каледж у Агаё, Інстытут мастацтва Калумбійскага універсітэта ў Нью-Йорку. Сябра многіх мастацкіх клубаў. У першых крытычных аглядах творчасці Стагановіч-Кольбы, якія з'явіліся ў 1968 годзе на выставе ў галерэі «Аванты» ў Нью-Йорку, яе адзначылі, як прадстаўніцу «абноўленага імпрэсіянізму нашых дзён». Тамара Стагановіч выдатна адлюстравала беларускую тэматыку ў дзесятках палотнаў, напісала партрэт Францішка Скарыны да 450-годдзя беларускага друку, а ў Амерыцы здабыла папулярнасць як ілюстратар дзіцячай кнігі й аўтар паштовак. Тамара Стагановіч удзельнічае ў дзесятках выставаў па ўсёй Амерыцы, яна ўзнагароджана вельмі прэстыжнымі амерыканскімі дыпломамі. У 1993 годзе яна адгукнулася на запрашэнне арганізатараў выставы «Жыве Беларусь», прысвечанай Першаму з'езду беларусаў свету, і падаравала свой твор-трыпціх «Любоў, Вера, Надзея» Рэспубліцы Беларусь у памяць: бацькі Аляксандра Стагановіча старэйшага, брата Аляксандра Стагановіча малодшага ды пляменніка Аляксандра Стагановіча III. Бацька Тамары, Аляксандр Стагановіч, шчыры патрыёт, верны Беларусі да канца сваіх дзён, не дачакаўся гэтага святога дня Незалежнасці. І таму самая запаветная мара Тамары, каб праз яе твор бацька з'яднаўся з роднай Беларуссю. Трыпціх прываблівае высокім майстэрствам, манументальнасцю кампазіцыі і самае галоўнае — адухоўленасцю. Гэта жывапіснае палатно раскрывае бясконцасць яе любові да роднай зямлі, аб чым сведчаць і радкі з даравальнага ліста Тамары Стагановіч ад 13.VI.1993г.: «Хай хоць мае карціны наведаюць Беларусь, хай хоць часціна маёй творчасці стане часткай любімай Бацькаўшчыны».

Любоў заўсёды была і ёсць галоўнай тэмай мастацтва. Творчасць Тамары заснавана на любві да свабоды, да Амерыкі, любві да мінуўшчыны, гісторыі, традыцый беларускіх, любві да беларускага народа за ягонае цярпенне ды мукі.

«Я, як беларуска, — піша Тамара Стагановіч, — будучы амерыканскай грамадзянкай, маю поўную свабоду любіць сваю Бацькаўшчыну Беларусь, трымацца ўсіх беларускіх традыцый, гаварыць беларускай мовай. Погляд амерыканцаў ёсць такі: «Калі ты не любіш сваю родную Бацькаўшчыну, як жа ты можаш любіць прыдбаную Бацькаўшыну».

На першым плане жывапіснага палатна «Любоў» — статуя Свабоды. Яна заўсёды ўзбуджала ў мастачкі ўспаміны пра прыезд у Амерыку: тады, у 1950 годзе, маленькая Тамара ў раннім майскім тумане ўбачыла яе магутны сілуэт, які набліжаўся да карабля эмігрантаў.

У 1903 г. на п'едэстале статуі Свабоды былі напісаны словы: «... дайце мне вашыя змучаныя, вашыя бедныя, вашыя сагнаныя масы, прагнучыя свабоды...» Іх Тамара Стагановіч назаўсёды перапляла са сваёю беларускаю сутнасцю, з любоўю да радзімы, з верай у беларускі народ, з надзеяй у сапраўды самастойную Беларусь ды са сваёю самай любай сэрцу марай — стаць часцінкай незалежнай Беларусі.

Над статуяй Свабоды ўзвышаюцца дзве велічныя постаці беларускіх кабет у нацыянальных строях. Прыгожыя сілуэты і плаўныя лініі надаюць ім непаўторную чароўнасць.

Вера... Назва гэтай работы выцякае з папярэдняй, бо «Любоў адна дастойна Веры» — Ханс Урс фон Бальтазар. Па словах Тамары Стагановіч, гэта: «Вера ў нашых продкаў, у іхнюю веру, Вера ва Усемагутнага, у беларускі народ, у яго любоў да свабоды, у ягоную шчырасць, працавітасць ды цярплівасць».

Вера... Што гэта? Гэта твары беларускіх жанчын, якія ідуць да Храма ўваскрашэння. Гэта малітва і неабходнасць у ёй, бо ў самых трагічных абставінах жыцця ці падчас высокага «нябеснага шчасця» душа чалавечая «ўся ператвараецца ў малітву». Тут кожная жанчына прыйшла са сваёю Малітваю, кожная прынесла яе да Святых. Кожная з іх прагне Свабоды праз святасць пад благаслаўленнем Божай Маці. Менавіта ад жанчыны залежыць лёс нашага народа, наша будучыня, бо стан яе душы, яе святасці ўплывае на дзяцей. Таму тут Божая Маці, Ефрасіння Полацкая, статуя Свабоды. Гэта заклік мастака да Веры, калі большасць народа стаіць на краі бездані. Але ж і заклік да пазнання, каб узнёсся дух, каб узвысіліся погляды, каб здолелі мы разабрацца ў сабе і ў Сусвеце, у лёсе нашых продкаў і матуль. І дапамогуць нам авалодаць ісцінай — Божая Маці і Заступніца беларускага народа — Ефрасіння Полацкая.

Вобраз Багародзіцы найважнейшы ў хрысціянскай антрапалогіі і касмалогіі, ва ўсім малітоўным жыцці беларусаў. Акрамя багародзічных святаў і дзён, кожнае богаслужэнне змяшчае бясконцыя звароты да яе, а яе імя штораз апавяшчаюць у Храме. Яе іконы абавязковыя і ў іканастасе, і ў дамах веруючых. Часта яны лічацца цудатворнымі. З культам Багародзіцы звязана асаблівая цеплыня, якая адсутнічае ў халодных пратэстанцкіх храмах.

Божая Маці Т. Стагановіч апранута ў чырвоны мафорый. Гэта невыпадкова. Пераклікаецца чырвонае адзенне Божай Маці з колерам вышыўкі на кашулях нашых матуль і дэкаратыўным фонам. Бо чырвоны колер вышыўкі — гэта колер крыві, якая дае моц усяму жываму. Дастаткова прыгадаць, што спрадвеку ў беларусаў толькі што народжанае дзіця спавівалі ў бацькоўскую кашулю, якая ахоўвала дзіцятка ад хвароб і прывязвала да бацькоўскага «котлішча». Чырвоны колер мафорыя — гэта колер агню. А агонь — гэта сімвал моцы духу. І сутнасць гэтага агню настолькі ззяючая, што разумееш ужо падсвядома — гэта наша заступніца, якая запаліла агонь нашай крыві, каб абудзіць Дух Веры і Свабоды беларускага народа.

Не менш пранікнёны і вобраз Ефрасінні Полацкай — светлы, мяккі па каларыце, з пявучым рытмам ліній, што надае яму ўнутраную прасветленасць, адухоўленасць.

Надзея... З ёю мастачка звязвае: «Надзею на прыход незалежнасці Беларусі, Надзею на перадачу нам духу свабоды нашых прашчураў, Надзею на самастойную Беларусь».

У цэнтры палатна бабуля — Маці — Радзіма — святло, дзякуючы якому зло становіцца бездапаможным. І як тут не прыгадаць евангельскую запаведзь аб самаахвярнай любві, якая патрабуе ад нас барацьбы за справядлівасць: «Не будзь пераможаны злом, але ж перамагай зло дабрынёй».

Такая светаноснасць і чысціня нашых бабуль і матуль ідуць ад продкаў і тых ведаў, якімі тыя надзялілі нас і якія рэалізаваліся праз выяўленчую мову нацыянальнай культурнай спадчыны. І таму невыпадкова такую вялікую ўвагу Тамара Стагановіч, як і на папярэдніх палотнах, надае касцюму. Геаметрычны арнамент на кашулях і намітках перадае дух старадаўняй Беларусі, гармонію Сусвету і законы прыроды ў адпаведнасці са старажытнымі вераваннямі беларусаў.

І ўсё ж, што нам дае Надзею? Адказ знаходзім у Вацлава Ластоўскага: «У Бацькаўшчыны, якая адлюстравалася і ў нас саміх і ў нашым характары. А ў сэрцы мы носім ясную, ніколі нягасную памяць аб ёй. Бацькаўшчына — гэта нашыя бацькі і нашыя дзеці... У кожным з нас захавана мінуўшчына і будучыня роднае нашай зямлі». І калі мы з'яднаем нашу Любоў, Веру і Надзею да Бога, Бацькаўшчыны, Маці, дзяцей у адзіны паток — мы атрымаем шанц на выратаванне.

**Сяргей КРЫШТАПОВІЧ**

Марцін КОЎЗКІ

# ДОЛЯ ПРАЎДЫ

Альфрэд Бернхард Нобель, па няправеранай версіі, заснаваў свае прэміі, калі дайшло да канверсіі. Мы, хай і не першыя, таксама ладзім канверсію: перакоўваем мячы на арала, мяняем у партыі ініцыялы. Дык не ідзе канверсія, ну прама дыверсія. Ці заводы ў нас не вайсковыя, ці кіраўнікі бесталковыя? Ломіцца Беларусь ад зброі, а ні рубля за душою. Дапамажаце нам зводдаля, уробім таго Нобеля.

●

Ля надмагільнага каменю галоўнага ветэрынара Саўміна БССР. Здымі, Саўмін, з яго цяжар, зрабі з усімі роўным, які ён там ветэрынар, які ён там галоўны. Неветэрынары самі дапнуць, што чын — не памяць.

●

Раманы шалёных аргазмаў, дэтэктывы прымітыўнай інтрыгі... Не трэба нам болей казань пра вялікую ролю кнігі!

●

— Высока скачаш, — пахваліў жабу жук, — але мошкі лётаюць вышэй. — Пачакаймо як сядуць, — сказала жаба.

●

Традыцыйнае і сучаснае ў адным абярэмку: на вуліцы Панамарэнкі дзеўчанё прадае ананасы і лушчыць семкі. Зрэшты, усё камерцыйнае — традыцыйнае, нетрадыцыйныя толькі ананасы на вуліцы Панамарэнкі.

●

Сцёрты, быццам, з гісторыі крывавы след прымусу, што ж ты, слова «суворавец», не лашчыш слых беларусаў?

●

У пар свая аўра, і гэта хлусня, што разбіраюць кентаўраў на чалавека і каня, што мараць русалкі, каб адсеклі хвасты, што дзеляцца пары на я і на ты.

●

Боль, адчай, нязгода ў вачах падлетка — магазін «Прырода»: клеткі... пасткі... сеткі...

●

Касцюмчык на Еве — дваццаць тысяч рублёў, туфлі — пятнаццаць тысяч, за прычоску ўзялі тысячу пяцьсот, лак каштаваў амаль тысячу, столькі ж цені, а яшчэ сумачка, дэзадарант, кліпсы, бялізна... Ці думаў ты, Божа, аб рынку, калі выцінаў рабрынку?

●

Пакінуць нас паэты-волаты, і павузеюць далягляды, ніжэйшай пробы стане золата, адно не зменяцца фасады. Пакуль там нехта ўтрапёна гаруе аб былых імёнах, няздары вылезуць на сцэну на перамену незаменным. Агледзяць з-пад сваіх далоней літаратурнае ўлонне.

●

Адкуль у цябе непрыхільнікі, небарака, калі ад сяброў няма адбою? Дык ты ж, небарака, як той сабака, — блох сваіх носіш з сабою.

●

У модніцы дэвіз зыходны: і агаляцца трэба модна.


ЛіМ

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:

САЮЗ ПІСЬМЕННІКАЎ БЕЛАРУСІ І МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 ГОДА

ГАЗЕТУ РЭДАГАВАЛІ:

| | |
|---|---|
| Х.ДУНЕЦ | (1932-35) |
| І.ГУРСКІ | (1935-41) |
| А.КУЛЯШОЎ | (1945-46) |
| М.ГОРЦАЎ | (1947-49) |
| П.КАВАЛЁЎ | (1949-50) |
| В.ВІТКА | (1951-57) |
| М.ТКАЧОЎ | (1957-59) |
| Я.ШАРАХОЎСКІ | (1959-61) |
| Н.ПАШКЕВІЧ | (1961-69) |
| Л.ПРОКША | (1969-72) |
| Х.ЖЫЧКА | (1972-76) |
| А.АСІПЕНКА | (1976-80) |
| А.ЖУК | (1980-86) |
| А.ВЯРЦІНСКІ | (1986-90) |

Галоўны рэдактар Мікола ГІЛЬ

РЭДАКЦЫЙНАЯ РАДА:

Святлана БЕРАСЦЕНЬ, Андрэй ГАНЧАРОЎ (першы намеснік галоўнага рэдактара), Юрась ЗАЛОСКА, Міхась ЗАМСКІ, Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ, Барыс ПЯТРОВІЧ (намеснік галоўнага рэдактара), Юрась СВІРКА

АДРАС РЭДАКЦЫІ: 220600, ГСП, Мінск, вул. Захарава, 19.

Тэлефоны: прыёмная рэдакцыі -- 33-24-61; намеснікі галоўнага рэдактара -- 33-25-25; 33-19-85; аддзелы: публіцыстыкі -- 33-25-25, пісьмаў і грамадскай думкі -- 33-19-85, літаратурнага жыцця -- 33-24-62, крытыкі і бібліяграфіі -- 33-22-04, паэзіі і прозы -- 33-22-04, музыкі -- 33-21-53, тэатра, кіно і тэлебачання -- 33-21-53, выяўленчага мастацтва і аховы помнікаў -- 33-24-62, навін -- 33-19-85, мастацкага афармлення -- 33-24-62; фотакарэспандэнт -- 33-24-62; бухгалтэрыя -- 26-86-40.





Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня "Беларускі Дом друку"

Індэкс 63856. Наклад 12.000.
Нумар падпісаны 21.10.1993 г.

П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12